# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА
І МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ
І КРЫТЫКІ



ОРГАН АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТА
САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**КНІГА ДВАНАЦЦАТАЯ**

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛіМ
МЕНСК 1933

ПЛАТОН ГАЛАВАЧ

## ЧАЦВЕРТАЕ СПАТКАННЕ

Я вельмі добра, як нішто іншае, запамінаю чалавечы голас. Таму і на гэты раз я быў больш чым упэўнены, што я не памыляюся: або гэта вельмі рэдкі выпадак падабенства, або...

Не расплюскаючы воч я прыслухоўваюся да мужчынскага голаса і рыюся ў памяці—„:Дзе я чуў гэты голас? калі?"—У маёй памяці паўстаюць вобразы маіх далёкіх і блізкіх, даўніх і сучасных сяброў і знаёмых, і ўсё-ж я ані як не магу прыпомніць, каму з іх належыць вось гэты голас, ледзь, ледзь картавы, крыху сіпаваты.

„А што калі ў адным купэ са мною,—думаю я,—едзе адзін з маіх былых сяброў?. Рысы твару я вельмі дрэнна запамінаю. Прозвішчы яшчэ горш. Падымуся і не пазнаю. Нядобра гэта."

Яшчэ напружваю памяць, але зноў нічога не магу прыпомніць.

„А ўвогуле,—кажу я сам сабе,—якая мне да ўсяго гэтага справа? Ці мала людзей сустракаў я за ўсе гэтыя гады."—і, перавярнуўшыся на спіну я выпростваюся, слухаю, як напаўняюцца сілай анямелыя рукі і ногі, і яшчэ момант ляжу нераскрыўшы вачэй.

— А чаму вы ўвесь час трымаеце акуляры ў руках?—пытае жаночы голас.

— А так сабе, без ніякай прычыны. Я зусім яшчэ нядаўна пачаў насіць іх.

„Стары ці малады?—мяркую я і расплюскаю вочы, каб аглядзець купэ. На лаўцы, насупроць мяне сядзіць мужчына гэтак год трыццаці і... зусім незнаёмы. На ім шэры, у клетку, пад замежны колер, гарнітур. Пярэсты гальштук. На сцяне побач вісіць шэрае, гэтак-жа ў клетку, паліто і кепка.

„Пэўне такія-ж і шкарпэткі?"

Я адводжу погляд уніз і бачу на нагах у суседа бліскучыя наваксаваныя гамашы і шаўковыя ў клетку шкарпэткі.

„Рабчык. Але дзе я чуў ягоны голас?"

Калі я падняўся і сеў на лаўцы бліжэй да вакна, сусед абыякава зірнуў на мяне і ўжо хацеў адвесці погляд, як сустрэўся з маім поглядам, здзівіўся ягонай празмернай уважлівасці і крыху збянтэжыўся. Але я зразумеў, што і ён ува мне не знайшоў нічога знаёмага. І вось ён сядзіць адхінуўшыся да сцяны і спакойна гутарыць з жанчынай, якая на верхняй, паліцы.

Я жанчыны не бачу. З паліцы звісае толькі край светлай пярэстай коўдры і рог чорнага паліто з шоўку, ды яшчэ я чую яе голас. Па гэтых прыкметах я стараюся ўявіць сабе яе вобраз:—„сярэдні рост, маладая, гадоў дваццаці двух, блондынка. Але што мне да гэтага?“—І я разглядаю мужчыну.

Прычоска а-ля-бокс, невысокі лоб, падстрыжаныя цёмнарусыя бровы, просты, роўны нос; пад носам кароткія падстрыжаныя з бакоў вусы і пад імі крыху адвіслая ніжняя губа. На пінжаку нейкі значок.

— „Дзівак“—думаю я і не магу стрымаць усмешкі.—„Яму куды лепш было-б „апрасціцца“, а не прычапурвацца. Навошта ўсё гэта яму?“—І тады бачу на скронях у яго пасівелыя валасы і ад іх да вачэй зморшчыны, якія губяцца за вялікімі круглымі акулярамі.

— Дык вы зноў на радзіме?

— Радзіма? Не, гэта не мая радзіма. Але ці не ўсе роўна? У часе грамадзянскай вайны я ўсе тутэйшыя месцы выхадзіў пехатою. Ведаю ўсё тутэйшыя мястэчкі і шмат якія вёскі.

— Цікава. Тады хадзілі, а цепер праз столькі год зноў на тое-ж месца. Я думаю, што гэта вельмі цікава. У вас павінны быць багатыя ўспаміны.

Я чую як варочаецца на паліцы жанчына, пэўне месціцца, каб зручней было гутарыць, чую суседаў да незвычайнага знаёмы голас, але не разумею, пра што ён гаворыць, бо ўся мая увага занята ягоным тварам. На твары ў яго за шкелцамі акуляр нарадзілася хваравітая, скрыўленая, непрыемная ўсмешка, якая штосці на момант прыпомніла мне. Каб уважлівей разглядзець усмешку на суседавым твары, з-за якой выглядаў абуджаны знаёмы вобраз, я зусім ужо не валодаючы сабой, падаўся наперад і, бачачы, як сыходзіць з твару усмешка, прыўзняў руку і ледзь не крыкнуў:—„Пачакайце, хвіліначку...“—Сусед заўважыў маю узрушанасць, збянтэжыўся, палахліва зірнуў на мяне і адвярнуўся ў бок. Усмешка сышла з ягонага твару, і я зноў бачыў перад сабою зусім незнаёмага чалавека. Аніводнай знаёмай рысы.

Каб не надакучаць больш суседу сваёй увагай, я адвярнуўся тварам да вакна. За вакном восень, аголеныя кусты, дубы з пажоўклым лісцем і адзінокія таполі каля чыгуначных будак ды шэры палявы прастор і за ім у далячыні, засланай туманамі, сіняя паска лясоў. Мне няма куды спяшацца. Я еду ў адпачынак. Дзесьці па дарозе да Масквы на аднэй з невялікіх станцый я павінен буду выйсці з цягніка, перасесці ў глыбокія сялянскія мажары і ехаць у Віхораўскі калгас, дзе жыве мой найлепшы сябра. Мы так умовіліся. І я нерухома сяджу на лаўцы каля вакна, углядаюся ў затуманеную далячынь і сумую.

Але гэта не надоўга. Раптам я пазнаю мясцовасць Гэта прыходзіць з асаблівай сілай, калі цягнік ідзе па жалезным мосце над рэчкай.

„А зараз павінен быць лесапільны завод",—думаю я, і сапраўды, як пераехалі мост, над узгоркам, побач з ускраінай лесу ўзняўся, сцелючы дымавую заслону, высокі цагляны комін пільні і далёкія шэрыя дахі будынін. Я тулюся да вакна, а потым устаю, ускідваю на плечы свой дэмісезон і, зірнуўшы яшчэ раз на суседа, іду з купэ.

У другім канцы вагона курыць праваднік. Я адразу пашоў да яго і хоць сам добра ведаў усё, запытаў у яго, ці далёка яшчэ да станцыі Пагулянка. У гэты момант я зусім яшчэ не думаў, што прыму рашэнне, якое пазней перайначыла ўсе мае меркаванні, што да адпачынку. Я проста хацеў праверыць сваю памяць, хацеў адзіноты і хацеў зірнуць праз вагоннае вакно на знаёмыя месцы, а пасля выйсці на перон на станцыі, з імем якой так багата звязана таго, што я ашчадна нашу ў сваёй памяці вось ужо дванаццаць гадоў з лішнім.

— Гэта будзе Закуціна, а наступная ваша,—адказаў праваднік, мяркуючы, што ў Пагулянцы канец маёй дарозе.—А палове сёмай будзем там.

— Дзякую.

Я зноў іду ў свой канец вагона, спыняюся каля вакна, насупроць свойго купэ і паціху насвістваю песню. Мне так лягчэй думаецца.

Цягнік ідзе з хуткасцю да пяцідзесяці кілометраў у гадзіну. Гэта я правяраю, лічачы ад адзінкі да сямі, пакуль ён праходзіць адлегласць ад аднаго тэлеграфнага слупа да другога. За вакном шырокія, бязмежныя палявыя прасторы, маладая зялёная рунь і цёмная шэрань свежай раллі. Маладыя, насаджаныя радамі дрэвы,—калгасныя сады. Я дзіўлюся, як багата іх у кожнай вёсцы. Зрэдку наводдаль ад вёсак кавалкі поля, падзеленага на шнуры. Гэта аднаасобніцкая зямля. І нейкай недарэчнай выдумкай чалавечай тырчаць на самай верхавіне ўзгорка гарбатыя межы. Час-ад-часу я бачу наводдаль ад чыгункі вёскі. Гуртам цёмна-шэрыя нізкія хаты. Паміж імі, а больш за ўсё ў баку, побач з імі, больш высокія хаты з гонтавымі дахамі і побач ледзь-ледзь у баку за вёскай даўгія будынкі для калгаснай жывёлы і высокія новыя калгасныя сілосныя вежы. Вежы першымі ўстаюць з-за ўзгоркай побач з дрэвамі, а тады ўжо за імі, як з зямлі ўздымаюцца купкамі хаты.

Мільганулі станцыйныя будынкі. Два таполі прашумелі лісцем. Вежа. Я не паспеў прачытаць надпіса на станцыйным будынку, але я ведаў, што праехалі Закуціна. Значыць яшчэ адзін перагон, і тады станцыя Пагулянка, мой даўні знаёмы былы павятовы гарадок. Даўнія, што, здавалася, засталіся па-за памяцю, успаміны ўсплылі нечакана. У памяці пасталі жывыя вобразы былых маіх таварышоў. Вось яны блізкія, бязмерна дарагія праясняюцца, ажываюць і такімі знаёмымі, што назаўжды застаюцца ў памяці, пазіраюць з-за вагоннага вакна.

Лёўка „Матрос", гэта ён у патрэбны момант мабілізаваў усе чаўны для Чонаўскага атрада. Невысокі, твар увесь укрыты рабацiннем, рыжыя валасы, звалі яго яшчэ „Лёўка-Пажар".

Жора „Кастыль", сапраўднага імя чыйго я так і не ведаю дагэтуль. Яму падстрэлілі нагу, і ён нейкі час хадзіў з мыліцай, а пазней з кійком. Шавец па прафесіі, ён любіў, каб усякую работу рабілі дасканальна, сумленна не на тандэт.

Сымон „Каваль", рабочы з кузні, здаравенны высокі хлапец. Мы бачылі яго часцей за ўсё маўклівым. Маўчаў і заўжды за працай у павяткоме сяваў адно і тое-ж:

> Цёмные силы нас злобно гнетут.
> В бой роковой мы вступили с врагами,
> Нас еще судьбы безвестные ждут...

Часам яму крычалі: кінь, не палохай, не прароч. Ён спыняў песню і каротка тлумачыў: „Усё гэта глупства вашыя гутаркі пра прароцтва, а ўвогуле ідзеце вы да маёй мамы". І пеў яшчэ:

> Но мы подымем гордо и смело
> Знамя борьбы за рабочее дело...

Лаяўся ён сваеасабліва. Я ні разу не чуў, каб ён калі кольвечы вылаяўся мацерна, брудна. Здаравенны непамернае сілы хлапец, ён як дзяўчына сарамліва чырванеў, калі бывала хто вылаецца пры ім.

І ўрэшце: самы вясёлы з нас, чыгуначнік Сцёпка „Гарманіст", музыка і танцор на ўвесь гарадок, ды яшчэ ціхі і непрыкметны, але надзвычай чулы таварыш Довід, Довідка, як звычайна звалі мы яго праміж сябе.

Змрокі гусцеюць, і ў вагоне адразу цямнее. Абапал чыгункі лес. Тады гэта быў малады нізкі хвойнік і алешнік, а цяпер лес. Гонкія маладыя сосны, як на парадзе адна ў адну, імчацца насустрач цягніку, ледзь-ледзь гойдаюцца ў верхавінні і знікаюць Паміж маладых ствалоў іхных я, прыглядзіўшыся, бачу непадалёк ад чыгункі свежы, жоўты насып дарогі, пэўне новая шаша. А яшчэ праз колькі хвілін бачу як ідуць насустрач нам па лесе, па шашы два грузавікі-аўтамабілі.

„Горад блізка".—Я шчыльна тулюся да халодныхваконных шыб, хапаюся рукамі за гладкую сцяну і паглынаю вачыма далёкія прасторы. Чую як часта і моцна стукае сэрца. Нараджаецца туга, вялікая звярыная туга адзіноты. Я ведаю адкуль яна. Я ўспомніў сваіх пяцёх былых дружбакоў і цяпер жыву далёкімі часамі, успамінамі пра тыя пакінутыя ў мінулым гады і нашую недарэчную цяжкую ростань.

І ў гэты-ж момант, калі з-за лесу замігалі гарадскія агні, я зразумеў, што выйду тут на гэтай станцыі былога павятовага гарадка і больш у вагон не вярнуся, а паеду нанач у горад і заўтра пайду на месца нашай ростані і там, аддаўшыся ўспамінам, буду доўга бязмэтна блукаць паміж курганамі

ў хвойніку, пакуль не здаволюся. Сам я цяпер не разумею, як раптоўна вырашыў я тады гэтае пытанне. Толькі памятую, што зайшоў у купэ, спяшаючыся згарнуў свае рэчы і зусім гатовым вышаў назад у калідор з чамаданам. За вакном пачынаўся горад. Новыя будыніны каля самага сасняка, нейкія склады. Непадалёк у баку новы завод і высокія на тры паверхі белыя камяніцы ў далячыні. У змроках вечара яны высока ўздымаюцца над шэрай былой ускраінай гарадка. Я таропка, нібы баючыся, што нехта верне мяне назад у купэ, заплікаю на ўсе гузікі свой дэмісезон і стаю, трымаючы ў руках чамадан, і адчуваю, як зусім ужо нястрымна б'ецца сэрца і ад хвалявання пачынаюць дрыжэць рукі. Дрыготка авалодвае ўсім целам. Я хвалююся так, як бы перад чаканнем сустрэчы, якой шукаў некалькі год. І ўжо ўсведамляючы сутнасць свайго ўчынка, я заранеи, радуюся, што сыйду на гэтай станцыі і пару дзён паблукаю па гарадку, у якім нікому да мяне няма аніякай справы, дзе мяне ніхто, напэўне, не ведае, не памятуе, дзе я змагу пажыць два дні, хоць успамінамі са сваімі старымі, крэўна блізкімі мне таварышамі. А пасля пра ўсё гэта я напішу, падрабязна напішу нашаму сёмаму, Ваську, цяперашняму вязню фашыстоўскай турмы. Мы гэтак зноўку хоць на нейкі час будзем усе разам.

З двара, калі мы выходзім з вагона, дзме халодным ветрам, і ў мяне злёгку кружыцца галава. Хтосьці сыходзіў наперадзе ад мяне. Хтосьці падганяў мяне ззаду. А перад вагонамі, бачыў я, стаяў вялізны натоўп людзей з чамаданамі, карзінамі, мяшкамі і над натоўпам плылі промні густога электрычнага святла, якое лілося з вокан старога, але нанава афарбаванага двухпавярховага будынка станцыі. На дварэ было зусім цёпла, неяк па вясноваму цёпла, і я ўжо не адчуваў ветра, але нутраны холад уздымаўся, наростаў, авалодваў усім целам, і я ледзь стрымліваючы сябе, праціскаўся ў натоўпе.

За вагзалам на выбрукаваным двары я прыпомніў, што тады былі тут цэлыя лужыны гразі, стаяла чарга, чакала аўтабуса. Я стаў за чырвонаармейцам і зірнуў навакол сябе. Злева ўсё той-жа ліпавы сад. За ім драўляны пакгаўз. Непадалёк газетны кіоск і прадуктовы ларок. Далей, гэта ўжо каля шашы, свежа пабелены будынак, у якім у тыя часы месцілася нейкая кантора, а за ім тры сасны, старыя даўнія сосны, за якімі палянка, пасля хвойнік і гасцінец да горада. З правага боку і тыя-ж старыя будыніны складаў і крам і, далей каля шашы, новыя белыя тры камяніцы.

— Гэта кватэры?—пытаю я ў чырвонаармейца.

Ён павяртае галаў у бок, куды пазіраю я, і згодна ківае галавой.

— Для транспартнікаў, жактаўскія.

Прышоў і няўдала завярнуўшыся, стаў вялізны чырвоны аўтабус. Чарга ў парадку, як стаяла, абыйшла вакол аўтабуса і яшчэ праз паўхвіліны я сядзеў на мяккай лавачцы, побач з маладым

хлапцом. Вакол мяне незнаёмыя новыя твары. Наперадзе пасівелы мужчына з партфелем. Ён доўга хукае на шкелцы акуляр і насовачкай уважліва выцірае іх. За плячыма ў мяне дзве жанчыны голасна гутараць пра нейкага агульнага свайго знаёмага і адна пахвілінна паўтарае: Дык то-та-ж, а хіба-ж хто спадзяваўся? На самай сярэдзіне аўтабуса ў праходзе стаяць хлапец і дзяўчына з кніжкамі. Яны, не звяртаючы ні на кога ўвагі, гутараць, перабіваючы друг дружку, і голасна рагочуць. Усмешка не сыходзіць з іхных твараў. Пад пахамі ў іх кніжкі і сшыткі.

„Пэўне, студэнты. Ім цяпер гадоў па дзевятнаццаць. Акурат і мы вось такімі былі ў той час." —І мне хочацца ўзняцца, падыйсці да іх сказаць: „Радавацца—гэта і значыць жыць у нашыя дні. Вы шчаслівыя, што не ведаеце і не памятуеце так добра, як я, тых дзён.

Аўтабус паперадзжальна раз-по-раз гудзе, лянiва цяжка паварочваецца і, захлёбваючыся маторным гулам, успаўзае на ўзгорак, на шашу. І тады я акурат і змецiў яшчэ раз свайго суседа па купэ. Ён стаяў каля чаргі і, пацiскаючы руку маладой дзяўчыне, раз-по-раз нізка схіляў галаў, пэўне развітваўся.

Насустрач аўтабусу дзмуў восенскі вецер. З-за верхавін старых кучаравых бярэзін, што абапал шашы, пабліскваў белаваты месяц, а я туліўся да вакна, каб лепш разгледзець знаёмыя месцы. Я дзіўлюся, што аўтабус ідзе скрозь па шашы. Значыць—гасцінец забрукавалі і яшчэ абапал абсадзілі маладымі дрэўкамі. За дрэўкамі тратуар, а не канава, і дамы драўляныя і камяніцы. Гэтага тады не было.

Я ўспамінаю, як некалі малы, жывучы ў вёсцы за пятнаццаць вёрст ад горада, марыў, як-бы папасці туды ў далёкі, невядомы, казачны горад, над якім палымнелі агні і ад гэтага на небе, што слалася за нашай вёскай над лесам, начамі стаяла зарава. Горад быў далёка. Туды не дайсці мне, і я марыў, што пройдзе багата год і горад так заселіцца, што дойдзе па шашы аж да сяла, якое за дзве вярсты ад нас. Тады, думаў я, будзе зусім блізка хадзіць у горад. Гэтыя успаміны нарадзілі ўсмешку, але я рад быў ім, бо тут от пустая прастора, што была паміж горадам і вагзалам амаль заселена, хоць і рэдка, хоць толькі яшчэ абапал шашы.

Аўтабус едзе па новаму драўлянаму мосту цераз раку.

— Гэта што-ж, хіба новы мост?—пытаю я.

Мой сусед здзіўлена павяртаецца да мяне і пытае, ці мясцовы я, а тады ўжо кажа:

— Толькі леташняй вясною скончылі будаваць.

— Скажыце, таварыш,—пытаю я,—гасцінніца ў горадзе далёка?

— У самым цэнтры. Вы горад ведаеце?

— Троху ведаю.

— Дык на Комсомольскай вуліцы, насупроць кіно.

— Гм... Але я не ведаю, якая вуліца завецца Комсомольскай. Як яна па старому?

Сусед усміхаецца.

— А я, прызнацца, зусім не ведаю як яна звалася па старому.— І, падумаўшы, пытае пярэдняга, што з партфелем:—Прабачце, можа вы ведаеце, як па старому звалася Комсомольская вуліца?

— Петрапаўлаўская,—кідае той, не павяртаючы галавы.

— Дзякую.

— Дзякую—кажу і я.—Цяпер я ведаю. Гэта на той, дзе быў некалі павятовы камітэт. Але якое-ж там кіно?

— Новае гукавое кіно,— кажа сусед.

Хутка я развітваюся з ім і выходжу з аўтабуса і хвілін пяць стаю пасярод вуліцы, аглядаючыся па баках, не пазнаючы яе. Побач са мной сталоўка, далей шыльда бібліятэкі, яшчэ далей асветлены агнямі незнаёмы будынак з высокімі ўсходамі, і я дагадваюся, што гэта і ёсць новае кіно. Некалі там быў рынак, прайсці нельга было з-за гразі і ўвосень і ўвесну. Іду туды і на рагу на скрыжаванні вуліц пытаю міліцыянера, дзе гасцінніца.

— А вось, побач. Вось гэты дом.—Ён паказвае на двухпавярховы будынак, што на рагу. Я ўглядаюся ў будынак і бачу над сабою чорны балкон, вокны на другім паверсе і прапамінаю.

— Гэта-ж тут быў павяткам комсомола,—кажу я ўголас.

— А я не ведаю, таварыш,—адказвае міліцыянер, думаючы, што я звяртаюся да яго з запытаннем.

— Дзякую,—кажу я і кіруюся да дзвярэй. Дзверы, як і некалі адчыняюцца туга. Адразу за дзвярыма вузкая лесвіца з дрэўлянымі слізкімі парэнчамі. На версе ў калідоры я хутка знаходжу пакой канторы, але ён замкнуты і цяпер, стоячы каля дзвярэй канторы я адчуваю, як з яшчэ большай сілай абуджаюцца ўспаміны.

„Ну і добра, што нікога няма“—думаю я і адыходжу да вакна што насупроць лесвіцы. За вакном зусім цёмная ноч, і я двара не пазнаю, той ці не той.

„Трэба пасядзець. Вось так“,—саджуся на вакно і, каб зруч ней было, стаўлю пад ногі сабе чамадан. А тады прыслухоўваюся да цішыні, якая пануе ў гасцінніцы. У цішыні перада мною суровай чарадой праходзяць успаміны. Я зажмурваю вочы і жывыя блізкія вобразы паўстаюць у маім уяўленні, але хутка знікаюць. Дзесці ў канцы калідора ў адным з нумароў іграе на балалайцы мужчына і напявае частушкі, а за кожным разам, як ён канчае пець, весела задзіраста дужым голасам рагоча жанчына. Адразу раптам узнікае сварлівая гутарка ў адным з суседніх нумароў.

Я прыпамінаю пакоі, але пазнаю іх не адразу. Усё цяпер па іншаму, больш перагародак і дзвярэй, чысцей. У калідоры палатняныя дарожкі, дзверы афарбаваны пад дуб, светла выбелены сцены. Але ўсё гэтак-жа злева тры ступенькі ў калідор да дзвярэй, за якімі мясціўся камітэт у трох пакоях і тая-ж лесвіца вузкая, крутая. Па слізкіх парэнчах вечна з'яжджаў з яе Сцёпка гарманіст, а пасля жартаваў, што не ўмее хадзіць бо, маўляў, ногі даўгія шкодзяць, ніяк не патраплю, ці то цераз адну, ці то цераз дзве ступенькі адразу пераступаць. Прыпамінаю яго, і здаецца, што было ўсё гэта не дванаццаць год таму назад,

а зусім, зусім яшчэ нядаўна, і калі хтосьці адчыняе дзверы з вуліцы я ўздрыгваю, спадзяючыся ўбачыць за дзвярыма ягоны твар.

Па лесвіцы паволі ўздымаецца жанчына з кошыкам. Яна здзіўлена пазірае на мяне і яшчэ не дайшоўшы да канца лесвіцы пытае:

— Кантора хіба замкнёна?

— Замкнёна,—кажу я.

— Ну, то я зараз, от толькі кошык пастаўлю.—Жанчына ідзе па калідоры туды, дзе іграюць на балалайцы, і я чую як спыняецца рогат, бо яна крычыць на другую жанчыну, а пасля разам яны ідуць да мяне.

— Ну, малады, то калі і пачакае дык нічога,—усміхаючыся кажа другая жанчына.—Дый відаць добры, а я напужалася, думала сярдзіты які.—Яна адмыкае кантору, уключае святло і садзіцца каля стала.—Ці надоўга да нас у госці?

— Дні на два.

— На два дні? Дык дзе-ж вам месца даць; у агульным, ці асобны пакой?

— Я хацеў-бы быць у самым кутнім нумары,—кажу я.—Ён вольны?

Абедзве жанчыны здзіўлена пазіраюць на мяне.

— Вы хіба былі калі-небудзь у нас?

— Ніколі.

— А як-жа вы ведаеце нашы нумары?—яны больш здзіўлена пазіраюць на мяне.

— Я ніколі ў вас не быў, але пакоі вашыя ведаю і хачу абавязкова ў той нумар. Ён вольны?—зноў пытаю я.

— Ён-то вольны,—заміналючыся ад здзіўлення кажа жанчына—але ён дужа вялікі, аж на пяць ложкаў, ці зручна будзе вам?

— Абы вольны. І прашу нікога больш не пасылаць мне ў суседзі. Можна гэта?

Гэта яшчэ больш здзіўляе жанчын.

— На аднаго ўвесь нумар?

— Ага.

— А што-ж вы будзеце ў ім рабіць? Сумна-ж. Хіба вечарынку наладзіце?... І вельмі дорага ён абыйдзецца, бо давядзецца-ж плаціць за ўсе пяць ложкаў.

— Добра, добра, гэта не важна. Я заплачу,—спяшаючыся кажу я.

— Ну, як хочаце. Вашых грошай нам не шкада. Наце вот прапішэцеся і падайце дакумант які.

Спяшаючыся, я запаўняю анкету і падаю сваё пасведчанне. Жанчыны падоўгу, абедзве разам звяраюць пасведчанне з тым, што напісана ў анкеце, а пасля маладзейшая вядзе мяне ў самы кутні пакой. На дзвярах пакоя чорнаю фарбаю напісана лічба „14".

„А за дзвярыма зноў тры ступенькі уніз", прыпамінаю я пакуль жанчына бесперастанку круціць у замку непаслухмяны ключ.

— От ключы, каб яны прапалі; круціцца, коўзаецца і не адмыкае.

Урэшце дзверы шырока адчыняюцца, і з пакою насустрач нам вее прахалодай. У пакоі паўзмрок, святло ліецца ў пакой з ліхтара, што насупроць гасцінніцы на скрыжаванні вуліц. Я стаю на высокім парозе ў дзвярах і аглядаю пакой ,а жанчына стаіць ужо на самай сярэдзіне пакоя каля стала і шырока разводзіць рукамі.

— Ну от, рабеце тут што хочаце, выбірайце любы ложак, дык я пасцялю.

— Вось гэты,—паказваю я ўлева на ложак, што каля сцяны адразу за дзвярыма.—А пазней я папрашу вас запаліць тут у печы. а то я змерзну.

— А вой, што гэта вы? Маладому сорамна мерзнуць. Яшчэ-ж не зіма.

— Я стары ўжо, я не малады.

— Ну не кажыце, а то я пачну хваліць вас.

— А я гэта дужа люблю,—і мы абое рагочам.

— А чаго-ж гэта мы тут упоцемку стаім. Уключыце унь там святло.

Я павяртаю ўключацель, і тады адразу да вакна з вуліцы падступае цемра, разбаўленая святлом ліхтара, а пакой густа запаўняецца святлом.

— Дык вы ўсур'ёз пра печку гаворыце?

— Ага, усур'ёз, вельмі прашу.

— Дык я зраблю, раз ужо так, толькі яшчэ не халодна, я думала, што жартуе чалавек.

А праз дзве гадзіны яшчэ, пасля вячэры і бязмэтных блуканняў па вуліцы, я сядзеў на крэсле насупроць печы. Каб згрупаваць на адным свае думкі, я выключыў святло і ў пакоі пануе паўзмрок. Ад печы ідзе святло і цяплынь. Я трымаю ў руках, абапершыся на яго, жалезны прэнт, якім мяшаюць у печы вугалле, і пазіраю ў самы далёкі кут пакоя. Там два вакны. Два ложкі, а тады стаяў даўгі шырокі більярдны стол. „Пэўне і раней, — дагадваюся я, — тут была таксама гасцінніца, а то адкуль-жа тады ўзяўся той стол".—Улева ад яго стаялі два меншыя сталы, на якіх мы працавалі, а на вялікім удзень сядзелі часта і пра тое-сёе раіліся. а ноччу часта спалі на ім, акрываючыся шырокім цяжкім дываном з бліскучымі брыжамі па краёх. Унізе пад намі памяшканне займаў аўто-атрад. І вось бывала засядзімся мы, незаўважым як прамільгне час і пачнем спяваць, альбо раздурэемся, пачнем рагатаць на поўныя грудзі ўсе, дык тады знізу нам стукалі ў столь і мы сціхалі адразу ўспомніўшы, што даўно ўжо ноч.

Суботнікі на горадзе, а часцей на чыгунцы і на бліжэйшых станцыях, мітынгі, вайсковыя заняткі, праца над „Азбукай камунізма" і радасныя, запоўненыя песнямі вечары. Так праходзілі нашыя дні. У сумятлівай хадзе тых дзён мы сустрэліся ў трох павяткомаўскіх комсомольскіх пакоях і пазнаёміліся. Тут жа пазнаёміўся я і з Лісніцкім. Прывёў Лісніцкага ў павятком Лёўка Матрос. Прывёў, пахваліў і пазнаёміў. Я Лісніцкага наогул

сустракаў у тыя дні часта: і на вайсковых занятках, і на сходах, але тры мае спатканні з ім засталіся ў маёй памяці і да гэтай пары.

Першае з іх—наша знаёмства. Лісніцкі стаяў насупроць мяне, якраз дзе цяпер стол, у куртцы гімназіста, у насунутай на бок шапцы, у якой па нязвычайнаму неяк быў заломлены казырок, а над казырком на выцвілым сукне вызначалася мясціна, дзе трымаўся значок гімназіста. Лісніцкі выстаўляў на паказ свае запэцканыя ў гразь гамашы і раз-по-раз, успамінаючы пра сваё спатканне з Лёўкам, мацерна лаяўся. Лёўку гэта было да спадобы. Ён хлопаў гімназіста па плячы, шырока добра ўсміхаўся, сыплючы іскры радасці са схаваных у рабацінні воч і гаварыў:

— Ён у нас замест студэнта будзе. Студэнты малайцы, рэвалюцыянерамі былі, неспакойнымі.

Лісніцкі сам усміхаўся і зноў лаяўся.

— А ты, дружа, не лайся так,—зразумеў я ягоную робленасць.—У нас гэтага не павінна быць. Не для таго рэвалюцыя рабілася, каб ты мацюгаўся.

Гэта аканфузіла Лісніцкага, ён пачырванеў, і тады я заўважыў на шчацэ ў яго каля носа радзімку. Пасля гэтага выпадку дзён колькі ён не пападаўся мне на вочы, а калі сустракаўся са мною то хуценька вітаўся і чырванеючы адыходзіў.

Пасля прайшло яшчэ колькі часу.

Недалёк ад павяткома, у завулку быў Чонаўскі склад. Я стаў на варту а дванаццатай гадзіне ночы. Памятую, моцна спаў на стале з хлапцамі. Пад дыванам было цёпла і мне доўга не хацелася падымацца, як будзіў каравульны начальнік. Але хлопцы ўзялі мяне за голаў, паднялі і пасадзілі на стале. Я спачатку нічога не разумеў, здзіўлена азіраўся навакол, а зразумеўшы чаго ад мяне хочуць, спяшаючыся, не злазячы са стала, з'еў кавалак чорствага хлеба з антонаўкай і пашоў на пост.

Ноч была цёплая і светлая. Высока над горадам плыў месяц, паліваючы святлом брукаваную вуліцу, жалезныя дахі. Святло аплывала на горад з гары з-пад белаватых пуховых хмар і абцякала па дахах і па сценах дамоў на зямлю і іскрылася на вокнах, на жалезных дзвярах Чонаўскага склада і на штыху маёй вінтоўкі. Я зірнуў яшчэ раз, ці цэлая на складскіх дзвярах сургучная пячатка і пачаў хадзіць па тратуары ў адзін і другі канец ад брамы да брамы. Даходзячы да брамы, я на момант спыняўся, углядаўся ў глыб двара і вяртаўся. Хадзіў, лічыў свае крокі і слухаў, як змаўкае горад.

Горад засынаў. Гаслі ў дамах агні і ў вуліцах замаўкала далёкае, прыглушанае тарахценне сялянскіх калёс: дзесці рушыў абоз. Зрэдку цокалі па бруку падковы, як праяжджаў па вуліцах коннік. А калі змоўк горад зусім і ўсталявалася ў вуліцах цішыня, я пачуў далёкія крокі ў завулку і прыцішаны говар. Трэба стаць і паслухаць. Вінтоўка ў самы раз, назгатове, лагодна ляжыць у маіх руках, і я, углядаючыся ў канец завулка, бачу,

як іскрыцца на штыху месяцава святло, і бачу, як, снуючы каля будынін, ідуць па тратуары трое. Яны туляцца да сцен, час-адчасу спыняюцца, і зноў ідуць. Я пачынаю хвалявацца, адчуваю, як нараджаецца неспакой. Цяпер я стаю на месцы, прытуліўшыся да сцяны, каб не быць прыкметным і чакаю. Яшчэ пара хвілін, і трое ад мяне—на адлегласці не больш сарака крокаў. Рука, працятая неспакоем, дрыжыць і паціху адкрывае замок, і падае ў рулю вінтоўкі патрон. А трое спыніліся і моўчкі стаяць пасярод тратуара, нечага чакаюць. Калі яны зноў рушылі ісці, я, прыслухаўшыся да наваколля і азірнуўшыся назад, крычу:

— Стой! Хто ідзе?

— Свае.

— Сыйдзі з тратуара.

Але трое (цяпер я іх бачу зусім выразна) ідуць па тратуары. Ідуць, віхаючыся нібы п'яныя, з гоманам.

— Стой!—крычу я яшчэ раз.—Страляць буду!—Станаўлюся за ганак для стральбы з калена і ўздымаю вінтоўку да пляча. Тады яны сталі і таропка, разумеючы, што я не жартую, кідаюцца ўцякаць.

— Стой!—я націскаю спуск і, не цэлячыся, страляю ўгару, і яшчэ, і яшчэ раз над самай галавою таго, што застаўся стаяць на месцы.

— Не страляй, свой!—крычыць гэты і ідзе па самай сярэдзіне вуліцы. Вось ён ужо зусім блізка, і я пазнаю Лісніцкага.

— Ты чаго ў такую пару ходзіш? Хто з табой быў?

— Братка! Пачакай, я раскажу.—Ён, віхаючыся, п'янаваты ідзе да мяне.—Ты толькі, братка, не кажы хлопцам. Мы хадзілі хэўраю да дзяўчат знаёмых. Ну, трошкі выпілі там і хацелі папужаць...

— Ты піў? Самагон піў?

— Зусім нябагата. Нельга было адмовіцца.

— Нельга было адмовіцца? Ты што-ж хлопчык малы, ці комсомолец?

Ад павяткомаўскага памяшкання, бразгаючы вінтоўкамі, беглі таварышы.

— Сыйдзі на брук,—кажу я да Лісніцкага.—Ну!..

— Братка, не кажы. Дзеля сяброўства... Можа калі і табе давядзецца,—і ён зноў лезе на тратуар.

— Мямля ты інтэлігентная. Дурань,—кажу я.—Ты што-ж жартуеш? А ну, сыйдзі на брук.

Калі падыйшлі з каравульным начальнікам таварышы, я далажыў, што здарылася. Адзін з таварышоў застаўся на маім месцы на варце, а мы спашаючыся пашлі ў канец завулка, спадзяючыся дагнаць сяброў Лісніцкага.

Праз два дні павятком выключыў Лісніцкага з комсомола, і тры дні я яго зусім не сустракаў, а яшчэ праз тры дні здарылася зусім нечаканае, Гэта было маё трэцяе спатканне з Лісніцкім, былым комсомольцам.

Вось гэтак-жа і ў гэтай-жа самай печы гарэлі сухія сасновыя дровы. Было адзінаццаць гадзін ночы, і святла ў павяткоме не было. І ва ўсіх пакоях павяткома спалі таварышы нашы, спалі і на сталах і проста на падлозе на шынелях, бо вакол горада блукалі белабандыцкія атрады. Адзіная абарона горада на выпадак напада белых—наш батальён вось ужо колькі дзён кватэруе ў павяткоме і ў суседнім з намі клубе імя Парыжскай Комуны.

Але мы ўтраіх не спім. Мы стаім на коленках супроць печы і чакаем пакуль спражыцца на вячэру гарох. Пражылі гарох на юшцы, бо скаварады не было. Юшка награвалася хутка, вада шыпела і выпарвалася, а гарох, набракаючы вадой, буйнеў, размякаў. Мы трэсачкай мяшалі яго, і не паспеваў ён абсохці, мы пальцамі бралі яго з юшкі, перасыпалі сабе на далоні, каб астываў, і грызлі, старанна працуючы сківіцамі, а на юшку насыпалі новага гароху. Калі сківіцы стамляліся, мы на хвіліну перапынялі ежу і паціху, каб не перашкаджаць тым, што спалі, гутарылі.

Пражылася чацвертая юшка гароху, калі Жора Кастыль тузануў мяне локцем пад бок і цыкнуў, каб я замоўк.

— Гудок. Трывожны гудок.

Мы змоўклі, чутно было, як дыхаюць таварышы і як шыпіць на гарачай юшцы вада і ледзь чутны былі кароткія ўскрыкі гудка на вагзале.

— Хлопцы, трывога! Трывога!..

Мы крычым усе разам і кідаемся апранацца. Хтосьці падхапіўся з падлогі і адчыніў у вакне фортку. З двара пацягнула ў пакой ветрам, і адразу гудкі сталі мацнейшымі, выразнымі. На вагзале па чарзе бесперапынна раўлі два паравозы. Кароткімі ўскрыкамі, поўнымі і адчаю і балючасці, кідалі яны ў прастору, у ноч, у бок да горада свае асіплыя, не хапала пары, галасы.

— Хутчэй. Збірайцеся каля склада!—крычыць нехта ў пакой да нас з калідора.

З усіх пакояў па адным ішлі, асцярожна нясучы вінтоўкі, у калідор, а адтуль на вузкую лесвіцу і на вуліцу. Абмінаючы печ, мы з кавалём Сымонам яшчэ раз зірнулі туды. З юшкі даўно выпарылася ўся вада, гарох абсох і пачынаў „страляць“.

— Вазьму з сабой, га?

— Давай!

Крысом апранахі каваль выхапіў з печы юшку і раптам сыпануў з яе гарох сабе ў шапку.

— Па дарозе перасыплем у кішэні і з'ядзім.

На лесвіцы, як сыходзілі ўніз, хтосьці заспяваў:

> Трансваль, Трансваль, страна моя,..
> Ты вся горишь в огне...

— Спыніць песню! Эх, хто там заныў?!

Песня абарвалася гэтак-жа, як і ўзнікла.

Праз хвіліну мы былі каля склада, а яшчэ праз дзве хвіліны, атрымаўшы дадаткова па дваццаць пяць патронаў, праслухалі пераклічку, кароценькае заданне камандзіра і накіраваліся ў бок да станцыі. Ішлі спяшаючыся, збіваючыся з нагі, не слухаючы як падлічвае камандзір нагу. Паравозы ўсё гэтак-жа па чарзе трывожна гулі, знервавана абрываючы свой крык, і галасы іхныя, напоўненыя трывогай і адчаем, плавалі па-над горадам, запаўнялі вуліцы і завулкі і двары, шыліся ў шчыліны вокан, даходзілі ў цесныя пакоі кватэр. Пачуўшы гудкі, людзі таропка хапаліся з ложкаў, спяшаючыся апраналіся і, ахопленыя ліхаманкавай дрыготкай, цісנуліся да ваконных шыб, каб зірнуць, што робіцца на вуліцы, а смялейшыя паціху ішлі да дзвярэй, адчынялі іх і стаіўшыся слухалі.

Мы крочым па самай сярэдзіне вуліцы, трымаючы вінтоўкі за плячом, і з хвіліны на хвіліну чакаем каманды і ад гэтага ўвесь час патроху косім у бок да камандзіра свае погляды. І тады бачым, як каля пад'ездаў мітусяцца і шэпчуцца напалоханыя абывацелі, і бачым у кватэрах за вокнамі ледзь прыметныя белыя пляміны твараў. Ззаду за намі ідуць кулямётчыкі і па бруку ляскочуць жалезныя колы „максімаў“.

Гэтак мы хутка прайшлі апошні квартал горада, пакінулі за сабою нізкія, падслепаватыя хаты ўскраіны і ўжо крочылі па шашы, у бок да маста. Ад рэчкі дзмуў свежы вільготны вецер і разам з ім даходзілі трывожныя гудкі. Але як не ўглядаліся мы ў бок, дзе станцыя, не было відаць там ані воднага агенька. Над усім панавала беспрасветная глыбокая цемра і ў ёй нараджаліся і з яе плылі на горад гудкі. І раптам гудкі змоўклі. Над лугам, над горадам, над усім прасторам запанавала напружная цішыня. Мы чакаем, мы спадзяемся, што гэта ненадоўга. Лепш трывожныя гудкі, чым такая напружная, незразумелая цішыня. Што ў ёй? Цішыня тоіць у сабе зусім нечаканую небяспеку. Збіўшыся з нагі, мы паціху ідзем у цемры, лічым хвіліны і чакаем, што вось-вось зноўку народзіцца там за ракою гудок і мы зноўку адчуем нябачную, але жывую ніць, якая звязвала нас са станцыяй. Але гудкоў няма. Над усім цішыня, і ў цішыні выразная кароткая каманда:

— Батальён, стой!.. Першая шарэнга першага ўзвода першай роты, чатыры крокі наперад. Шагам арш!.. Аць, два, тры, чатыры... — і ціхае:—Стой!.. Зарадзіць вінтоўкі поўнай абоймай!.. Ваша заданне пераправіцца цераз раку, дайсці да станцыі і падрабязна даведацца, што там. Калі станцыя занята белымі, неабходна даведацца пра колькасць іхных сіл. З першымі-ж весткамі неадкладна шліце чалавека. У выпадку нападу на вас—сігнал: два стрэлы. А цяпер слухайце каманду правафлангавага.

Усе шасцёра, радам, як скрануліся з месца, мы ішлі наперад насустрач невядомаму. На хвіліну спыніліся перад уваходам на мост, каб назваць вартавому пароль і пропуск, а тады ўсё гэтак-жа радам, нячутна пашлі па драўлянаму насцілу маста.

Нас шасцёра: я, Лёўка Матрос, Жора Кастыль, Сымон Каваль, Сцёпка Гарманіст і Довідка. З бакоў пад намі чарнела, ледзь-ледзь паблісквваючы вада ў рацэ. Адтуль уздымалася вільгаць і ахінала нас туманам.

— Ну, справы гарачыя цяпер пачнуцца,—кажа Лёўка Матрос.

— Цсс...

— На мосце не так страшна. Але адкуль усё гэта ўзялося?—пытае Жорка Кастыль.—Так ціха было і раптам... Можа наўмысля?

— У такі час і наўмысля? Паварушы мазгамі... Эх, ты!...

— Цсс...

Вось і канец маста. Я выразна ўспамінаю, як зашуршэлі тады нашыя крокі ў глыбокім пяску на гасцінцы. Цяжка ісці, але зручна, бо зусім не чуваць крокаў. І кожны з нас задаволены з гэтага і крыху супакойваецца і ніхто з нас нейкі момант не хоча верыць, калі перад намі наперадзе вырастае шарэнга людзей з вінтоўкамі і крычыць нам узняць рукі ўгару. Збянтэжаныя зусім нечаканым нападам, мы на момант разгублена стаім на месцы, потым кідаемся бегчы назад, але аднекуль з тыла гэтак сама выростае шарэнга і тады, прыпамінаючы апошні загад камандзіра, я хапаю вінтоўку і, не цэлячыся, страляю наперад перад сабою. Хтосьці крыкнуў і абсунуўся на пясок, але ў гэты-ж момант у патыліцу мне моцна стукнулі ложай вінтоўкі, і я ўпаў рукамі на зямлю. Як падаў, я пачуў яшчэ адзін стрэл і абрадваўся, што хоць папярэдзілі таварышоў. Пакуль я, аглушаны ўдарам, спрабую падняцца з зямлі, хтосці навальваецца на плечы, б'е яшчэ мяне ботам пад бок і вырывае з рук вінтоўку, а тады я ўжо збіраю сілы і ўстаю і яшчэ бачу, як падымаецца з зямлі Лёўка Матрос. Я пазнаю яго па голасу, калі ён злосна лаецца. Пастаўленыя на ногі, мы колькі хвілін стаім з узнятымі ўгару рукамі, асветленыя электрычнымі ліхтарыкамі, а здаравенныя салдацкія рукі абмацваюць нашыя кішэні і цела. Потым шчыльна абкружаныя канвоем, з прыстаўленымі да самых спін штыхамі, нарыхтаванымі, каб калоць, мы рушым у іхны штаб. Ідучы я адчуваю, як трачу сілы. Гэта не толькі ад удара. Гэта і ад крыўды, што ўсе здарылася так нечакана, так непрадбачана і так недарэчна. Ацяжэлыя ногі блытаюцца, не паспяваюць у хадзе. Але ў гэты-ж момант крыху вышэй паясніцы кранаецца спіны штых. Па целу прабягае халодная дрож, і я зноўку іду шпарчэй, каб толькі не адчуваць гэтай блізкасці халоднай сталі.

І хоць усё гэта стала даўно перажытым, успаміны настолькі моцна ўваскрашаюць сілу адчуванняў, што я мімаволі моцна ўздрыгваю ўсім целам і насцярожана аглядаюся па баках. Успаміны праз меру хвалююць. Я баюся за свае нервы і таму таропка ўздымаюся з крэсла і колькі часу хаджу па пакоі і насвістваю сваю песню, каб разгубіць, каб пазбавіцца ад цяжкіх успамінаў і легчы ў ложак зусім заспакоеным. Пахадзіўшы гэтак, я ў момант

распранаюся і кладуся і адразу адчуваю, як зmораным маім целам авалодвае цяжкі сон.

А раніцою назаўтра я праснуўся толькі тады, як да мяне ў пакой пастукалі. Жанчына, з якой я гутарыў учора, прынесла ў нумар вады для ўмывальніка.

— Дужа позна спіцё,—сказала яна.

— Я вельмі позна лёг.

— Чаго-ж так, хіба куда хадзілі?

— Не, сядзеў каля грубкі і дзівіўся, як гараць дровы.

— Нё ж дасядзелі да канца? можа і юшку зачынілі?

— Юшкі то не зачыніў, а дасядзець дасядзеў да канца, аж пакуль засталося адно вугалле.

— Нейкі дзіўны вы,—нестрымалася жанчына і ўсміхнулася. А я падзякаваў яе за ваду, памыўся і адразу пашоў на горад. Мне хацелася як мага хутчэй пайсці за раку, туды, дзе курганы. І праз паўгадзіны я быў каля знаёмых месц.

Вось старая, яшчэ кацярынінскіх часоў, каменная брама. Тут гасцінец павяртаў на гарадскі мост. Я спыняюся каля брамы, аглядаю яе, потым сыходжу з гасцінца і, паволі ўздымаючыся з аднаго ўзгорка на другі, нацянькі іду ў хвойнік. І гэты хвойнік цяпер ужо зусім высокі лес. Я стаю і дзіўлюся. Унізе ў лагчыне акурат каля самых курганаў відаць сабралася нейкая экскурсія. Пэўна студэнты, бо ў кожнага з іх у руках кнігі або сшыткі. Яны стаяць шчыльным паўкругам і слухаюць тлумачэнне свайго кіраўніка, якога я не бачу. Я павольна спускаюся з узгорка ў лагчыну, іду да экскурсіі і спыняюся непадалёк ад яе так, каб пачуць тлумачэнні кіраўніка, калі экскурсія падыйдзе да помніка. А пакуль што я не чую ні яго тлумачэнняў і не бачу яго самога.

Але вось экскурсія ідзе да помніка. Кіраўнік ідзе пасярод студэнтаў і я ўсё яшчэ не бачу яго ды сам ён мяне мала цікавіць. Я стаю непадалёк ад помніка, прыхіліўшыся да старое крывой бярэзіны, і адчуваю, як мною зноўку авалодваюць успаміны. Зноўку жывымі, да болі блізкімі паўстаюць вобразы маіх тавварышоў.

...Дзесці далёка на ўсходзе пачынаўся золак і ледзь-ледзь парадзела цемра.

Пад нагамі ў нас чорная ліпкая гразь. Ногі машынальна ступаюць у лужыны, і гразь пад нагамі хлюпае, і мы адчуваем, як яна апырсквае нам штаніны да самых кален. Побач, з усіх бакоў, пасілены канвой.

Перад гэтым мы былі ў іхным штабе на допыце. Нам прапанавалі пайсці і правесці іх па мосце, каб нечакана зрабіць напад на горад. За гэта абяцалі злітавацца, дараваць усім нам жыццё. Пасля білі і зноў угаварвалі, пагражаючы і абяцаючы літасць. Білі і пыталі, хто мы. А пасля аднекуль у штаб прышоў Лісніцкі. На ім была ўсё тая-ж шапка гімназіста і гімназістаў шынель, апрануты ў рукавы. Ён падышоў да стала, адразу адчуў сябе крыху ніякавата, калі сустрэўся

з нашымі поглядамі, а пасля схіліўся да афіцэра, які рабіў допыт і голасна сказаў:

— Усе яны комсомольцы, члены павятовага камітэта,—узняў голаў і хацеў усміхнуцца, але усмешка хваравіта неяк скрывіла ягоны твар, калі Лёўка Матрос пасля напружнага маўчання крыкнуў:

— Сволач ты паганая, сабака!..

Лёўку ўдарылі ззаду ў голаў, а Лісніцкі адразу-ж выйшаў з пакоя. А яшчэ праз пяць хвілін нас абкружылі і павялі.

Потым мы доўга, так здаецца, стаім каля кургана. Дзесці каля вагзала чутны адзінокія стрэлы.

„Канец",—напружана думаю я.—„Цяпер усё прапала".— І адчуваю, як целам авалодвае млявасць і нараджаецца абыякавасць у думках.

Нас асвятляюць кішанёвымі ліхтарыкамі. Святло слепіць нас, і вочы доўга нічога не бачаць перад сабою. „Канец",— гавару я сам да сябе шэптам і пазіраю на таварышоў. Лёўка Матрос, бачу я, пазірае кудысці ў бок, а Каваль Сымон здзіўлена і палахліва паглядае вакол сябе, не разумеючы сэнсу таго, што рыхтуецца.

З боку я чую каманду. Салдаты ўскідваюць на руку вінтоўкі, і тады я проста перад сабою на адлегласці не больш дванаццаці крокаў бачу блiскучыя канцы штыхоў. Потым, усё яшчэ не валодаючы сабою, чую, як ляскаюць замкі вінтовак, і разам з гэтым маланкай нечаканая думка:—„Тыя, што з боку, дзівяцца на тых, якія цэляцца. Калі кінуцца ў цемру, можна адратавацца".

— Няхай жыве...

Гэта штурханула мяне з месца. Ірвануўшыся, я з усіх сіл скочыў у цемру і пачуў, як сцебанулі паветра густым залпам стрэлы. Потым яшчэ і яшчэ прагрымелі адзінокія стрэлы наўздагон мне і пачуўся цяжкі тупат салдацкіх ног. А пасля мёртвая цішыня, вільготнае дно старой канавы і густыя кусты...

Зноў, як учора я ўздрыгваю ўсім сваім целам і пальцамі хапаюся за шурпатую кару бярэзіны. І ў гэты-ж момант, як громам мяне спыняе на месцы зусім-зусім знаёмы мне голас. Я слухаю яго і ўжо не магу стрымацца і, адштурхнуўшыся рукамі ад бярэзіны, іду бліжэй да экскурсіі.

„Так, так. Гэта або нарэдкасць такое вялікае падабенства, або гэта ён".

Я іду яшчэ бліжэй, здзіўляючы сваімі паводзінамі студэнтаў, і сам крыху здзіўлены спыняюся, калі пазнаю майго ўчорашняга суседа па купэ.

„Але-ж голас... Так, так, картавы, сіпаваты... А на правай шчацэ ў яго пад самым вокам каля носа павінна быць радзімка".

Не валодаючы сабою, я расціхаю студэнтаў і іду да кіраўніка экскурсіі, каб зазірнуць яму з боку пад акуляры. Змеціўшы знаёмую радзімку, я падаюся яшчэ бліжэй да яго.

Збянтэжаны і напалоханы маімі паводзінамі, лектар гаворыць безсістэмна і блытана і просіць студэнтаў запытаць, што патрэбна тут гэтаму грамадзяніну.

— Правакатар!—крычу я да яго прыглушанным голасам. Слова б'е яго проста ў твар, і твар заліваецца крывёю, чырванее, а потым гэтак-жа ў момант робіцца белым, як палатно. Я пазіраю яму ў твар і бачу, як ён, жадаючы авалодаць сабою, каўтае сліну і прыкусвае сваю ніжнюю губу. Здзіўленыя студэнты, як аслупянелыя, моўчкі стаяць на месцы.

— Я вас не ведаю. Хто вы такі? Што вы верзяце?..

— Затое я вас ведаю, грамадзянін Лісніцкі. Памятаеце тую ноч у белабандыцкім штабе!..

— Пятро Хамякоў!..

Маё імя зрываецца з вуснаў Лісніцкага нават зусім нечакана для яго самога. Ен быў упэўнены што мяне растралялі тады разам з другімі пецярыма і ад таго ён так разгубіўся, пазнаўшы мяне. З ягонага твару адразу знікла напускная ганарлівасць і напышлівасць. Моўчкі ён стаяў перада мною, не кранаючыся з месца, бяссэнсава паглядаючы па баках, баючыся спаткацца вачыма з маім поглядам, і бесперастанку разгублена міргаў вачыма. А я апавядаў студэнтам пра історыю комсомольскай магілы і час-ад-часа паказваў рукой на Лісніцкага. Калі мая рука выцягвалася ў напрамку да яго, Лісніцкі адводзіў погляд кудысь у бок і нервова папраўляў і абцягваў рукамі крысы свайго клетчатага пінжака.

— Так,—гаварыў я.—Я Пятро Хамякоў, комуніст, былы павяткомавец, а ты былы гімназіст і правакатар...

Кожнае слова маё біла Лісніцкага, і ён, як загнаны ў тупік звер-баязлівец, баючыся са страху скрануцца з месца, курчыўся пад ударамі. Знікла ягонае гадамі ўзгадаванае ўменне трымаць асанку, і шэры гарнітур у клетку цяпер вісеў на ім нязграбна, мешкавата, і зусім ужо лішнімі, недарэчнасцю нейкай трымаліся на ягоным твары вялікія круглыя акуляры і гэткай-жа недарэчнасцю тырчэлі ашчаціні ўшыся кароткія, абстрыжаныя з бакоў вусы.

Гэта і было маё чацвертае спатканне з Лісніцкім. Яно адбылося праз дванаццаць год з лішнім, пасля таго, як мы сустрэліся з ім у белабандыцкім штабе. Я затрымаўся ў гарадку яшчэ на адзін дзень, а на трэці дзень пасля майго прыезда туды, я пакідаў гарадок, каб зноўку вярнуцца назад у сталіцу.

Менск, 2—XI—1933 г.

ЯКУБ КОЛАС

# ДРЫГВА [1])

## XXX

Трывожна здрыганулася Палессе.

Балота балоту, лес лесу перакідалі грознае водгулле невыразнага гуду. Баязліва калыхнулася ў ціхім паветры маладое, яшчэ зусім кволае лісце на гнуткіх галінках адноўленага дрэва. Ажыўшыя купчастыя бярозкі, ашлякоўваючы высокі бор жывым вянком свежай, пахучай зелені, стаялі ў нейкім разважлівым зняменні і, здаецца, прыслухоўваліся да гэтага нязвычнага далёкага грукату, ад якога калыхалася ціхае, прагрэтае сонцам паветра і ўздрыгвала зямля, перадаючы гэта ўздрыгванне дрэвам і маладому лісцю на іх. Такое-ж дапытлівае недаўменне выражаў усім сваім выглядам і сам стары бор, высока ўзнёсшы свае пышныя верхавіны і грэючы іх на веснавым сонцы ў хвалях чыстага паветра. А калі па лесе праходзілі лагодныя павевы ветра, то галінкі і лісце на іх лёганька пакалыхваліся і шэпатам пыталі ветра: „Што? што? што?“. Нават сталыя буслы прыпынялі свой шпацыр па ўскрайках балот і трывожна прыслухоўваліся да дзіўнага гулу. А гэты гул расцякаўся па нетрах балот і лясоў, трывожыў звяроў і птушак. Старыя вепры натапырвалі вушы, слухалі, не разумелі нічога, але палохліва рохкнуўшы, на ўсякі выпадак падаваліся глыбей у дзікія пушчы і вялі за сабой сваё маладзейшае пакаленне.

Гром і цяжкае бухканне, нібы вокханне зямлі ад нейкага болю, наводзілі страх і трывогу. Людзі, як слухачы і разам з тым удзельнікі і акторы вялікай соцыяльнай драмы, дзе вырашаліся лёсы мільёнаў, выходзілі на двор, станавіліся ў зацішнае месца, лавілі вухам далёкія, глухія пярэклічкі гармат, з боязнюківалі галовамі і гаварылі:

— Пачалося.

А іх растрывожаныя думкі рысавалі ім жудасныя малюнкі вайны.

Сялянская руплівасць і дбанне аб заўтрашнім дні загадзя ставілі на чаргу дня цэлы рад турботных пытанняў. І людзі ў цішы сваіх цёмных і лясных закуткаў думалі, як захаваць

---

1) Канец, гл. „Полымя Рэволюцыі“, №№ 5, 6, 7, 8, 9, 11.

мізэрны запас хлеба ад прагавітай пасці вайны, як усцерагчы сваю худобу, каня і іншы набытак ад панскай ненаеднасці, як нарэшце злаўчыцца самому, каб не папасці пад крывавае кола вайны.

— Рушылі палякі,—перадавалі з двара ў двор, з вёскі ў вёску страшныя весткі аб вайне.

Людзі хапаліся за работу, каб выкарыстаць, покі не позна, кожны дзень, кожную часіну, каб аддаць зямлі на захаванне і на прырост хоць малую колькасць збожжа і бульбы, а рэшту схаваць, каб не адабралі няпрошаныя госці. Спяшаліся сеяць, спяшаліся хаваць, спяшаліся прыпыніць худобу па мала вядомых выспах, па недаступных астравох.

Хоць усе ведалі і спадзяваліся, што з вясною вайна пачнецца з новаю сілаю, але, калі прышла вясна і прынесла весць аб вайне, то гэтыя весці тым не меней глыбока трывожылі і хвалявалі народ. Што-ж будзе? Чым кончыцца гэта вайна?

А вайна толькі пачыналася, толькі разгортвалася.

І першымі пачалі яе белапалякі. А момант для гэтага быў зручны. Цэлыя часці Чырвонай арміі зняліся з гэтага фронта, каб перакінуцца на поўдзень. Падцягнулі белапалякі войска, падвезлі гарматы, бронямашыны, зброю. Болей дзесятка дывізій сабралі правей Палесся і рушылі іх на Кіеў, па старой, пратоптанай інтэрвентамі дарозе. Шпарка пасоўвалася наперад белапольскае войска, на шырокім фронце павялі наступ. Зашуршалі, як лісце ў познюю восень, польскія лістоўкі і газеты. Буйнымі літарамі апавяшчалі яны аб перамогах польскай зброі, аб захопе сёл, гарадоў і цэлых раёнаў. Гарліва маліліся ксяндзы па касцёлах, чыталі паведамленні з франтоў аб перамогах і заклікалі народ на ахвяры, на геройскія ўчынкі, на вайну за святую веру каталіцкую супроць бязбожнікаў-большэвікоў.

Граніц не было панскай радасці і панскаму гонару. Высока ўзносіла іх патрыятычная хваля, і шмат хто з іх ужо лічыў, што большэвікам прышоў канец, што польскае крулеўства закрасуе ад мора да мора і не марудзілі яны варочацца ў свае панскія котлішчы, адкуль павыганяла іх Кастрычніцкая рэволюцыя.

Радасць, патрыятычнае захапленне веснавым разводдзем залівалі панскую Польшчу, а з-за гэтага віра патрыятычнага энтузіазма не бачылі паны, ці не хацелі бачыць таго, што не ўсё было спакойна ў глыбокіх і блізкіх тылах ваеннага фронта. На фоне падзей шырокага маштаба, дзе ставіліся на карту лёсы мільёнаў, дзе вырашалася пытанне, быць ці не быць новай, маладой сістэме жыцця, за якую біліся большэвікі, адбываліся падзеі малых ахватаў, дзе выступалі паасобныя людзі, ці групы людзей, як адгаліненне падзей вялікага размаху, з тою толькі розніцаю, што тут яны не такія згушчаныя, не такія яркія і мала каму вядомыя.

Тыдні два праваляўся ў пасцелі Васіль Бусыга пасля стычкі з Саўкам Мільгуном. Дзён пяць паляжаў у бальніцы. Васіль

пушчаў. На грудзях яго блішчалі стужкі патронаў, апяразваючы крутыя дзедавы грудзі двума шырокімі паясамі. У адной руцэ дзяржаў ён „настаяшчую“ ваенную стрэльбу, апёршы яе прыкладам на імшысты дол. Побач з ім таксама з патроннаю стужкаю цераз плячо стаяў яго меншы сын Панас і ўсе партызанскія камандзіры. Не было толькі сярод іх Мартына Рыля.

— А ты, пан, што-ж не складаеш зброі? Ці ваяваць яшчэ хочаш?—запытаў дзед Талаш пана Крулеўскага. Той моўчкі зняў шаблю і рэвальвер і аддаў іх партызанам.

— Ну, чый-жа ты цяпер падданы?—прыгадаў яму дзед Талаш тое-ж пытанне, што сам ад яго чуў калісь. Пан Крулеўскі маўчаў.

— Вядзеце іх туды!—вялікім пальцам левай рукі паказаў у лес стары атаман,—і яго вядзеце!—кінуў ён на пана Крулеўскага.

Пана Крулеўскага вялі асобна ад салдат. З афіцэраў адзін толькі ён і застаўся: усе яны палі ў часе бою.

На маленькай гарбінцы зямлі, шырока раскінуўшы нерухомыя рукі, ляжаў грамоздны чалавек. Смерць налучыла яго тады, калі з невялікай западзінкі выбягаў ён на гэты гарбок зямлі. На левай руцэ яго, ніжэй локця, ляжаў неразлучны яго спадарожнік, заграгічны карабін. Бледны твар забітага героя-партызана, абернуты к небу, слепа глядзеўшаму на зямлю скрозь густыя макушы старога леса, быў урачыста спакойны. Суровыя складкі на лбе разгладзіліся, і строгі былі яго самкнёныя губы і выгнутыя чорнымі дужкамі вусы на іх. І не свая жонка апошні раз цалавала іх.

Нежывою групаю трохі далей ляжалі забітыя партызаны.

Дзед Талаш акінуў іх смутнымі старымі вачамі. Ён спыніўся над трупам свайго вернага таварыша і панура звесіў над ім пасівелую галаву. Ні на кога не гледзячы, гаварыў дзед Талаш словы развітання над трупам свайго друга і забітых таварышоў.

— Не падымецеся болей, мае саколікі, на голас ваяцкай трубы! Мартыне, мой голубе! Вырваўся ты з панскай нявол!, і гэты карабін, што лёг на тваю нежывую руку, здабыў ты, бароначы сваю волю. Расплюшч-жа, мой голубе, вочы, ды зірні: вунь ён вораг наш, стаіць апусціўшы вочы. Не ўдалося яму забраць нас жывымі... Спачывайце-ж, сокалы мае родныя, і не турбуйцеся: не загіне наша справа—мы будзем вартаваць яе пільна, і дзяцей вашых мы не пакінем...

Дзед Талаш змоўк і нізка апусціў галаву.

— Капайце, таварышы грамада, магілы: пахаваем іх!

Падняў дзед вочы, зірнуў на польскіх салдат.

— А вы, сынкі, што-ж? Паны, ці панскія слугі, што прышлі занявольваць нас, гарапашніцкую галечу?

З натоўпу палонных выступіў салдат.

— Бацька камандзір! Вярні мне волю і стрэльбу: з вамі плячоў-плячо я буду ваяваць.

І яшчэ выступіў адзін з палонных. Падышоў да Панаса.

— Ці пазнаеш ты, хлопчэ, мяне?—запытаўся і ўважна паглядзеў Панасу ў вочы. Панас паглядзеў на яго і радасна ўсміхнуўся.

— Бацька! Вось ён той самы салдат, што выпусціў мяне з астрога.

Зірнуў дзед Талаш на пана Крулеўскага.

— Бачыш, пан: твае салдаты на наш бок пераходзяць і ўсе яны пяройдуць, калі дазнаюцца праўду.

І яшчэ адзін чалавек стаяў адзінока ў лесе, наглядаючы гэту сцэну. Ён хацеў падыйсці сюды і сказаць свае слова, але не адважыўся. Чалавек гэты быў Саўка Мільгун.

Востраносы човен шыбуе ўпоперак Прыпяці. Два чалавекі сядзяць у чоўне. Адзін малады, курносы, з узбітым чубам, не спяшаючыся, рытмічна, узмах за ўзмахам гоніць човен. Другі важна сядзіць на пярэдняй часці чоўна. Пад пахаю ў яго партфель. Шмат гадоў запісалі часы ў маршчынах яго твару і ў глыбокіх складках на высокім лбе. Удумліва пазіраюць кудысь у глыб, відаць, у мінулае, яго цёмныя, яшчэ жывыя і вострыя вочы. Гэта—дзед Талаш—старшыня сельсовета. Човен гоніць яго сакратар, Самок з Вепраў. Адпачывае дзедава „настаяшчая" стрэльба, ужо астыўшая ад гарачыні зацятых боек па дзікіх трушчобах Палесся. Цяпер у дзеда Талаша другі клопат, другія мыслі, але гэта шырокая Прыпяць будзіць дзедавы ўспаміны аб нядаўнім мінулым.

— А помніш, Самок, як лоўка вырвалі мы батальён таварыша Шалёхіна з польскіх лап і пераправілі на той бок?

Самок весела падымае шэрыя вочы, і ў вокнах іх іскрыцца смех.

— Паднеслі ім, называецца, дулю пад нос... Ну, дзівіліся-ж яны, куды зніклі чырвонаармейцы.

Дзед Талаш толькі ў вус пасміхаецца.

— Ну, а як ты мяркуеш, голубе: ці пойдзе наша гуртовая гаспадарка?

— А чаму не пойдзе? Зямля ёсць, коні ёсць, рабочых рук хапае... Пойдзе!—і ўпэўненасць чуваць у сакратаровым голасе.

— Эге-ж! І я думаю, што пойдзе.

Па справе „гуртовай" гаспадаркі і едуць яны ў волвыканком, каб аформіць яе. Гуртам надумаліся залажыць яе. Яна практычна развязвае цэлы клубок турботных пытанняў, аб дапамозе сем'ям забітых партызан: Мартына Рыля, Кандрата Буса і іншых. У гэту гаспадарку адводзяцца землі Кандрата Біркі і Сымона Бруя. Іх судзілі пролетарскім судом і засудзілі на высылку. Войта, Васіля Бусыгу, у „расход" вывелі, як зацятага контррэволюцыянера. Аўгіня не захацела аставацца на Васілёвай гаспадарцы, аддала „грамадзе" ўсю маёмасць і падала заяву, каб і яе прынялі ў „гуртовую" гаспадарку. Абмеркавалі заяву, узялі пад увагу Аўгініную заслугу перад партызанамі і пастанавілі—прыняць.

Шуміць і гамоніць совецкае Палессе, і новыя акорды чуваць у гэтым шуме і ў гэтым гомане. Прынікае вецер гарачым тварам да шырокіх, анямелых у сваім адвечным застоі балот і шэпча зялёнай жорсткай траве на купінах аб тым, што ідзе сюды новы, совецкі чалавек, каб парушыць іх зняменне, каб абярнуць іх у багатыя лугі і нівы. Гуляе вецер над купчастымі макушамі палескіх пушчаў, калыша галіны над свежымі курганамі-магіламі, параскіданымі па высокіх пясчаных выспах, і толькі ён адзін, гэты вольны баян, апявае славу пахаваных у гэтых курганах-магілах ды складае людзям песні аб сейбітах буры і змагання.

Над дрыгвяністым балотам узнімаецца выспа, на выспе—курган. Высокі і шырокі слуп, старанна ачэсаны партызанскаю сякераю, вартуе гэту магілу-курган. На дубовым слупе, выразаны рукою няхітрага рэзбяра два словы: „Мартын Рыль“. На магіле ляжыць просты вянок з жывых кветак Палесся. Сюды зрэдку, у вольныя дні, прыходзяць дзве жанчыны: маці і дачка. Адкрыла маці дачцы сваю тайну, праўду аб тым, хто яе бацька. У засмучэнні падымае Алеся сваю чарнявую галоўку на высокі дубовы слуп. Гэта яна прыносіць на магілу вянок жывых кветак. Моўчкі ідуць яны ад магілы, адна ў засмучэнні аб тым, што было, другая ў радасным усведамленні, што сапраўдны бацька яе—герой-партызан.

Праходзяць гады. Дзеду Талашу цяпер восемдзесят гадоў з хвосцікам. Трудна ўжо яму займайцца грамадскаю работай, але без работы ён заставацца не хоча. Ён—вартаўнік на Прыпяці. Яго работа—даглядаць і запальваць ліхтары на вач. Дзед Талаш любіць успамінаць сваё партызанства. Як вынік тых успамінаў, і з'явілася аповесць „Дрыгва“. Канчаючы яе, я хачу сказаць людзям пра адно моцнае дзедава заданне, якім ён жыве цяпер: дзед Талаш дужа хоча пабачыць таварышоў: Сталіна, Варашылава і Будзённага. І яшчэ адзін штрышок да абрысоўкі пастаці старога партызанскага атамана.

Калі дзеду Талашу напомніць аб ворагах совецкай улады і аб вайне супроць яе, тады ён выпрастае прыгнутую гадамі спіну, зірне па-арлінаму.

— Го! Я сеў-бы на каня і паказаў-бы яшчэ, чаго варт стары Талаш!

Менск, 9/XI—1933 г.

ПЯТРУСЬ БРОЎКА

## ТАК ПАЧЫНАЛАСЯ МАЛАДОСЦЬ

(Урыўкі з паэмы)

### НОЧ ЗАЙДЭНВАРА

Над краінай заняўся пажар.
Акупанты прышлі, што звяры,
І краіна закутая стогне ад болю.
Ходзіць Менскам жандар.
І бунтоўна гарыць
Комсомольскае сэрца ў глыбокім падполлі.

Не спазнаеш, хто свой, хто чужы?
На рагу вартавы, быццам корч,
Да асфальту прырос нярухомаю глыбай.
Менск прыціх. Менск дрыжыць...
Толькі вуліцай злосная ноч
Б'е вар'яцкім крылом анямелыя шыбы.

На рагу вартавы, быццам корч.
Дэфензыва. Нязмоўчна гудуць гаражы,
Заліваюцца шпоры канаркаў ўсю ноч.
Менск прыціх. Менск дрыжыць...

Як-жа спаць Зайдэнвару [1]), калі
Хоць жывому кідайся ў вяроўку—
Сёння вечарам бачыў: зноў трое ішлі
Між багнэтаў спакойна на Камароўку [2]).

І ў вачох іхні воблік праходзіць цяпер,
Сэрца б'ецца ў агні, і балючым і палкім:
Яны ідуць, як героі, спакойна на смерць,
Быццам толькі ідуць на партыйную яўку.

Яны побліз ідуць. Не адходзяць ад воч.
Яны кажуць: „Бывай-жа, таварыш!"

[1]) Кіраўнік Менскага комсомола ў часы белапольскай акупацыі.
[2]) Ускраіна Менска, дзе белапалякі звычайна расстрэльвалі рэволюцыянераў.

Як-жа спаць Зайдэнвару ў гэткую ноч?
Як-жа спаць Зайдэнвару?

І пакойчык яго абціскае адно:
Сцены душаць бакі без ніякай патолі.
Сторчма рушыцца столь. Сэрца б'ецца ў вакно,
Яно просіцца выйсці на волю.

Захістаўся пакой. І такая грызня—
Ад газоўкі нясцерпны кідаецца жар.
Цісне. Душыць кругом. І рукі не узняць.
— Што-ж ты робіш цяпер, Зайдэнвар?

Крыкнуў так. А потым збянтэжана змоўк.
— Што ты робіш, вар'ят. Свае зубы вазмі на замок...
Зашаптаў ён сабе і пачуў: за сцяною гамонка,
Шуміць самавар. Стала ясна кругом.
Прасвятлела ў ваччу.
— Я... які-ж я цяпер Зайдэнвар?

І успомніўся дзень. І падпольны партком.
І не стала трывог і ніякага жару.
Пашпарт выдалі там. Абвялі алаўком:
— „Ты ўжо Цукер[1]), таварыш!"

За сцяною-ж гамонка ледзь чутна чуваць
Пра адвечную тэму: аб грашох і аб хлебе.
Стала смешна самому, хоць ідзі жартаваць:
„Можа цукер патрэбен?.."

Цукер... Цукер салодкая рэч ды не ўсім,
Прад вачыма паўсталі канаркі крылатыя,
Замільгалі пагоны у злой мітусні...
— Вам я куляю буду, праклятыя!

Вам я куляю буду за пакуту і смерць,
Што на вісельнях граеце першую скрыпку...
Ноч гула за вакном, як раз'юшаны звер,
То, як злодзей, хадзіла за сценкай на цыпках.

Нарастала рашучасць, выціскаючы жах,
Думкі рушылі сцены неўтаймованым гурмам...
Цукер слухаў, як сэрца гарэла ў грудзях,
Як гарачая кроў узнімалася бурна.

І хацелася зараз-жа выйсці і стаць
І падужацца сілай з дэфензыўшчыкам кожным.
А на памяць ўсплыло: Загадаў сакратар—
„Цукер, будзь асцярожным...

[1]) Падпольная клічка Зайдэнвара.

У глыбокім подполлі не месца свавольцам!"
І пячатка задумы лягла на абліччы.
Заўтра сход... Комсомольцы...
Саўчык... Соня... Прашчыцкі... [1])

Трэба моладзь агнём барацьбы запаліць,
Навучыць быць упартай і разам старожкай.
Мірыады малюнкаў па столі плылі,
І ўсхвалёваны Цукер кідаўся на ложку.

Яны-ж лезлі бясконца, бунтоўныя мары,
 сціскалася моцна да болю рука.
Так праходзіла ноч Зайдэнвара
Маладога падпольшчыка-большэвіка.

## У ПАДПОЛЬНАЙ ДРУКАРНІ

Сіні золак зоры гасіць,
Б'ецца птушкай у вакоцы.
За падпольнай пыльнай касай
Набіраюць комсомольцы.

Хай, што шрыфту выбар малы,
Што ён збіты і не новы,
А кладуцца у рэалы,
Як маланкі, тыя словы!

Набіраючы, тут марацы
Пра агні іх прокламацый.
Хай, што пот цячэ па твары,
І нямеюць ў стоме пальцы!

Хай! Затое сінім ранкам
Будзе радасці ў іх поўна—
Заблішчаць жывыя гранкі
Сваёй сілаю бунтоўнай.

Як пачнуць-жа друкавацца,
Вось тады ў імпэце гонкім,
Што аратары, заскачуць
Праклaмацыі з „Бастонкі".

Так без стомы. Познім часам
Без святла, амаль упоцем,
За падпольнай пыльнай касай
Набіраюць комсомольцы.

І жаданне іх збылося:
Вось трывожным ранкам гэтым—

[1]) Актыўныя комсомольцы Менскага падполля.

Ўжо гатовыя палосы
Маладзёжнае газеты.

Кожны з іх душою вызнаў,
Што, як ноч ізноў настане
Пойдзе „Факел Комунізма“ [1])
Клікаць моладзь на змаганне.

А ў друкарні за сцяною
Комсомольскіх думак схова—
Кожнай літарай жывою
Яны ў бой рыхтуюць словы.

І ў хлапцоў хутчэй на мэце
Друкаваць літаратуру.
Толькі дзе падзеўся Пеця, [2])
Не прыносіць карэктуры?

Хутка дзень. Відно ўжо будзе,
Дзе тады з наборам дзецца?
І расце трывога ў грудзях:
Дзе той Пеця?

Меркаванняў, думак розных
Тут праносіцца багата...
А па вуліцы марознай
Ходзіць Яшка-правакатар.

Кожны грук бярэ на слух ён,
Правярае яго тройчы,
Ловіць ён сабачым нюхам,
Дзе працуюць комсомольцы.

Сцежку толькі ён спазнай—
І для хлопцаў будуць краты.
Ходзіць Яшка Розеншайн,
Ходзіць Яшка—правакатар. [3])

І яму сягоння горна,
Што не можа ён дазнацца.
На яго-ж сумленні чорным
Шмат загінула змаганцаў.

Ходзіць ён. Яго-ж прымеціў
Усю сабачую натуру—
І за мост схаваўся Пеця
З комсомольскай карэктурай.

---

[1]) Падпольная маладзёжная газета.
[2]) Падпольная клічка члена ЦК КСМ Літвы і Беларусі, тав. Вараб'ёва.
[3]) Правакатар, які раней у Менску, а потым у Вільні прадаў шмат актыўных комуністаў і комсомольцаў.

Яшка-ж ходзіць у абнове,
Па кварталах носам вудзіць.
Злосць у Пеці Вараб'ёва
Душыць грудзі.

Ён знаёмы з гэтым спрытам,
З гэтым ворагам ліслівым.
Яшка ўжо амаль адкрыта—
На рабоце ў дэфензыве.

Злотым там яго узялі,
Ён сваіх прадаў дачыста,
А раней, пакуль не зналі,
Прыкідаўся актывістам.

Помніць Пеця, як на тройцы,
Хіба хто гэта забудзе:
„Я загіну комсомольцам"—
Кляўся Яшка, біў у грудзі.

І крычаў: „Мае ўсе мары—
За комуну хоць памерці".
Маску ён насіў на твары
І вужаку ў сваім сэрцы.

А цяпер ён ціха крочыць
За сваім чарговым кладам.
І хацелася ускочыць,
Задушыць рукамі гада.

Так гарэў жаданнем Пеця,
І ў душы ўставалі буры.
Толькі муліла пад сэрцам
І трымала карэктура.

Тут цяпер не месца. Рана.
Ты загубіш ўсю друкарню.
Яшка ж ходзіць апантаны.
Колькі дзён прайшло ўжо марна.

Як ён з'явіцца сягоння
Да палкоўніка з дакладам—
Там без вестак ў шыю гоняць,
Госцям гэткім там не рады.

А даведацца не проста,
Дык з'явіцца сёння з чым-жа?
І палкоўнікава постаць
У яго перад вачыма.

Гнеў з палкоўніка іскрыцца,
Ён плюецца злосцю п'янай,

І ў руках яго дыміцца
Саладкавая гаванна.

І ў грудзях ў Яшкі прыкра,
Быццам лёд на сэрцы тае.
— Цо-ж, дзе вашы большэвікі?
Пан палкоўнік запытае.

Яшку-ж клопатаў багата,
Усю ноч дарэмна зблоціў.
Як-жа пойдзеш да дзяўчатак,
Калі грошы не заплоцяць?

Што за ноч ужо такая?
Яшка лаецца ад стомы...
Як на ліха не спаткаеш
Хоць адзін бы след знаёмы.

Ну, няхай-жа, пачакай,
Ўсе вы трапіце за краты...
Грозіць Яшка Розэншайн,
Грозіць Яшка-правакатар.

А тымчасам асцярожна,
Калі Яшка блыкаў марна,
Як клубок агню, з марозу
Вараб'ёў прымчаў ў друкарню.

І ў кружку ужо размова,
Як трымацца Пецька вучыць:
„Будзьце, хлопцы, нагатове,
Калі што—мяшайце ў кучу.

Разбірайце поўным ходам,
Усё рассыпце з-пад машыны.
Чорта з два канаркі знойдуць
У свінцовай мешаніне!

А там Яшка ходзіць франтам,
Будзе дрэнна, як пачуе.
Дык пакуль—пастаўце варту,
Як мага хутчэй друкуйце".

Стала ціха. А ні гуку.
Дзень прыходзіў працы цяжкай,
І хлапцы узнялі рукі
І кляліся кончыць Яшку.

Ліха ён раскрые тайны,
Мы-ж яму дамо заробіць!
Смерць-жа Яшку Розэншайну!
А работу сваю зробім.

## ПРАКЛАМАЦЫІ

Восень злосна дрэвы чысціць.
Сквер дрыжыць у дзікім гуле.
Дрэвы ляскаюць сукамі.
Вецер кружыць жоўтым лісцем.
І трывожна так шапочуць
Усе дарожкі пад нагамі.

Ноч праходзіцца па бруку.
Разам свісне дзе канарык.
Свіст закружыцца, растае...
На спатканне вышаў Цукер,
Але ў гэткую цямноту
Анікога не спазнаеш.

А на скверы акупанты.
Прастытуткі ходзяць гужам,
Каля іх вядуць ігрышча.
Б'юць дванаццаць ужо куранты.
І шукае пільна ў ценях
Цукер дзеўчыны аблічча.

Дзе-ж магла яна падзецца?
Цукер помніць, як заўчора
Умаўляліся ўдвох самі.
Што-ж, няма яе на месцы?
А на яўцы патаемнай
Вараб'ёў сядзіць з блінамі[1]).

Ён глядзіць праз плямы вокан
І нервуе, што няма іх.
Гэта-ж позна на двары ўжо. Гэта-ж позна!
Не чуваць ніякіх крокаў...
А пад світкай дынамітам
Узрываюцца адозвы.

Што-ж няма яе сягоння?
Цукер ходзіць цёмным скверам
І расце трывог багата.
Узнялася падазронасць:
Можа Сонька з Розэншайнам,
Можа Сонька правакатар?

Так гадае ён нясмела,
Бо ў гэтай завірусе
Цяжка ўдумліва разважыць.
— Цукер!..—ззаду даляцела.

[1]) „Блінамі" ў падполлі зваліся адозвы.

Стала сорамна да болю,
За дарэмную абразу.

„Я спазнілася, выбачце!"..
І яна падходзіць блізка,
Па-сяброўску цісне рукі:
„Затрымала мяне маці..."
І яны ўжо крочаць з Цукрам
Праз крывенькія завулкі.

Такі.. спазніцца ў нас не нова,
На падпольшчыка дарозе
Шмат заўсёды сцежак цяжкіх.
Яны йдуць да Вараб'ёва.
Сонька шопатам тлумачыць,
Як хавалася ад Яшкі.

Што-ж магло такое стацца?
І трывожная цямнота
Напаўняла вокны страхам...
Вараб'ёў нервуе ў хаце.
І паўзуць хвіліны нудна,
Як валы разбітым шляхам.

І калі клапот без меры
Праляцела ў сэрцы Пеці
За адозвы і газеты—
Соня Зак адкрыла дзверы.
І здалося—ўвесь пакойчык
Загарэўся цёплым светам.

Яна шчыра цісне рукі,
І на твар яе кладзецца
Прывітальная усмешка.
І ўжо шэпча Пецю Цукер
Пра свае блуканні ў скверы,
Пра прыгодлівыя сцежкі.

І хутчэй усе за справу,
Будзе сёння урачыстасць,
Будзе ночка комсомольскай,
Забушуюць ўсе кварталы
Бурнай сілаю лістовак
Супраць здзекаў белапольскіх.

А пакуль парадкам стройным
Раскладалі матар'ялы
Па кварталах і заводах
І разбілі па раёнах
Там людзей і ўсе адозвы
Да бунтоўнага паходу.

*

Месяц першае чаканкі
Свеціць каскаю бліскучай,
Што пажарны.
Месяц вышаў на гулянку,
Закружыў між правадамі...
Спіць казарма.

Там жаўнеры маладыя
Сняць пра родную хаціну,
Мчацца крозы.
Толькі ходзяць вартавыя
З карабінамі ліхімі
Па марозе.

А ў казарме дум без меры
Ходзіць моракам трывожным
Да світання.
І да шмат якіх жаўнераў
Думы лезуць неадчэпна,
Сэрца раняць.

Хто-ж душу людскую змерыць,
Калі розум абкруцілі
Павучыннем.
І не сняць тыя жаўнеры
Праз увесь расклад казённы
Ні хвіліны.

І асілкам усплывае
Фронт чырвоны.
Там рабочыя усталі
І сяляне бароніцца.
І ў грудзёх пячэ дакорна,
Узнімаюцца сумненні—
З кім жа біцца?

Афіцэры-ж ходзяць зверам,
Паміраць на фронце гоняць
За айчыну.
І не могуць спаць жаўнеры
Праз увесь расклад казённы
Ні хвіліны.

За сцяною-ж вецер вые,
І на сэрцы так пякуча,
Так нягожа.
Толькі ходзяць вартавыя
З карабінамі ліхімі
Па марозе.

А за рогам вельмі проста
Комсомольцы шпацыруюць—
Вартавога кожны поступ
Яны чуюць.

І як толькі вартавыя
За другой сцяной пачэзлі,
Комсомольцы вельмі жыва
Ўсе адозвы паразнеслі.

Хай лютуюць сабе шпегі,
Гэта ноч не пройдзе дарма.
І адозвы белым снегам
Забялелі ля казармаў.

Іх на раніцу падымуць,
Прачытаюць можа тройчы.
Падыходзяць вартавыя...
І няма ўжо комсомольцаў.

*

Яны вышлі па вуліцы гэтай,
Калі ноч на Траецкай гары,
Калі грукаюць стаўні ад ветру
І—калекі—дрыжаць ліхтары.

Яны вышлі у поступе грозным
Вось на гэты азлоблены шлях.
І навешаны бомбы адозвы
Пад кашулямі ў іх на грудзях.

Так ідуць яны пляцам ізноўку,
І калі не трывожыць ніхто—
Ў іх лятуць, як гранаты, лістоўкі
Праз кішэні ірваных пальто.

Кружыць снег, кружыць снег пракламацый...
Саўчык з Сонькай раскідалі іх...
Толькі слуп нерухомы на пляцы
На вятры, як скаваны, стаіць.

Саўчык з Сонькай ідуць ля слупа,
Потым раптам уразіла іх:
Слуп ажыў, захадзіў, засвістаў,
І пад месяцам выбліснуў штых.

Значыць, трапілі да пастарунка.
Можна тут і бяды прычакаць.
„Паліцэйскі"—прanеслася ў думках.
Саўчык з Сонькай пакінулі пляц.

Але ў сэрцы іх радасць бяз меры,
Што падпольны свой здзейснілі план.
Заўтра выйдуць з казармаў жаўнеры,
Шмат наедзе на рынак сялян.

Шмат хто з іх, над сваею вінтоўкай
Там падумаюць тысячы крат.
Заўтра будуць чытаць іх лістоўкі
І сяброў іх народзіцца шмат.

Між штыхоў ў небяспецы бясконцай
Па пляцах, па трывожных рагох
Ходзяць цэлую ноч комсомольцы
Сеюць дум сваіх буйны агонь.

І няхай ад штыха уцякалі,
Каб ён працу сарваць іх не мог.
Саўчык з Сонькай на новым квартале
Шпацыруюць павольна удвох.

Быццам вышлі, каб ночкай асенняй
Прагуляцца і глянуць на свет—
Ляціць праз разрэз у кішэні
Ўжо апошні закрыты канверт.

„Ну, цяпер можна нам адпачнуць!
Заўтра стрэнемся зноўку на яўцы".
Раптам голас халодны ў спіну:
— Пачакайце!

І ўзняліся мільёны трывог:
— Хто там ззаду за імі ішоў?
Закалолі іголкі ў грудзёх
Няўжо?...

Лёд трывог хутка зноў растае.
Абыватэль прышоў, як услужлівы ліс,
Ён спакойна канверт падае:
„Вы, напэўна, згубілі свой ліст."

Саўчык ліст той узяў у прызнанні глыбокім,
Саўчык цісне руку яму некалькі крат:
„Вельмі дзякую вам". А праз некалькі крокаў
Зноў канверт паляцеў на халодны асфальт.

Праца скончана. Не дагледзела панская варта.
Маладых комсомольцаў нічым не стрымаць.
Саўчык з Сонькай ідуць адпачыць, каб назаўтра
Зноў падпольнымі думамі жыць, бунтаваць.

*

Ты прышла, тая гадзіна,
Калі біўся вечар сіні
І па цэхах змоўклі пілы.
На заводзе перапынак.
І ў кутку за розным ломам
Моладзь голавы схіліла.

Там юнак, на твар сур'ёзны,
Ўвесь у словах таямнічых,
Выняў ім з-пад сотні латак:
„Вось, таварышы, адозва,
Комуністы палка клічуць
Выйсці супраць акупантаў.

На плацы знайшоў я ноччу.
Дык давайце тут каротка
Прачытаем, пагаворым"...
Шмат старых прышло рабочых
Там да моладзі на сходку.
Ўсе гарэлі з кожным словам...

Баявым ўзляталі духам
Выйсці хоць насустрач смерці,
Біцца з ворагамі злымі...
А юнак чытаў і слухаў,
Як-жа моцна б'юцца сэрцы
Ў гэтым дружным калектыве.

Ён чытаў, што—звер крывавы
Зруйнаваў усю старонку
Дзікім шалам навальнічым.—
Пролетары, за справу!
Пролетары, на бойку!
За Комуну, за Кастрычнік!

Ўсе сціскалі моцна рукі,
Кроў ўзнімалася па жылах,
Каб нарэшце расквітацца...
Так па цёмных закануках
Нарасталі грозна сілы
Супраць ворага змагацца.

Там чыталі крадкам, спехам.
І ламачча цесным гурмам
Прыкрывала зборку вольных.
Зноў гудок. І ўсе па цэхах
Паняслі жывыя думы,
Думы партыі падпольнай.

Так прыходзіў час расплаты,
Рыхтаваўся ён употай.
Быць-жа бойцы зноў за волю!
І юнак каля варштата
Успомніў горкую бядоту.
Стала горача да болю.

Тут гаруй без перапынку,
Калі-ж сілы пакідаюць—
Майстар зверам цябе стрэне.
У хаце-ж хлеба ні скарынкі,
У хаце-ж маці галадае,
А ўся хата—сутарэнне.

А жандар, як чорт паганы,
Ужо ахвяр сваіх не злічыць,—
Іх бясконца.
І расло ў хлапца жаданне
Быць пад сцягам большэвіцкім
Разам ў бойцы.

## КОМСОМОЛЕЦ З БАБРУЙСКА

Так дні ішлі за працай той,
І ўпарта білася падполле.
І вось аднойчы ўжо вясной
Прышоў з Бабруйска комсомолец.

Дарожным пылам ён аброс
І крыўду ў сэрцы затаіў.
Ён вестку страшную прынёс
Пра лёс таварышаў сваіх.

І тут ў кругу сяброў ажыў,
Сябе адчуў ён тут лягчэй.
Ён ўвесь дрыжэў. Ён гаварыў,
І боль струілася з вачэй:

„Таварышы! З-пад цяжкіх мук
Я перад вамі тут увесь,
Я вырваўся з жандарскіх рук,
Я проста з шыбеніцы злез.

Я пяць начэй пакуты знёс,
За мною кат-жандар гайсаў...
Я пешкам шоў сто дваццаць вёрст,
Як звер, сланяўся па лясах.

Я падаў ў процьмі сотні раз,
Я падымаўся і ізноў

Я не глядзеў, я йшоў да вас
З астатняй просьбаю хлапцоў.

Іх вобраз у мяне не змерк,
Іх вобраз будзе век гарэць.
Вось помню, быцам як цяпер
Вядуць Залоціна[1]) на смерць.

Хай проста над душой багнет,
Ні кроплі на вачах расы...
І жонка з дзіцём бяжыць ўслед
І рве з адчаю валасы.

А твар у Піні малады,
Н'ат не парушыла сляза,
І калі смерць была над ім,
Залоцін Піня так сказаў:

„Не плач!
Няхай мяне на смерць вядуць,
Мне будзе лёгка там стаяць.
Не плач! І сына так гадуй,
Каб вырас гэткім, як і я.

А сонца ўжо гарыць ясней,
Яму шчасліва будзе жыць!
А вы ці чуеце мяне,
Мае сябры—таварышы?!

Наперад крочце праз вякі
Вы сэрцам сваім юным!
Няхай жывуць большэвікі!
Няхай жыве Комуна!"

Але прабіў апошні час
І смерць ляцела шпарка,
І змоўк Залоцін Піня наш
Пад кулямі канаркаў.

Я-ж падаў ў процьмі сотні раз,
Я падымаўся і ізноў
Я не глядзеў, я йшоў да вас
З астатняй просьбаю хлапцоў.

Я йшоў да вас, каб перадаць
Аб тым, што наш адкрылі свет,
Што правакатар нас прадаў,
І паў наш першы камітэт

[1]) Адзін з кіраўнікоў Бабруйскага комсомола, расстраляны белапалякамі.

За камітэтчыкаў усіх
Там плаціць шмат жандар.
Жаночы ўбор Гершон насіў,
Каб як схаваць свой твар.

А правакатар—проста жах,
Нібы галодны воўк.
Гершон туляўся па начах,
Пакуль за фронт не ўцёк.

Я-ж падаў у процьмы сотні раз
Я падымаўся і ізноў
Я не глядзеў, я йшоў да вас
З астатняй просьбаю хлапцоў

Даць бой ўсім катам і панам
За паўшы камітэт,
Каб вы пасобілі там нам
Паноў разбіць, як след.

Мы-ж разлічыцца ўсе гарым
З жандарамі хутчэй..."
Ён ўвесь дрыжэў. Ён гаварыў,
І боль струілася з вачэй.

МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ

# СІНІЯ ГАЛІФЭ

(Апавяданне)

Лесам ішоў чалавек.

Не ішоў, а бег, таропка перастаўляючы ногі ў цяжкіх, з падкоўкамі чаравіках, у старых палінялых абмотках. Абмоткі часта раскручваліся, ападалі, і тады, палахліва азірнуўшыся па баках, чалавек спыняўся на міг, прылаўчаўся да пеньчыка, каб ямчэй паставіць нагу, у соты раз падкручваў непаслухмяныя абмоткі, ставіў цвёрда нагу, на спробу,—ці раскруцяцца больш. І калі падкручваў, чырванеў нахілены твар, дзесці садніла нацёртая мяшком спіна, вялікая слабасць, стома разлівалася па ўсім целе— от-бы сесці пад куст, пад алешкавы, прыкархнуць на хваёвым вецці, на яловых лапах пахучых, на траве лесавой, на прагалінах.

— Дзе-ж ты ляжаш на прагалінах тых?

Чалавак падкручваў абмоткі, сапеў, злосна лаяўся, вызвяраўся.

— Загінеш праз вас, праз халерную закруць...

І ішоў, пасклізаючыся на сухой ігліцы, глянсуючы цяжкія чаравікі—старыя, парэпаныя—аб верасы, аб траву, аб сухую папараць лесавую. Каб ямчэй было, не пасклізацца каб, наступаў на старыя грыбы, на крохкія мухаморы, хрупасцелі яны і пахлі. І пах той голаў кружыў, адурманьваў.

А дзесці, там далёка, адзаду, з-за пройдзеных лесавых чашчоб гудзела глуха зямля, цяжка вухала і пракатвалася грознымі пагалоскамі сатрасаючы застойлівую зляжалую цішыню лесу. Нібы рвалася на кавалкі яна—цішыня гэтая—і асыпалася сухой іглiцай хвой. Цярушылася яна з вышыні, шамацела, пасклізаўся на ёй спуджаны чаравік. Чалавек уцінаў голаў у плечы, спалоханай рукой хапаўся за мулкі мяшок. Важкі ён, агнём смыляць пад ім наверадконыя плечы, нацёртая мазалямі спіна, і думкі такія-ж: неадчэпныя, мазалявыя.

— Божа-ж мой, божа... Каб-жа як мага хутчэй з бяды выбавіцца...

І радасць, яе злодзей уночы, цішком, цішком—сэрца пратне, разгарыцца вугаллем гарачым. Аж потам укрыецца лоб. Ды рука, напалоханая грознымі ўздыхамі зямлі, на мяшок, на важкі, на мулкі.

— Тут ён, тут... Аж да скуры ўліп, прыпацела пад ім спіна, мазалямі ўскіпела...

Разбягаюцца думкі, збягаюцца. Усё аб ім, аб мяшку, туга звязаным, перавязаным, што на ўласным гарбу, успацелым.

У тым мяшку былі галіфэ.

Сінія, сінія, не раўнуючы неба вясной ці пад цветам палі ільняныя.

Шырачэ-э-зныя галіфэ.

З кантам чырвоным.

На галіфах тых сініх чырвоны кант—салдацкі гонар, дзявочая зайздрасць гаручая.

Ну і галіфэ!

Ай да канцікі!..

Сінія да чырвоныя!...

Вечарам, калі паліліся першыя зоры і туман спавіваў лесавыя дарогі, прыляцела на ўзмыленых конях палкавая разведка. Цяжка саплі коні, пара клубілася над імі, на брудны пыл дарогі ападалі беласнежныя клубкі пены, высока ўздымаліся худыя рэбры, востра напінаючы кашлатую конскую скуру. Прытаміліся коні, здарожыліся. Пазяхаючы, выскалялі белыя конскія зубы і ціха іржалі, адчуўшы спачын, блізкую жменю аўса, абярэмкі пахучага сена.

Твары разведчыкаў былі панурыя і маўклівыя. І калі вышаў насустрач камандзір пяхотнага палка, адрапартавалі сумна:

— Бяда, таварыш камандзір... Уланскія эскадроны прарваліся праз мост, у абход пашлі... Каб не даць часам маху... І яшчэ, таварыш камандзір, прывезлі мы начальніка свайго, начальніка разведкі баявога таварыша Ермальчука... Вось конь яго ідзе асірочаны, без начальніка ідзе конь вараны. Напароўся начальнік на саблю, на ўланскую... Захапілі з сабой, не пакінулі, не пусціць каб у здзек, мёртвае цела чырвонае не пусціць у надругу.

Камандзір палка суха вылаяўся, сукіных сыноў памянуў, што гарачку поруць, праз гарачку тую на ражон пруць. Вылаяўся да загадаў. І загад той быў, як наганны стрэл:

— Айда на спачын! Да раніцы...

А сам пашоў да палка, падняў некалькі рот, і пашлі яны ашчаціненыя штыхамі, пашлі рознымі дарогамі лесавымі да ледзь прыкметнымі балотамі тропкамі. Каб не было абходу, каб адрэзаць уланам шляхі—і назад і ўперад, саблі ўланскія каб прытупіць.

А таварыша Ермальчука палажылі на абозныя калёсы, сцягам баявым накрылі, і чатыры клінкі апошняе ганаровае варты цмяна паблісквалі ў сівым тумане, у блеклых водблісках палкавых агнёў. Спалі ля тых агнёў пяхотныя байцы, палкавая разведка адпачывала. Адпачывалі зморапыя коні, стрыглі ляніва вушмі да ціха іржалі над пахучым аўсом, у парусіну насыпаным, у вёдры брызентавыя.

Прыходзіў да Ермальчука камандзір палка, у твар яго паглядзеў, уздыхнуў разы два, слова вымавіў:

— Адпускную ты ўзяў дужа рана, мой дружа. Нашто спяшацца...

Уздыхнуў яшчэ раз і вылаяўся, каб сум адагнаць, каб душы не вярэдзіць. Сурова напіналіся тады вострыя клінкі, іх цмяныя водбліскі былі нерухомы. І такія-ж былі нерухомыя твары ў вартавых, што стаялі на ганаровай варце. Ім зразумела была камандзірская лаянка, у якой быў сум па загубленым байцы, па таварышы баявым, з якім пратопана было колькі дарог, колькі сцяжынак ад далёкіх берагоў светлай Бярозы...

Вылаяўся камандзір, пасуровеў. І пашоў правяраць палкавую варту, каб праверыўшы адыйсці на спачын, да раніцы, да скупога сонечнага ўсхода, лесавога, понурага.

І ў тую ноч, як прывезлі таварыша Ермальчука, калі кожны куст, кожная хвоя набрынялі трывогай, ахінулася звярыным жахам сэрца ездавога палкавога абоза Івана Гнёта. Пра ўланаў учуў, пра вострыя клінкі памысліў— вось яны гэты клінкі сякуць на ім перашытую гімнасцёрку, рубаюць цела, рэжуць сэрца Іванава. І на тым клінку сыходзіць крывямі Іван, жытку сваю па лязу пускае, па востраму, душу ад крывей адрывае. За чые-б то, сказаць, інтарэсы? За каровы хіба бацькавы да за коні, за шырокія бацькавы гумны, за лугі яго, за прасторныя палі. Колькі коняй у бацькі ды колькі кароў!.. Шырокая жытка ды цёплая, як вымя каровіна, малачавае. А дзявок тых адных... Божа, божа колькі дзявок на прывольную жытку зарацца да Івану вачмі спагадаюць: азірніся на мяне, мілай мой, кучаравы мой... на дзявочы мой стан зірні, гнуткі стан, трапяткі!..

Дык навошта-ж тут саблі уланскія?

Жытку на іх каб спускаць?

За чые-б то, сказаць, інтарэсы крывямі сыходзіць?

І калі апаўночы паблеклі палкавыя агні, сон ахутаў прывал ды заблытаўся месяц у кудзелістых хмарах—прыўзняўся пад шынялём Іван, азірнуўся старожка: дыміліся галавешкі на вогнішчах, лёгкая пара пасцілалася над прывалам, ды роўны храп калыхаў начное паветра—над вазамі, над грудамі сонных цел, над козламі росных вінтовак. Цмяна паблісквалі штыхі, і цмяны бляск іх аддаваўся болем у сэрцы, цісну на яго балючай вайстрынёю і жахам.

Звярыным жахам.

Прыўзняўся Іван, нацягнуў рукавы шыняля, доўга поркаўся ля паходнага мяшка. Успомніў нешта, падышоў да воза, на якім ездзіў ён ездавым. На возе тым уся гаспадарка палкавой кравецкай майстэрні—машын пара ды барахло: штаны, гімнасцёркі, колькі тых шынялёў—на перашыўку ўсё. Ды сукна кавалкі з тры. Перакінуў штаны, гімнасцёркі, шынялі і напароўся на іх, на сінія галіфэ. Па чырвоным канце спазнаў. Успомніў—дні за тры перад сваёй смерцю прынёс гэтыя галіфэ Ермальчук—баявы начальнік разведкі. Каб перашыць, каб кант пусціць, каб не сорамна было яму камандзіру баявых разведчыкаў перад

ворагамі—багатыя ўборы ў паноў, багатыя штаны ў уланаў. І каб сораму не мець перад імі і перад дзяўчатамі сінявокімі, незнаёмымі... Акуратным каб быць, спраўным каб быць...

— Цяпер яны табе без патрэбы... А калі-б і жыў—вялікі то мне аб табе клопат.

Сунуў галіфэ ў мяшок, сёе-тое згроб з бялізны, пару шынялёў схапіў пад пашкі, на вінтоўку сваю зірнуў: браць ці не браць?

— Эт!.. лішні цяжар...

І пасунуў прыгнуўшыся праз кусты, праз ламачча, уцяўшы галаў у плечы, напяўшы балюча слых: вось крыкнуць—стой, свісне куля гарачая. Аж садніла шыя, да таго прылілала да яе галава, уціналася. Быў маўклівы лес, і гэтая маўклівасць была пагрозлівая: вот-вот выйдуць з-за дрэва, штых прыставяць табе да грудзей, і назад, і ні з мейсца і пагоняць цябе, дызертыра начнога ў полк, у абоз, на расправу. За ўцёк, за злодзейскія справы. Тады будзе не мала... Мокрая цяпер зямля, студзёная..

Дамавіны-ж табе не змайструюць...

Бр-р-р!..—сцяліся плечы дрыготкай, захаладала дзесці на сэрцы.

То дождждык імжыў. Восенскі, прыкры, вольны. Прытаіўшы духі, забраўся пад елку Іван, выбраў мейсца сушэйшае, каб адпачыць, думкі сабраць. Ляжаў, прыслухаўся. Скочваліся з яловых лап набраклыя кроплі дажджу, шамацелі аб лісце на доле. Захінуўся ў шынель, уткнуў у каўнер зябкі нос і прыдрамаў. Спаў старожка, уздрыгваў, калі далятали з-за лесу прыглушаныя ўздыхі зямлі, бумкалі дзесці за балотам сіротныя стрэлы вінтовак.

— Але-ж далёка... Не страшна цяпер...

Насоўвалася раніца, шэрая, восенская. Уздыхі зямлі рабіліся часцей і часцей, аж ціхім, ціхім, ледзь чутным гудам поўнілася старая яліна. І здавалася соннаму воку, нібы пры кожным уздыху зямлі ўзнімае яліна напалоханыя свае старыя лапы—калючыя, мокрыя, зольныя. Сатрасаецца яліна, жменямі атрасае дажджавыя кроплі, аж зямля пачарнела ўнізе. Холадна. Зябка. Глыбей галаву ў каўнер. Каб ямчэй, каб цяплей. Ды вочы прымружыць.

Як у нары кратовай тады: цёпла, зацішна...

Прачнуўся Іван, калі сонца ўсплыло на паўдуба. Дождж даўно сціх. Агледзеўшыся, асцярожна—каб не трапіла за каўнер макрэдзь—вылез з пад елкі. Сабраў сушняку—ветак хваёвых, яловых шышак, невялічкае цяпельца расклаў, каб сагрэць адубелыя пальцы, здранцвелыя ногі, каб спіну каля агню разамнуць, падсушыць гаспадарку салдацкую.

Ля самага цяпельца мяшок паставіў.

Падкідаў у агонь смалістыя веткі, адмахваўся ад дыму ды іскраў, пазіраў на мяшок. Ён стаяў тугі, перавязаны, раменчыкам вінтовачным перахвачаны. Ад свае вінтоўкі. Дужа зграбны раменчык. Жалезінкі хіба вот не да ладу, не да справы гаспадарскай прыладжаны. Але-ж добры раменчык. Добрая-б вышла аброць, калі-б гэтых раменчыкаў ды штук з чатыры. Дзе-ж ты іх возьмеш...

А мяшок стаяў, прыграваўся. І той бок, што ля цяпельца, сухім рабіўся, бялейшым. Хвацкі мяшочак, з калянай палаткі пашыты. Аж тры палаткі тых у мяшку: то-ж рубашкі выйдуць, а калі, што, дык і фрэнч. Прасушыць хіба?

Развязаў Іван мяшок, распакоўваць стаў. Сухарныя мяшочкі выняў,—аж дзесяць штук. Невялікая карысць з тых мяшочкаў, але-ж спатрэбяцца, на хусцінкі там, на лапікі. У гаспадарцы дык яно ўсё да ладу. Вось бялізна—гэта ўжо справа важнецкая, вялікі здабытак...

Раскладваў усё, каб прасушыць, на цяпельцы ды на сонцы праветрыць. І калі дабраўся да іх, да сініх галіфэ, аж за галаву схапіўся, ля цяпельца прыўскочыў: да чаго-ж важнецкія былі тыя штаны, днём ды на сонцы.

— Вот, скажуць, ваяка быў, вот, скажуць, вышаў на камандзіра... У такіх галіфэ ды па вуліцы—дзеўкі пяткі адаб'юць услед бегшы... А перад хлопцамі іншымі, перад імі задрыпанымі... Што і казаць... Гэткая, можна сказаць, уцеха...

І асцярожна, каб не запляміць, уздзеў галіфэ на бярозавы пенчык, сухога галля на яго паклаўшы, каб не ўпецкаць іх, сініх, кіслым сокам бярозавым, старым, што пабраўся ліпучай цвіллю, грыбком крохкім пянёвым. Няхай прасохнуць.

Густая сінь галіфэ пералівалася пад сонцам светлымі і цёмнымі складкамі ды сыходзіла па краёх чырвоным жарам. То зіхацелі пад сонцам канты — як ценькія веткі-вугельчыкі ў цяпельцы. Аж баяўся дакрануцца да іх, да гаручых, да жаркіх тых кантаў, чырвоных.

І вочы прыплюшчыў—ай да канцікі, ай да чырвоныя.

І здалёк відаць тыя канты. І здалёк мітусяцца сінія—галіфончыкі, галіфошы...

Прыплюшчыў вочы Іван.

А калі расплюшчыў—прысеў. Плечы прыгнуў, сутуліўся.

— Грэешся, землячок? А якога палка, баец, і куды пуць-дарогу трымаеш?

Адкажы ты пра тую дарогу...

Невясёлая гутарка была пра яе. Запыталі і пра галіфэ. Пацямнелі яны, пастарэлі няйначай, калі дрыжачай рукой запіхваў іх у мяшок, пра сухарныя мяшочкі аж забыўся.

— Кладзі, кладзі, зямляк, казённага дабра не губляй...

Цяжкі быў мяшок. У колькі раз цяжэйшы зрабіўся. Ад чаго-б то, сказаць? Ад дарогі хіба?

Гэткая-ж дарога вышла...

Быў полк на дзённым прывале, калі прывялі Івана Гнёта. Ніхто не звярнуў на яго асаблівае увагі, былі заняты ўсе ў клопатах, у турботах; гатавалі чай, чысцілі вінтоўкі, аглядалі на сонца дзіравыя чаравікі—а ці доўга 'шчэ вытрымаюць. Аглядалі і сумавалі—выскаляюцца, гады, капылы здаюць чаравікі.

На ўскрайку дарогі, пад разгалістай белай бярозай быў суд. І прысуд быў кароткі. Як сухі трэск шрапнелі:

— Расстрэл.

І калі дарогаю думаў Іван аб конях сваіх, аб каровах, аб шырокіх і ёмістых бацькавых гумнах, аб цёплым улежным жыцці—колькі іх, гэтых самых задрыпаных, на тваю галаву, не табе-ж мазалём рукі паганіць,—дык цяпер кінуў думаць. Не ішлі яны, думкі ў голаў.

Хіба адно, што студзёная зямля. І золь тае зямлі пахучая, восенская. І былі, здаецца, ногі не свае, рукі не свае.Не адчуваў. І калі загадалі—„айда ад дарогі", пачуў толькі, як загудзелі байцы, узварушыліся—ля вінтовак, ля кацялкоў.

— Гэта каб кожнай сволачы ў перашытай гімнасцёрцы паміраць, каб кожная сапля хадзіла да бога ў штанах да з леямі. Дзе гэта відана? Скіда-а-й!

Лыпаў бялесавымі вачмі і торапка хапаўся за гузікі, аж каўнер трашчаў ад натугі. І стары разведчык Аўдзей—заікаты, твар шырокі меў, з канапацінай—сурова заўважыў:

— Тт-ы-ы, малец, не спяшы... Тты-ы-ы казённую адзежыну не муштруй...

І калі ўпала да ног, да салдацкага мяшка, перашытая гімнасцёрка, паказалі тады рукой на поле:

— А ну, бяжы цяпер, гніда, да бога за пазуху!

І пабег. Крокі тры прабег. І здалося раптам неба агромністым кантам чырвоным. Зыркім, гарачым, бязмежным...

На хвіліну якую прывал заціх. „Хто там балуецца з вінтоўкай?" І даведаўшыся:

— А што-ж... Сабаку сабачая і смерць...

А галіфэ прысудзілі Аўдзею—баявому разведчыку. Быў ён спец на ўланаў вялікі, а штаны немудрашчыя меў, самыя што ні ёсць хударлявыя штонікі—адна відзімасць. І матар'ял нішто, плісавыя, відаць, няйначай з спадніцы якой пераліцованы былі, з бабчынай спадніцы.

— Буржуйскай старушкі...— падміргвалі байцы.—Дзівіся, зад у цябе ўвесь гафтаваны.

І сапраўды, дзе павінны быць у байца добрыя леі, красаваліся кветкі гафтаваныя—жоўтыя да зялёныя. Віселі тыя кветкі ашмоццем, было некалі выскубсці іх, і хоць з сядла ты не злазь з тае прыкрасці, з-за уцехі бабульчынай.

— Буржуйскай старушкі.

Дый штаны ўсе пашыліся ў лапікі, варухніся ў сядлє—і пырхне відзімасць уся і... канфуз...

Аднак куражыўся:

— Мне гэтая с-с-іняя галіфа не з рукі. Б-б-біскучая... Ураз паляку на мушку—б-б-ах!

Для прыліку куражыўся. І калі падміргнулі адзін другому байцы:

— Ну, што-ж... Аддамо другому...

Тады не на жарт узлаваўся Аўдзей:

— Што-ж вы, ірады, у бога вас, у хрыста, байца хочаце абясштоніць...—Я з баявым таварышом Ермальчуком па Урале хадзіў, я чэхаславакаў па кумпалу біў з камандзірам нашым... Каму-ж як не мне камандзіраву памяць...

І ехалі далей байцы, любаваліся кантам чырвоным, баявою адзежынай.

Успаміналі таварыша Ермальчука. Слаўны быў камандзір... І смерць прыняў людскую, баявую.

Уздыхалі, неўзаметкі каб. Не гожа байцу аддавацца звадыяцкаму суму. Смялей глядзі. Каб вочы агнём гарэлі. Ды песні шырокія заліўныя. Растае ад тых песень сум, як пад сонцам раса высыхае.

— Гэй, зацягвай!..

Конскія капыты паблісквалі серабром,—то ляцела насустрач бязмежная і бясконцая дарога.

Баявая дарога.

1933 г.

**БАРЫС МІКУЛІЧ**

# ДУЖАСЦЬ

раман [1])

Змярканне надыходзіць у лесе павольна. Аснежаныя верхавіны, елак яшчэ гарацць барвянцам: узнікаюць дзівосныя асацыяцыі— чароўная казка мірсціцца гэткім часам. Веліч цішыні, веліч пракаветнай прыроды—вось асноўныя матывы вячэрняга ляснога пейзажа. Мусіць, ваўкі гэткім часам у лірычнай задуменнасці пазіраюць на барвовасць сонечнага захаду: ваўкам—згаладалым— мірсціцца свежае мяса, гарачая кроў.

У самай глыбіні лесу—прагаліна. Неправходнымі сцежкамі, праз дрымотныя нерушы прышлі сюды людзі, прывялі з сабой коняй, распалілі кастры, збілі нагамі снег, і з-пад снегу глянулі шызыя імхі.

Наўкола кастроў, на параскіданай саломе сядзяць гэтыя людзі, зморапыя—яны маўчаць. Адно толькі—хрумсціць на конскіх зубах сена, булькае ў кацялках вада, дый адзін—чарнявы—напаўголас вядзе песню.

— Камандзір не прыходзіў?—перапыняе цішыню паджылы чалавек, падкідаючы ў касцёр голле.

— Нікога з іх няма цэлы дзень.

Нясмелы агенчык слізнуў па свежым голлі, густыя клубкі дыму сізым струменчыкам пацяклі ўгару, голле затрашчэла.

— Не падкладай болей, чай дымам прасмярдзіць.

— Нічога, смачней піць будзеш. Не падкладзеш—загасне, а мароз ямчэе.

— Скажы ты,—уступае ў гаворку трэці.—У горадзе, кажуць, тыфус, перапалох, кажуць.

— Усякае кажуць,—устрывожана ўзнімае галаву ў лапавухай шапцы, узіраецца ў неварухлівую сцяну дрэў.—Нешта камандзіра няма... І гэты з ім, бялявы, што з горада прыехаў.

Раптам чуецца хрумст. Людзі ля кастроў у момант зрываюцца з месца, бяруцца за вінтоўкі. З глыбіні нерушу да іхняга слыху далятае голас вартавога:

— Хто ідзе?—І далей, пасля шарохкае цішыні,—праходзь.

---

1) Працяг, гл. „Полымя рэволюцыі“ № 11

З цемры, з-за дрэў выходзяць да кастроў два чалавекі: Грай і Юткевіч. Граеў кажушок расхрыстаны на грудзях. Грай ідзе, ледзь хістаючыся, яго падтрымлівае Юткевіч.

— Што здарылася?

У водблісках кастроў Граеў твар—хваравітай бледнасці. Праз сілу разжымаючы губы, Грай выцэджвае:

— Нічога. Непрыемная сустрэча, мальцы. Нам трэба...

Ён пахіснуўся, упаў на салому.

— Трэба перавязку зрабіць,—сказаў Юткевіч.—Зрабі, Арцём.

Пасля перавязкі камандзір спаў глыбокім і цяжкім сном, скідаючы з сябе кажух. Стары Арцём, партызан з Вялікае Рудні (іхні атрад разбілі і толькі ён адзін дайшоў праз стугіры і нерушы, праз завеі і мяцеліцы да крушняярскіх атрадаў), цярпліва па-бацькаўску зноў і зноў накрываў камандзіра велізарным сваім кажухом.

— Захварэць у самы раз, мароз ямчэе.

Уначы, у глухі час, калі поўны месяц раптам схаваўся за хмары і пашлі хмары шырокімі сваімі дарогамі густа, камандзір прачнуўся. Ён пабудзіў Юткевіча, які, седзячы ля кастра, толькі-толькі заснуў.

— От цяпер самая пара,—сказаў шэптам Грай.—Трэба паслаць па атрадах людзей, перадаць план наступлення. А ты, Юткевіч, разам з нашымі пойдзеш з правага боку Рудні. Заляжаш у ельніку—і слухай сігналу. Помні—без сігналу не пачынаць.

Потым, праз колькі хвілін, дваццаць чатыры чалавекі ішлі—у ноч, у невядомасць, у нерушы. Паперадзе гэтага атраду ішоў камандзір Юткевіч і стары сівы Арцём. Ішлі моўчкі. Кожны ведаў, што ідуць яны ў бой, кожны чуў Граевы словы:—„Помні—без сігналу не пачынаць". І калі не асабліва верылі яны гэтаму юнаку, што раптам апынуўся у іхным атрадзе, дык была моцная ў гэтых людзей вера ў камандзіра Грая, і кожнага ягонага слова трымаліся моцна. Паранены—камандзір Грай кіраваў, зморany—не спаў, ён быў іхнай душой, іхнай верай, ён быў стрыжнем іхнага з'яднання. Доўга і ўпарта прадзіраліся яны праз дрэвы, праз купаўе, праз ноч. І пра што думалі гэтыя людзі, ідучы ў бой, сказаць цяжка, толькі адно бясспрэчна: не прыходзілася шкадаваць мінулага, будучае трэба было браць з бою, вырываць з ворагавых рук.

Доўга ішлі. У цемры не бачыў Станіслаў старога Арцёма, толькі адчуваў, што ён тут, побач, што свой ён, не падвядзе, выйдзе на правільную дарогу.

І ўспаміналася Станіславу:

Сям'я едзе з Масквы на поўдзень. У Маскве—голад, халодныя калюмны вялікага тэатра, выдатныя і вядомыя—у чарзе па паёк. Бацька лічыць сябе пратэстантам. У той час Станіслаў не разумеў, што азначае на бацькавай мове гэтае цмянае—пратэстант. На адным з канцэртаў бацька загадвае дырэктару граць „Боже, царя храни". Здэтанаваная аўдыторыя прытоена сочыць за танцорам:

бацька ў сярэднявечным славянскім адзенні з трохкаляровым сцягам імперыі ў руках,—гэта нейкая патрыятычная імправізацыя. Але здэтанаванасць знікае. Халодныя калюмны тэатра ўпяршыню ўбачылі новага гледача: свіст, гуд, крыкі, шапкі, рукавіцы, кепкі—з шалёнай сілай паляцелі ў танцора. „Пратэстант“ прымушаны быў амаль бегчы з Масквы, дарэчы—гэтаму дапамог адзін выдатны літаратар... І вось—сям'я едзе на поўдзень. Бацька сядзіць і разважае. Бацька гаворыць пра тое, якая бліскучая кар'ера чакае ягонага сына там... Дзе гэтае „там“—Станіслаў не ведае. Стоячы ля вагоннага вакна, Станіслаў маўчыць. За вакном—праходзяць прасторы вялікай краіны, ягонай бацькаўшчыны, бацькаўшчыны казак і былін, якімі пераплецена дзяцінства. Станіслаў маўчыць, бо ён бурна паспрачаўся перад дарогай з бацькам, а той устурбаваўся і замахнуўся на яго. Гэтага было досыць, каб сын узненавідзеў бацьку.

І ўспаміналася Станіславу:

Ноч самотная, аплыўшая свечка, цягнік стаіць на маленькай станцыі. Станіславу не спіцца. Ён падыходзіць да вакна. „Крушняярск“—вагзальная шыльда. Станіслаў накідвае шынель і выходзіць на перон. Густым водырам ударыла ў яго жнівеньская ноч. Ён ідзе ўздоўж цягніка. Лёгкі вецер трэпле ягоныя валасы. Цягнік пойдзе толькі ў дзень—даведваецца.

— Спаць не хочацца. Станіслаў ідзе абы куды. За вагзалам—штабелі дроў. Іх убачыў Станіслаў на золку. Займаўся пажарам усход, і здалося Станіславу, што ўпяршыню ў жыцці бачыць ён гэткі ўсход. У бяздум'і ён ідзе паўз штабелі. Раптам ён спыняецца. Чуе:

— Ээй, ухнем эээй уухнем!.
Яшчэ раaз, і яшчээ двааааl...—

Высокі тэнар вядзе гэтую песню, і песня, здаецца, ляціць на ўсход, насустрач сонцу, насустрач дню.

І бачыць Станіслаў: гурт моладзі грузіць дровы. Пляцформа за пляцформай, штабель за штабелем, песня за песняй. Станіслаў падыходзіць да іх.

— Шпацыруеш?—дзёрзка кідае яму чарнявы хлапец, падазрона зірнуўшы на ягоны шынель.

Чарнявы гэты хлапец—без кашулі, босы, густы і роўны загар ляжыць на ягоным целе.

— Прышоў падзівіцца?—зноў гучыць грэблівае запытанне.— Мусіць, дзіва ўбачыў.

— Не вялікае дзіва,—раптам кажа Станіслаў, скідае на зямлю шынель, падыходзіць да чарнявага.—Вось камель, адзін ты яго не возьмеш.

Велізарны дубовы камель бяруць яны на плечы. Нясучы яго да вагона, Станіслаў пакрываецца потам. Ззяе сонца. Робіцца горача.

— Распраніся,—кажа чарнявы іншым зусім тонам.—Дзяўчат тут няма, не ўбачаць. А хлопцы—усе свае...

У рабоце праходзіць поўдня. Прынеслі хлеб, чырвоныя—сакаўныя баклажаны. З усімі хлапцамі перазнаёміўся Станіслаў, смачныя наліваныя сонечнаю крывёю здаваліся баклажаны. Так—у рабоце, у рогаце, у жартах прайшоў дзень.

— Ну бывай,—сказаў Станіслаў чарняваму.—Паеду.

Чарнявы цёпла ўсміхнуўся, сказаў:

— Пачакай. Мы гуртом праводзім.

Вясёлым шумлівым гуртам прышлі яны на драўляны перон, шукалі патрэбнага цягніка і цягніка не знайшлі; дзяжурны па станцыі прыкра плюнуў ім у адказ, махнуў рукой, вялізным ключом замкнуў вагзальныя дзверы і пашоў вячэраць.

— От табе і раз!—засмяяўся чарнявы.—Ды ты, хлопец, не тужы, пераначуеш, заўтрашнім паедзеш.—Імя чарнявага было Барыс.

Але планы—планамі, і назаўтра цягніка на Харкаў не было, а праз Крушняярскі вагзал праходзілі чырвонаармейскія эшалоны, на поўдні быў фронт, была—„адзіная, непадзельная"...

— Направа,—кажа ціха Арцём.—Зараз лес канчаецца, поле. Яшчэ вярсты тры—і Рудня.

Як выбраліся з лесу, бралася на дзень. Па адным дабеглі да сасновае кудзеркі, што ляжала пасярод поля. Юткевіч даў каманду: прывал. І пакуль курылі—ён вышаў на край кудзеркі. Ён бачыў аснежанае поле, вясковыя хаты воддаль, лес, дарогу з лесу, мост. Першыя кудзеры дыму пашлі з комінаў у вечнае сваё вандраванне. Спявалі пеўні, чуўся сабачы ях. У прадранішняй сціхоце нельга было пагадзіцца з тым, што тут, у Рудні, вораг, што тут, на гэтым полі, на гэтай зямлі, фронт. Напружыўшы слых, Станіслаў лавіў кожны гук, кожны шолах, чакаючы на сігнал. Нешта прашуршэла пад ягонымі нагамі. Ён схамянуўся, зірнуў на зямлю і адно ўбачыў мяккія зайцавы сляды на снезе. Раптам падышоў Арцём (вялікія вусы і каўнер кажуха ўкрыліся густым інеем), стаў побач, сказаў:

— Глядзі,—пальцам у бок вёскі.

І Станіслаў убачыў: на вясковай вуліцы шыхаваліся коннікі, на вясковай вуліцы стала людна.

— Пачынаецца!—сказаў Арцём.—І яны нешта чуюць, сукіны дзеці. Каб хаця нашы абышлі,—і ў старога дрогнула правая рука, нібы хацеў ён перахрысціцца.

На ўскраі кудзеркі—яр. У яры леглі ланцужком. Прытаіліся. Моцна рукамі сціскалі вінтоўкі. Лежачы, Станіслаў агледзеў сваіх і ўсміхнуўся. „Усе мае аднагодкі, адно Арцём стары. А вось гэты, пяты з краю, мусіць, і маладзейшы за мяне". Але думкі скончыць не было як, Арцём штырхнуў локцем:

— Глядзі.

Праз грэблю выехалі коннікі з вёскі. Паперадзе іх ехаў на белым кані афіцэр. Зялёны шынель з белым каўняром, блакітныя нашыўкі ўжо можна было разгледзець. „Узяць-бы вінтоўку, ды зняць яго!"—мільгнула ў Станіслававай галаве. Ён падсунуўся на жываце да Арцёма, узяў з рук вінтоўку, нацэліўся.

— Спыніся!—траха што не крыкнуў Арцём, і вочы ягоныя жорстка бліснулі.—Хочаш, каб усіх палушчылі? Сігналу чакай!— Ён ірвануў вінтоўку да сябе.

Незразумелае нешта зрабілася са Станіславам. Твар наліўся чырванню, вочы ўпіліся ў коннікаў, падплывала нешта да горла, разлівалася па целе, падбухторвала—стрэліць, не скарыцца.

— Ты што!—у нейкай атупеласці крыкнуў на Арцёма.—Ты не ўказвай, а слухайся. Не камандзір, не вучы.

Раптам Арцём кінуўся на яго, ухапіўся за вінтоўку абодвума рукамі. Станіслаў вобмаш у грудзі ўдарыў, і стары паваліўся ў глыб яра, у снег.

— Не камандзір, не вучы!—груба паўтарыў Станіслаў.

Не паспеў стары выбрацца з снегу—ранішнюю сціхоту прарваў стрэл. Усе ўбачылі, як белы афіцэраў конь уздыбіўся на задніх нагах, шарахнуўся ў бок, грохнуўся вобзем. Коннікі схлупіліся і паддаліся назад.

— Прамахнуў, у каня трапіў!—прыкра працадзіў праз зубы Станіслаў і пачаў цэліцца зноў.

Коннікі змянілі кірунак і рассыпаліся па полі. Раптам з боку яра, як з-пад зямлі вырасла чаранга ворагаў. Трэск стрэла пачуўся з тыла. У Станіслававых вачах замятусіліся конскія крупы, а праз хвіліну ён убачыў зусім блізка бліскучае лязо шаблі—і здалося: перапоўнілася зямля гудам страшэннае сілы. Коннікі з аголенымі шаблямі імчаліся на яго, на іх, і нельга было ўлежаць на месцы, хацелася бегчы, і бегчы не ўзад, а наперад, наперад, на коннікаў, на конскія крупы, на кругаверць бою.

— За мной!—экстаз ахапіў Станіслава, і ён сарваўся з месца і пабег, размахваючы наганам.

Бягучы, успомніў, што за поясам—гранаты, выхапіў адну, размахнуўся, кінуў. Бег, размахваўся, кідаў гранаты, крычаў:

— За мной!

У чалавечай мітульзе ўбачыў блакітныя нашыўкі, апошнюю гранату выхапіў з-за пояса, кінуў гэтак моцна, што аж тулавам назад падаўся. Раптам колкі дрож праціяў цела, зазвінела ў вушшу, і ён упаў тварам у снег. Падаючы, здалося: лес на ўскраі затанцаваў і паляцеў угару, неба чмякнулася ў твар, і нават рукой захацелася прытрымаць яго.

Водум прышоў няскора.

Першае адчуванне, зафіксаванае свядомасцю, было: рука правая нібы прымерзла да нечага цвярдога, хочацца яе адарваць, паварушыць пальцамі, але гэтага зрабіць нельга. Потым—паўз волю—адкрыліся вочы, і Станіслаў убачыў ценькія прамені барвовага сонца, што прабіваецца праз шчыліны. „Мусіць, сонца на захадзе",—чамусці прышло на розум. Станіслаў паспрабаваў быў узняць галаву, але ў гэтую-ж самую хвіліну да слыху даляцеў шорах.

— Таварыш камандзір,—пачулася ўслед за шорахам,—загінуць у самы раз...

Ад гэтага шэпту ўраз усхапіўся Станіслаў.

— Маўчы!—крыкнуў груба.—Жыць, жыць трэба!

Чалавек падышоў да яго.

— Табе нічога,—перайшоў на ты і ў голасе прагучэў дакор.— Цябе ўзялі і нічога. А мяне білі, дапытвалі, бачыш?—і ён прысунуў да яго свой скрываўлены твар. - Расстраляць цябе мала.

Сухі, амаль металёвы выбухнуў смех. Станіслаў рагатаў усім целам, хапаючыся рукамі за грудзі, глушачы рогатам боль у спіне.

— І расстраляюць, не бядуй!—саркастычна, праз смех пракрычаў ён.—А хто вінаваты—не час разбірацца. Эх, а спіна, баліць спіна!— сцішыўся ён.

— Бачыў я, прыкладам цябе збілі. Знепрытомнеў.

Потым яны доўга маўчалі, думаючы пра свой лёс. Зусім не страшна, думалася Станіславу, спатыкаць смерць, толькі крышку халодна тут дый сонца—на захадзе—дужа-ж ужо яркае.

— Ты хіба з майго атрада?

— З нашага. Не пазнаў хіба, камандзір? Аўсеенка маё прозвішча, у млыне за памочніка быў.

— Ты... Аўсеенка? З вёскі ты?

— Другі год.

Уначы, калі Аўсеенка, ухутаўшыся ў шынель, спаў, Станіслаў хадзіў па хаце, лічыў крокі, прыслухоўваўся да цемры. Цішыня стаяла наўкола яго гэткая выразная, што, здавалася, аж рукамі яе можна абмацваць. Не ішлі ў галаву думкі. Пра падзеі не думалася. Боль толькі—з'едлівы, прыкры—у спіне ўзмацніўся.

— Аўсеенка!—уголас разважаў Станіслаў.—Расстраляць, кажаш? Мяне расстраляць? За вошта? Хіба я благое што зрабіў?

І адказу не знаходзілася, і думкі вылёталі з галавы і мераў у цемрадзі крокі, услухоўваўся ў цішыню. Нарэшце змарыўся. Сеў на падлозе, падкурчыўшы ногі. Браў сон. Снілася Станіславу Тася, чорныя вочы яе, перапоўненыя жахам, схудалы Барысаў твар мільгаў, а ён, Станіслаў, рагатаў на поўны рот, бліскаючы зубамі, сон насіў яго мякка і лёгка.

— Уставай!—ботам у бок, патрабавальна і моцна.

Усхапіўся. Прымружыў вочы: зыркае святло ліхтара біла ў іх. Аўсеенка быў ужо на нагах. Ад постаці ягонае даўгі цень лёг на сцяну і столь.

— Выходзь!

Пашлі. У небе стаялі чыстыя і яркія зоры. Наўсцяж ляжала асвежанае поле, блакітны, здавалася, быў снег. Воддаль хата ззяла асветленымі вокнамі. Даносілася з яе музыка, песня, узбуджаныя галасы.

— Смерць!—мільганула ў галаве.—Пад гармонік паміраць будзем,—сказаў да Аўсеенкі. Той прамоўчаў.

Курадымам стрэла хата. Перад натоўпам напоўп'яных апынуліся яны. Перакрыўленыя твары, гойсанне ценяў, жаночы плач, густое з'едлівае псямацькание, тупат ног... канца-краю не было гэтаму вычвараму вэрхалу. Нельга было спыніць на чым-хаця

адным вочы: за сталом, устаўленым бутэлькамі, смачна і зацята спрачаліся, двое дужалася, бесперастанку падаючы на падлогу, купка валтузілася з кабецінай—і прыхлуплены яе лямант біўся балюча ў вушы. Гэтак-жа назалліва як лямант кабеціны, неўпапад лузалася ў гэты вэрхал парыпванне гармонікавае: варты быў увагі і гарманіст—ладны мажны хлапец з прастадушнымі мутнымі вачыма і велізарнымі русымі валоссямі. Хілілася галава на гармонік, валоссе лезла ў вочы, гарманіст хвіліну спаў, потым рэзка ўзнімаў галаву, шырока расцягваў гармонік.

— Сволачы!—гэткім лірычным прывітаннем стрэў іх васпаваты чалавек у насунутай на вочы папасе.—Комуністы, сукіны сыны!—Ён наважыўся ўдарыць Станіслава ў твар, але пахіснуўся, п'янае тулава страціла роўнавагу, і ён грузка чмякнуўся аб падлогу.

Аўсеенку яны сіламоць прывалаклі да стала, лілі ў рот гарэлку, трымаючы за галаву, білі кулакамі ў рот. Маўчаў Аўсеенка, моцна заплюшчыўшы вочы, і адно—сіняя бледнасць разлівалася па твары дый набухала на ілбе жылка. „Пабілі нашых,—падумаў Станіслаў,—банкетуюць цяпер, бандыты.“

І якраз успомнілі на яго. За рукі вывалаклі на сярэдзіну хаты, загадалі гарманісту граць:

— Танцуй,... тваю мацьl Да курчаў танцуй. Весяліся, хлопцы!

Самі паўз волю пашлі ногі адмерваць прывычны рытм: плясавая. Жарам абліло цела, выступіў пот на ілбе, п'яныя аблічча пашлі ў хвалі, парасплываліся, ахуталіся туманам. І дзынкат стаяў у вушшу, і целам валодаў боль, а ногі не ведалі стомы—білі тахт, чотка білі тахт.

— Танцуй!—пляскалі ў далоні недзе ў склізотнай туманнай процьме, грукалі бутэлькамі, раўлі, рагаталі.

І адно было ў галаве—„Хутчэй! Хутчэй. Смерць! Смерць! Гэта смерць прыходзіць!“ У бязвольнасці, у атупенні раптам спыніўся, і навакольнае ў момант пастала па сваіх мясцах. Гарманіст спаў. Ашчарэпіўшы рукамі бутэльку, спаў васпаваты казак. Храпла і сапла ўся хата. Толькі варушыўся адзін. Ён сядзеў ля ложка, на якім ляжала расхрыстаная кабеціна ў пакамечаным роіле рыззя, тужыўся ўскараскацца на гэты ложак. Станіслаў трацячы развагу, кінуўся на яго, абодвума рукамі ўхапіўся за горла і ў атупелай задаволенасці бачыў, як павылазілі на лоб п'яныя—траха што не бычыныя вочы.

— Ціха ты! Пабудзіш,—даляцеў да Станіслава шэпт, і Станіслаў аж пахаладзеў.

Крадучыся да яго падышоў Аўсеенка, пераапрануты ў ангельскі шынель і гэткі-ж шынель накінуў яму на плечы.

— Апранайся ды пашлі, можа пранясе!—І потым як хутары засталіся далёка адзаду, ён цёпла сказаў:—Ну, і танцаваў-жа ты, у нас так не танцуюць, першы раз бачыў. Упаіў іх танцам, будуць помніць.

Змораныя яны ішлі бездаражжам, па полі, напрост да лесу. Насустрач ім, загойваючы прадранішнім ветрам ваўчыныя ды

зайцавыя сляды на снезе, ішло світанне. Густое сіняе полымя ўзрастала над лесам, зменьваліся фарбы, праз сінь праступалі плямы ружовыя—неба было ружовым: ні даць, ні ўзяць—луг у мядунках.

Надасвецці, у лесе, у снежных прагалах густа пахла леташняе лісце. Станіславу зноў успаміналася жнівеньская ноч, сустрэча з чарнявым, з вясёлымі—Крушняярскімі хлапцамі. Было горача ад шпаркае хады, у целе быў боль і няўхільна хацелася легчы ў снег—гэты снег здаваўся цёплым і пульхным. Але трэба было ісці, не адставаць ад Аўсеенкі, і два чалавекі ў ангельскіх шынялях доўга блудзілі маўклівым нерушавым бездаражжам. Аўсеенка ішоў бадзёра, радасна. Змучаны ягоны твар калі-ні-калі асвятляўся ўсмешкай—шырокай і ўпэўненай. Кароткім ласкавым словам падбадзёрваў ён таварыша, пасябравацъ з якім прышлося ў гэткіх незвычайных, здавалася, варунках. А ў Станіслава была трывога. Гэтая турботная трывога ўзмацнялася. Было гэткае адчуванне, што нешта дужа важнае трэба было зрабіць Станіславу, але, што менавіта трэба было зрабіць—ніяк не прыходзіла на розум. Аж да нервовае дрыготкі дайшло гэтае падсвядомае адчуванне, і яшчэ больш блыталіся ногі дый узмацняўся боль ва ўсім целе.

Ішлі дзень.

І як бралася на вечар—у змерканні—вырас перад імі Крушняярск. Нешматлікімі агнямі свяціўся ён, але гэтыя агні ў іхным уяўленні ператварыліся ў самыя магутныя, у самыя зыркія ад усіх на свеце сонцы.

Ля шлагбауму ім перарэзаў дарогу пікет. З чыгуначнае будкі вышаў нізкарослы чалавек у пашарпанай скуранои жакетцы, доўга і падазрона аглядаў іхнія ангельскія шынелі.

— Мы з палону,—тлумачыў Аўсеенка яму.—Ды хіба ты не ведаеш мяне. Аўсеенка мае прозвішча.

Маўкліва слухаў чалавек у скуранцы, і потым, як скончыў тлумачыць Аўсеенка, ён сціпла сказаў да чырвонаармейцаў:

— Адвесці ў камендатуру, там няхай разбіраюцца.

— Пойдзем!—радасна згадзіўся Аўсеенка.—Куды хочаце вядзіце!—і ён нечакана зарагатаў.

Нібы ў сне прайшоў наступны дзень. Ашчарэпіўшы рукамі галаву, доўга сядзеў Юткевіч на адным месцы. Колькі разоў дзяжурны чырвонаармеец выклікаў Аўсеенку, дзве пары ног роўныя крокі адлічвалі, крокі аддаляліся, сціхалі, і ў сціхоце бой сэрца быў выразны і пануючы. Паўфунта хлеба ляжала на стале, і хоць не еў Юткевіч другія суткі,—да хлеба не дакрануўся. У думках, у пачуццях, у адчуваннях панавала роіла, і ў роіле гэтым блыталася, гублялася развага. Аўсеенка прыходзіў маўклівы, схмурнелы, валіўся на ложак, адварочваўся тварам да сцяны і ўся няўхлюдая, вялікая ягоная постаць адно гаварыла: не руш, буду маўчаць, маўчаць упарта і доўга. У роіле пачуццяў паўставаў, афармляўся жах, бой сэрца рабіўся глушэйшым, сэрца давала перабоі і тады апаноўваў цела млосны холад.

Паўфунта хлеба ляжала на стале. Юткевіч узняўся, правеў рукой па твары, нібы здымаў з яго нейкае невідочнае павуцінне, падышоў да стала. І штыршкамі, як спазмы, падплыў да горла голад. Схапіў Юткевіч хлеб абодвума рукамі, упіўся ў пахучую мякаць зубамі і, не разжоўваючы, кавалак за кавалкам прагна глытаў хлеб, раскідаючы крошкі па стале.

І калі прышлі па іх—гэтак і пашоў Юткевіч з хлебам па цёмных крушняярскіх вуліцах, несучы яго, як нешта надзвычай дарагое, надзвычай важкае.

За сталом сядзелі таварышы Тарас, Грай, Краўчанка і нейкі незнаёмы паджылы чалавек у чорнай вышыванай кашулі. Левая рука камандзіра Грая была забінтавана. Па-старому ляжаў на Тарасавых плячах шынель. Схудалы Краўчанка выглядаў на пятнаццацігадовага хлапца. Дарагімі, сваімі, мілымі здаліся Юткевічу гэтыя людзі.

— Добры вечар,—сказаў ён.

Краўчанкавы вочы мятнуліся па ягонай постаці, затрымаліся на хлебе, што быў у руцэ, бледныя шчокі набрынялі чырванню, і ён ціха адказаў:

— Здарова.

Таварыш Тарас узняўся з месца, перадаў нейкія паперы незнаёмаму чалавеку ў чорнай вышыванай кашулі, паправіў на плячах шынель.

— Ну, таварышы, справа для вас усіх зразумелая. За апошні час мы страцілі шмат людзей. Вайна, таварышы, як не кажыце.

— Ты... бліжэй да справы,—уставіў Грай, гасячы пальцамі недакурак.

— Не перапыняй, Грай, ведаю сам. Дык справа простая. Юткевіч, якому мы даверылі людзей, якому мы даручылі быць камандзірам, якога мы ведалі, як дысцыплінаванага і самааддананага маладога таварыша, зрабіў вялікае і непапраўнае злачынства.

Юткевіч пахіснуўся, хлеб выпаў з рук і глуха чмякнуўся аб падлогу. Дысгарманічны ход думак ураз спыніўся на месцы, змяніў кірунак, сцішыўся, павальней. Вачыма ўпіўся Юткевіч у Краўчанкаву постаць: спакойны і дужы ў сваёй неварухлівасці быў Барыс.

— Дай слова Юткевічу. Можа ён растлумачыць хоча, што дало яму права не выконваць майго загада.

Гэта гаворыць Грай—выразна, нібы важачы кожнае слова. Юткевіч пераводзіць вочы на таварыша Тараса, бачыць, якая вялікая і магутная ў гэтага чалавека постаць, якія шырокія плечы, аршыны два, мусіць. Таварыш Тарас пазірае яму проста ў вочы і—напэўна, здаецца Юткевічу—у вачах гэтых стаіць дакор.

— Кажы, Юткевіч.

Буйная чырвань залівае твар, робіцца дрогка, сэрца б'ецца прыспешана, падплывае жах, аж стагнаць хочацца.

— Што-ж казаць?—ён пытліва пазірае ў вочы ўсіх прысутных, ён шукае падтрымання, ён не знаходзіць гэтага падтрымання, бо яго не будзе, не будзе.—Мне здалося... здалося, што сігнала не было.

— Так, яго і не было,—раптам усміхаецца Грай.—Аднак, ты кінуўся ў атаку. Гэта падумаць толькі!—непрыхавана абураецца Грай.—Два дзесяткі чалавек кінуць на эскадрон першакласнай конніцы. Бяссэнсіца!

— Бяссэнсіца?—узнімае вочы незнаёмы чалавек.—Гэтая бяссэнсіца ў дадзеным выпадку мае іншую назву. Ты разумееш, камандзір, што азначае не выконваць у баі твайго загада? Я дзіўлюся, як выратаваўся ён сам.

— Мала таго, Хведар,—дадае таварыш Тарас.—Я ведаю цану Юткевічаваму злачынству. Весці людзей на верную смерць праз капрыз маладосці, нявопытнасці.

— Гэткія капрызы нам дорага важаць.

Юткевіч у нейкай рашучасці зрываецца з месца, падбягае да стала з працягнутымі наперад рукамі, ён важыцца нешта сказаць, але слоў няма, простых і мужных слоў, і цела абмякае, апускаюцца рукі, халодны, буйны пот выступае на твары.

— Вінаваты... Думаў, раблю добрую справу, думаў перамагчы. Я-ж малады, таварыш Тарас, мне-ж хацелася... хацелася героем быць.

— Цябе стрымліваў Арцём, ты не паслухаў старэйшага, спрактыкаванага партызана-комунара не паслухаў, загад Грая не выканаў, парушыў загад партыі.

І ўзнімаецца з мейсца Барыс Краўчанка, яго вочы блішчаць неяк асабліва ярка.

— Чужая маладосць у табе загаварыла, Юткевіч, не нашая маладосць. Нашая маладосць абараняе Крушняярск, а ты выбіўся з яе шэрагаў, ведабітае варожае нутро тваё загаварыла.

Дзяжурны выводзіць Юткевіча ў суседні пакой, і выходзячы, далятаюць, здаецца, да яго мяккія журботныя словы таварыша Тараса:

— У мяне сын... гэткага ўзросту, харошы хлапец...

І потым—праз доўгі шэраг гадзін, у начной марознай немарасці: Ідзе Юткевіч па крохкаму снежнаму насцілу, снег рыпіць пад нагамі, інеем укрытыя дрэвы высоўваюцца з цемры, абмінаюць, знікаюць за ім.

...І потым, чакаючы на прысуд, Юткевіч паспрабаваў быў загаварыць з Аўсеенкам, але той упарта маўчаў, унурыўшы ў плечы галаву. Адно разумеў Юткевіч добра: прысуд будзе канчатковы, і жах апаноўваў яго, пот—буйны халодны пот—выступіў на целе.

Апоўначы прахапіўся ён, прыслухаўся да цішыні і, нібы злодзей, на дыбках падкраўся да дзвярэй. У шчыліну ён убачыў Аўсеенку, які, ашчарэпіўшы рукамі вінтоўку, спаў. Ён крануў дзверы. Яны падаліся. Тонка рыпнулі, і нешта нібы адарвалася ў Юткевіча ў сярэдзіне. Але Аўсеенка не кратаўся.

Тады ён праслізнуў паўз яго і выбег ва вуліцу.

Жыць! Жыць!

...Разрываючы рукамі густа паплеценае голле, укрытае снегам, прадзіраўся праз нерушы Юткевіч. Снег сыпаўся яму на галаву, на твар, але ён ішоў і ішоў наперад, нібы гналіся за ім. У хваравітым уяўленні нават малявалася яму гэтая пагоня. Голле біла яго па грудзях, па твары, а ён лузаўся ў цемру, у дрэвы з вар'яцкім імпэтам.

У гэты час у Крушняярску рыхтаваліся да эвакуацыі. З сукрыстых шчылін, з куткоў і куточкаў павылазілі ўжо даўнія цені. Тасін бацька на вачах у дачкі выцяг з шафы свой стары сурдут з сярэбранай зоркай, шумна і старанна абчышчаў з яго пыл. Тася, спехам забегшы да хаты, увязвала ў клунак нямудрыя свае рэчы—пару бялізны, томік Лесінга, што выпадкова трапіў пад руку, сунула ў клунак таксама.

Бацька дэманстрацыйна, шырхаючы шчоткай, гудзеў фальцэтам:

Тарэадор, смялей у бой!
Тарэадор!
Тарэадор!

Тася ўзялася за клунак і, стоячы ля дзвярэй, кпліва сказала:

— Да скорае сустрэчы, татусь.

Бацька шпурнуў шчотку і злосна кінуў наўздагон:

— Можаце не варачацца. Абыйдземся.

У павяткомаўскім калідоры лоб-у-лоб сутыкнулася з Краўчанкам. Заззяла прыветнай усмешкай яму ў твар: не бачыліся каторы ўжо дзень.

— Што са Стасікам?

І ўбачыла, які надзвычай хмуры, надзвычай бледны Краўчанкаў твар, і ўбачыла ў ягоных руках механую кубанку з маленечкім крыжыкам.

— У расходзі—глуха працадзіў праз зубы, і клунак з Тасіных рук мякка ўпаў на падлогу.

І пабеглі павяткомаўскім калідорам заклапочаныя людзі: скруткі, пакункі, клумкі. І недзе зусім блізка грымнуў выбух—аж пасыпалася з вакон шкло. У чалавечай мітульзе страціла Краўчанку, нехта сунуў ёй у рукі нейкія паперы, моцныя рукі кінулі яе да ўваходных дзвярэй.

— Ідзіце!—пачулася над самым вухам, і яна чалавечай стромай была вынесена на вуліцу.

Вуліцай ішлі абозы. Ля павяткому грузілі на калёсы тоўстыя пакі папер, пакі развязваліся, паперы, паперкі, паперачкі рассыпаліся па бруднай зямлі, вецер разносіў іх па ўсёй вуліцы.

Раптам Тася ўгледзела, як нешта велізарнае і незразумелае ўдарылася ў сярэдзіну вуліцы, страсянулася зямля, коні ў абозе падаліся ў бакі і,—стогн, крык, ірзанне, лямант, грукат, акрываўленае аскеп'е... І раптам—у надышоўшай сціхоце—заблямкалі царкоўныя званы, і ў голасе гэтых званоў быў выразны здзек

над чалавечай мітуснёй. На крушняярскіх ускраінах узнік бразгат, лямант, грукат, а над усім гэтым запанавала барвянцовае полымя раптоўна ўзнікшых пажараў.

Ішлі па крушняярскіх вуліцах абозы.

Юткевіч чуў прыцішаны грукат гарадскога арганізма. Выбіваючыся з сіл, ён бег па незнаёмых мясцінах, далёка абыходзячы пасёлкі і хутары, што выросталі з цемры перад ім. Раптам ён выбіўся на гасцінец.Спыніўся, мяркуючы, куды бегчы. Спыніўшыся, адчуў, як пякучая змора авалодвае целам, ірвануўся, напружыўшы ўсе цяглiцы, пабег, але ўпаў, закрыўшы рукамі твар. У вачах пайшлі рознакаляровыя акружыны, пасыпаліся яркія і прывабныя зоркі, нібы бенгальскія агні. І пакуль канчаткова страціў свядомасць, чуў, як дрыжыць, як гудзе шматграннымі і пявучымі гудамі пад ім зямля.

З сакавіком прыходзяць уявы вясны: зямля, нібы звер, ад зімовае спячкі пачынае прачынацца павольна, але ўпарта. На прыпёку сонца прыграе цяплей, над горадам паўстае марыва сініх вясновых туманаў.

Сакавіковая раніца ў горадзе багатая на фарбы і зыкі. Сонца грае на замярэжаных марозам шыбах усімі колерамі вясёлкі, гэткія-ж вясёлкі мігцяць у конусах ледзяных сасулек. Гэтыя сасулькі падобны да дзівосных сталактытаў. Візгатлявымі рыдлёўкамі ачышчаюцца вуліцы ад снегу, у перспектыве ўжо лужыны і ручаіны, лёд на рэчцы дзе-ні-дзе дае шчыліну. Стугіры набухаюць—і як правалішся ў іх: пад снегам трапляеш у чмурую сцюдзёную ваду.

Званы кафедральнага вітаюць вясну дружным сваім гогатам.

Паабчышчанымі тратуарамі, вуліцамі і завулкамі ў кафедральны пацягнуцца гаражане, каб у ім у часе імшы памянуць пасля родных і сваякоў, пасля дзядоў і прадзедаў — памянуць за здароўе—

> „дай, госпадзі, здароўя памазаніку твайму доблеснаму збавіцелю ўсея святое Русі генералу Белову“—

і будзе бухаць галавой у паркетную царкоўную падлогу падслепаватая бабулька, будзе жагнацца тройчы—

> „і пашлі яму благаславенне твае і перамогу над супастатам“—

і пасля гэтага хто-дзе з уздыханнем памяне „за ўпакой“ „самодержца ўсея Русі“ імя рэк, з няўхільным дадаткам: былога імператара.

У святочны дзень—а дванаццатай гадзіне апоўдні—да кафедральнага пад'яжджае грудок коннікаў у ангельскіх шынелях. Услед за коннікамі рыпіць палазамі стараславянскі вазок. Вазок прыпыняецца ля галоўнага ўваходу, над якім Саваоф у позе

цыркавога „чалавека ля дывана“ мусіць казаць: „Войди в сей дом божий“. З вазка вылазіць нізенькі камлюкаваты паджылы чалавек. У яго грудзі ў аксельбантах і медалях, казацкая шашка валачэцца за ім па зямлі.

Гэта генерал Белоў.

Дубовыя дзверы шырока расчыняюцца перад ім, яго сустракае архірэй благаславеннем, хор захліпаецца, як на шлюбаванні, зычачы генералу „многія леты“.

Пасля імшы генерал едзе куды-небудзь да гарадской арыстакратыі банкетаваць, а па гарнізону даецца загад: „Вольна!“

Густой стромай выплываюць на вуліцу салдаты, казакі, бойка лушчыцца сланечнік, карчомкі напаўняюцца гудам, рогатам, псямацьканнем, песнямі.

Увечары грудок п'яных казакоў пераймае на цёмнай вуліцы дзяўчат, віск і крык вырастае над гарадскімі ўскраінамі. П'яны рогат і тлустая лаянка спаборнічаюць з дзявочым плачам і стогнам. Звініць пабітае шкло, смярдзіць дымам і дзе-ні-дзе полымя пажару раскідваецца фейерверкам у цёмным маўклівым небе.

Захліпаецца раз'юшаная гаворка гармонікавая, п'яныя ногі месяць паражэлы снег, п'яныя галасы лушчацца ў вэрхал начное вуліцы:

Шынель ангельскі,
Мундзір японскі
Разбой расейскі
Правіцель омскі

Эх, шарабан мой,
Амерыканка...

І прыходзіць не па вясноваму водырная, млосная ноч—і праз гэтую ноч загад па гарнізону: „Воольнааа!“...

Сакавіковай раніцай, ад буйнага сонца, што ўварвалася ў вакно, Юткевіч прачнууся ўраз. Праз велізарныя, незвычайнага гатычнага прарэзу вокны сонца ішло густа. Пад сонечнымі промнямі каменныя вільготныя сцены пакояў пакрыліся парай,— у гэтых выпарэннях сонца заклубілася. Вясна ўварвалася ў пакой, і Юткевіч усімі самымі дробнымі каморкамі цела паспытаў да жыцця прагу.

Прачнуўшыся, аглядзеўся. Ён ляжаў на нейкай старасвецкай канапе, на падлозе каля канапы валяўся ягоны ангельскі шынель. Ён прасачыў за кірункам сонечнага промня і ўсміхнуўся нечакана. Раптам за сцяной пачуліся крокі і, бразгаючы ключамі, у пакой увашоў нізенькі чалавек у шэрым мундзіры з блакітнымі нашыўкамі на левым рукаве. Юткевіч узняўся на локцях.

— Ляжыце, ляжыце,—заспяшаўся ўвайшоўшы, ветліва ўсміхаючыся: гэтая ўсмешка была траха што не сяброўская.— Вы выспаліся?

— Так, выспаўся.

Чалавечак падышоў да канапы, узяў з падлогі шынель, павесіў яго на спінку крэсла.

— Агледзце сябе, вас хоча бачыць генерал.

— Пачынаецца!—прамільгнула ў Юткевічавых думках, і ён адным махам апынуўся перад чалавечкам.—Магу ісці. У мяне, бачыце, падарожжа сюды было незвычайнае крышку...

— Так, падарожжа было незвычайнае, пойдзем.

Юткевіч вышаў за вайскоўцам у доўгі напаўцёмны калідор. У перспектыве свяціліся шкляныя дзверы. Юткевіч агледзеўся, але канвойных не было. Да дзвярэй дашлі моўчкі. Вайсковец папрасіў пачакаць і бясшумна знік за дзвярыма. Праз хвіліну дзверы шырока расчыніліся і, увайшоўшы, Юткевіч ураз пачырванеў—насустрач яму, раскінуўшы ў бакі рукі, ішоў бацька.

— Блудны сын, блудны сын! сціснулі Юткевічаву постаць у прыхільным моцным абдымку.—Генерал, гэта мой сын.

І толькі цяпер Юткевіч заўважыў генерала: за велізарным, цяжкім і няўклюдым сталом сядзіць сіваваты, камлюкаваты чалавек, твар у яго ў зморшчынах, рот ашчэрваецца усмешкай і жоўтымі пашчапанымі зубамі.

— Я заўсёды вам казаў, пан Юткевіч, што ваш сын знойдзе свайго бацьку. Ну, бярыце яго пад сваё апякунства. У маладога чалавека гэткі выгляд, нібы ён з таго света прышоў.

— Так, генерал, з таго света!—дабратліва хлопаючы сына па плячы, кажа бацька.—Ну, пойдзем, пойдзем.

Яны выходзяць на сонечную вуліцу. Бацька нешта беспераПынна гаворыць. Словы не даходзяць да Юткевічавай свядомасці, бо ён спрэс п'яны ад гэтай сустрэчы, ад веснавога гуду гарадское вуліцы, ад гарачага буйнага сонца.

— Ты тут на гастролях, татусь?

— Не, Стасік, не. Я тут працую, я змяніў сваё рамяство. Я цяпер вайсковы чалавек!—і бацька пазірае яму ў твар, шукаючы сыновага здзіўлення.—А вось ты, ты павінен заняцца маім рамяством. Я думаў пра гэта ўсю зіму, што не было цябе, я знайшоў партнёрку, каб ты толькі бачыў. Ды вось прыдзем да хаты, угледзіш.

— Дзе мама?

Бацька хвіліну маўчыць. Ён бярэ сына моцнай сваёй рукой пад локаць, голас яго робіцца цішэйшы і мякчэйшы:

— Не дачакалася старая светлае часіны... Тыфус, Стасік, тыфус...

У дзяцінстве апавядаюць казкі і вабяць хлапечы розум у гэтых казках прыгожыя князёўны. Нібы князёўна з казкі, паўстала перад Юткевічам яна. Мусіць таму, што сонца заліло валву непакойлівага валосся, што ў вочы ўдарыла бель вопраткі—яна авалодала ягонай увагай, напоўніла сабою ўвесь пакой, усю ягоную істоту, увесь свет. Свет знік у гэтую хвіліну для яго.

Бацька моўчкі сачыў за ім, правяраў уражанне. Потым стаіўшы хітраватую усмешку, сказаў:

— Знаёмцеся... Гэта мой сын...

Яна прыветна засмяялася і ўслед за гэтым–грудным мілагучным голасам:

— Пра вас багата чула... Будзем знаёмыя... Эльга мяне завуць.

І тут пачалася бацькава ўлада. Стаміўшыся ад незвычайнага дня, Станіслаў хацеў спаць, але бацька спаць не даў, прымусіў пераапранууца, і яны паехалі ў тэатр.

Шумны і бескласотны натоўп перапоўніў гэты тэатр. Сярод людзей усё часцей і часцей траплялі ся вайсковыя мундзіры, чулася муштраванае шарканне ног, звон шпор. Станіслаў прытуліўся да белае калюмны, назіраючы натоўп. Аднекуль вынырнуў бацька, схапіў за руку, пацягнуў за сабой.

— Не сумуй, Стасік, ты ўбачыш яе на сцене. Я з ею буду танцаваць!—у голасе гучэлі ноткі гонару.

У пустой велізарнай ложы сядзеў Станіслаў. Прызвычаеным вокам агледзеў сухога і педантычнага дырыжэра, адзначыў, які праз меру чырвоны нос у яго, прыслухаўся да шуму ў залі. Нейкая была ўрачыстасць у гэтым шуме, і Станіслаў падумаў: сёння, мусіць, нейкае свята. Рассунуўшы машастовую заслону перад рампай узнік канферанс'е. Зала заціхла.

— Шаноўныя панове! Я хочу паведаміць прыемную навіну. Апрача абвешчаных артыстаў у сённяшнім канцэрце бярэ ўдзел выдатны артыст, прэм'ер імпёратарскіх тэатраў Павел Юткевіч.

Зала завар'явалася. Гром воплескаў і крыкаў доўжыўся паўгадзіны. Напамаджаны канферанс'е ківаў на ўсе бакі галавой, нібы гэтая авацыя тычылася яго. „Ну і бацька,"—задаволена падумаў Станіслаў.—„Бес у ім сядзіць". Падумаўшы гэта, ён з небяспекай паглядзеў на дырыжэра, які старанна і бязуважна корпаўся ў нотах партытуры. Але вось над пультам успыхнула лямпачка. Дырыжэр неяк уздрыгануў, выцягнуў руку, узмахнуў ею і Станіслававы сумненні зніклі самі па сабе: аркестр распачаў моцна, зладжана, упэўнена.

Антрактам у тэатр прыехаў генерал Белоў. Нізенькі вайсковец, які прыходзіў кагадзе па Станіслава, быў з ім. Іхні прыход спаткалі дружным „гуррра". Жанчыны апладыравалі. Генерал Белоў, ківаючы па баках галавой прайшоў у трэці рад і неўзабаве каля яго расселася колькі вайскоўцаў.

— Я прыехаў глядзець Юткевіча,—даляцелі да Станіслава генералавы словы, і Станіслаў зразумеў, што бацька грае ў белаўскай арміі не апошняе месца.

Стаіўшы дыханне, Станіслаў сачыў за сцэнай. Ціха і меладычна заспявалі флейты, прыглушана, машастовым тэмбрам загурчаў фагот, скрыпачы затармазілі смычкі— і ў разнакаляровых промнях пражэктараў узнікла Эльга Райх. Зачараваная зала, здавалася, анямела. Лёгка, замятаючы сваю пяшчотную хаду рытмічнымі ўздрыгамі газавага вэлюма, ішла па сцэне актрыса. Услед за ёю шырокімі скачкамі выступаў Павал Юткевіч. Ён нібы гнаўся за гэтым лёгкім стварэннем, але яно выслізгвала

з ягоных рук, імкнучыся наперад і наперад. Раптам нехта крануў Станіслава за руку. Ён уздрыгануў і павярнуўся.

— Вы ягоны сын?—пытаўся шэптам малады чалавек з падведзенымі вачыма.—Я так і думаў. Мне перад самым выхадам сказалі, што я павінен уступіць месца маэстра.—Ён маркотна кіўнуў на сцэну.

— Вы танцуеце з Райх?—зразумеў Станіслаў.

— Так, я танцую з ею. Але сёння мне сказалі: супакойцеся, малады чалавек, не хвалюйцеся. Выбачайце, але ваш бацька—дэспат. Хіба яму танцаваць з Райх? У яго старое адрузлелае цела.

Станіслаў здзіўлена зірнуў на актора. Той неяк сумна ўсміхнуўся. У яго непрыемна дрыжэла ніжняя губа.

— Аб бацькавым майстэрстве я высокае думкі,—ціха, але рэзка сказаў Станіслаў і адвярнуўся ад актора.

— Я не адмаўляю гэтага. Але яго цэняць у нас перш за ўсё за яго дыпламатычныя, за яго палітычныя здольнасці...—У голасе прагучэла гіронія і Станіслаў праз сілу стрымаў сябе, каб не абразіць новага свайго знаёмага.

...І пайшло праз дні і ночы, праз тыдні, праз месяцы цяжкое, як вырак, бяздум'е. Развага спала глыбокім сном, ленай чарадой брылі думкі, была апатыя, бязвольнасць Толькі калі-ні-калі ўсплывалі ў істоце нейкія больш яркія жаданні. Гэта было тады, калі чароўная Эльга ўглядалася ў яго вузкімі, даўгімі сваімі вачыма, калі сонца гарэла ў рыжай яе капне валосся. Але, аналізуючы гэтыя жаданні, ён прыходзіў да аднаго, няўхільнага і пануючага выніку: яму было зайздросна, што бацька мае права абыходзіцца з ею гэтак лёгка і проста, падкрэсліваючы кожным сваім гэстам, што зрабіў для яе, для Эльгі Райх, усё, што яе бытаванне да з'яўлення Паўла Юткевіча роўнае было нулю, што важкасць яе, як жанчыны і актрысы, узрасла і павялічылася толькі праз яго, Паўла Юткевіча, ласку. Зайздрасць была самым яркім Станіслававым пачуццем, зайздрасць поўніла ўсё цела. Усё радзей і радзей мільгала думка, што жыве ён дробнымі і нікчэмнымі пачуццямі, дробным нікчэмным жыццём, паўставаў перад вачыма Крушняярск, і тады нараджаўся жах, нараджалася трывога, памножаная на нянавісць і помсту. Праходзілі гэтыя сумненні гэтак-жа раптоўна, як і ўзнікалі, зноў панавала бяздум'е, зноў яркла зайздрасць.

Павал Юткевіч непрыкметна, але ўпарта заваёўваў сына. Гэта рабілася іншымі сродкамі, чым даўней. Пра даўнейшыя разыходжанні сын з бацькам не ўспаміналі, робячы выгляд, нібы жыццё іхнае ішло роўна і гладка заўсёды. У бацькі для сына знайшлося раптам багата пяшчотных і цёплых слоў, бацька для сына вынаходзіў забавы і заняткі, вырываючы яго з самотнасці.

Раніцаю бацька прыходзіў да сына, садзіўся на ложак і ўсё ягонае велізарнае цела ззяла здароўем і дужасцю. Сын машынальна нацягваў коўдру, сын чагосці чырванеў, сыну было

ніякавата ад таго, што бацька сядзіць ля яго, што бацька голы Яму здавалася, што бацька прыходзіць сюды толькі для таго, каб выхваляцца перад ім сваім дужым і трэніраваным целам. Станіслаў спрабаваў быў заплюшчваць вочы, ён рабіў выгляд, што спіць, але бацька тармашыў яго, рагатаў над дзявочай ягонай сарамяжасцю. Бацька зрываў коўдру, вялікімі сваімі рукамі хапаў сына за плечы, сціскаў іх, трос, рагочучы на поўны рот.

— Уставай, уставай! Досыць кіснуць. Зараз прыдзе Эльга і мы будзем трэніравацца. Уставай!

Станіслаў цягнуўся рукой за трыко, але бацька вырываў яго з рук, кідаў у супрацьлеглы канец пакою.

— Трусы! Адны толькі трусы!

Потым у дверы ціха стукала Эльга, вітаючы з добрым днём, і—чуючы яе голас—Станіславава цела пакрывалася чырванню, і бацька пры гэтым фамільярна міргаў левым вокам.

— Раз, два, тры! Раз, два, тры! Маэстра, паўтарыце нактурн. Эльга сёння бачыла ў сне цэлы эскадрон і ў яе крышачку вялае цела. Паўтарыце, маэстра. Ёй трэба ўвайсці ў сілу.

Меланхалічны піяніст адкідваў рукой ліпкія валасы, што назалліва лезлі ў вочы, ледзь-ледзь дакранаўся да клавіш і, слухаючы мяккія гукі свайго інструманта, жмурыў вочы.

Эльга Райх паўтарала складаны харэаграфічны рысунак, а Павал Юткевіч сачыў за ею і вочы яго пачыналі гарэць прытоенымі агнямі.

Аднойчы раніцаю, у часе трэніроўкі Станіславу выпала працаваць з ею разам. Піяніст жмурыўся. Нібы жывая істота, уздыхала фортэп'яна. У разгары танца Станіслаў прыкмеціў, што бацька знік з залі. Станіслаў, не даканчыўшы „па“, спыніўся: Эльга Райх здзіўлена ўзняла на яго вочы.

— Вы зблыталі?

Станіслаў кіўнуў галавой.

— Вы зблыталі.

— Я?—твар Эльгі ўраз заружавеў.—Я не зблытала. Вам гэта здалося.

Ён наблізіўся да яе, узяў за рукі, упарта паглядзеў у вочы.

— Чаму вы цураецеся мяне?—глуха спытаўся ён,—Хіба вы не бачыце, што мне прыкра глядзець на бацькавы адносіны да вас. Хіба вы не бачыце, што мне цяжка?

Яна паспрабавала вызваліцца з яго рук, але ён раптоўна прыцягнуў яе да сябе, і яна адчула, як буйна і гулка стукаціць ягонае сэрца.

— Чаму вы гэтак па-казённаму ставіцеся да мяне? Я не ваш партнёр!.. Я не хачу быць вашым партнёрам! Не хачу і не буду!

Меланхалічны піяніст скончыў п'есу і пачаў спачатку яе. Ён не чуў іхнае гаворкі, ён старанна і рупна выконваў сваю работу. Ён салодка жмурыўся.

— Я перанёс вялікае ўзрушэнне, бачыў я твар у твар смерць, па той бок фронта мяне пахавалі. У мяне скалечанае юнацтва, Эльга, у мяне жыццё скалечанае.

Яна ўжо не вырывалася з ягоных рук, яна нават прытулілася галавой да моцных і пругкіх ягоных грудзей, яна слухала гэтае незвычайные прызнанне, слухала шпаркі бой сэрца.

— Бацьку я ненавіджу, баюся я яго... Калі-б у мяне быў іншы бацька, Эльга, калі-б у мяне было іншае дзяцінства, іншым чалавекам быў-бы я. Я шукаў сваё юнацтва, Эльга, я шукаў роўных сабе людзей і не знайшоў іх. Я шукаў таварышавання, шукаў маладосці, а напаткаў смерць, уцёк ад яе... але імчыцца, шалёна імчыцца яна за мной аж дагэтуль. Што засталося ад таварышавання ў мяне, Эльга? Нянавісць. Вялікая і важкая нянавісць. І няма дзе дзецца ад яе мне.

Ён змоўк, і піяніст спыніў гранне, не ведаючы, што рабіць— пачынаць спачатку нактурн, ці не. Бацька не прыходзіў. І, карыстаючыся гэтай нечаканай паузай,—Эльга асцярожна вызвалілася з яго рук і спехам пашла да дзвярэй. Ён схамянуўся і ірвануўся наўздагон. Эльга прыспешыла крок. Ён пабег. Праз доўгую чараду пакояў бег ён за ёю. Гулка хлопалі дзверы. Наўздагон іхнаму бегу ляцелі парт'еры. Мноства люстраў адлюстроўвала гэтую пагоню. Бег мільгаў у шкле, у нікелі, у паліраваным дрэве. Усё бегла разам з ім у гэтым вялікім доме. За вокнамі бегла сонечнае ранне. Беглі сонечныя промні, адлюстроўкі іхныя, цені. Гэты бег паглынуў увесь свет, і трэба было дабегчы абавязкова.

І раптам ён прыпыніўся.

Ён перамог. Ён адчуваў гэтую перамогу ўсёй сваёй істотай.

Эльга стаяла перад ім і за ею стаялі высачэзныя зачыненыя дзверы. Бегчы не было куды.

— Не трэба, Эльга!—траха што не крыкнуў ён, выпростваючы перад сабой рукі.

Яна апусціла галаву, і залатое валоссе ўпала на твар буйнымі тугімі колцамі. Адным скачком ён апынуўся ля яе. Схапіў, узняў, панёс.

— Не трэба, Эльга,—шапталі вусны, нахіляючыся над ею.— Не трэба цурацца мяне. Нам вялікае, цяжкое жыццё прайсці трэба будзе разам.

...Як звычайна—бацька прышоў будзіць яго. На бацькавым твары была заклапочанасць.

— Уставай, Стась! Вы будзеце трэніравацца без мяне. Я заняты сёння, дужа заняты.—І бацька наважыўся ісці.

— Куды ты?

Бацька дакорліва махнуў рукою, скрывіў рот нездаволена.

— У нас на фронце цяжкасці. Стась... Няварта гаварыць, гэта нецікава, нудна.

І толькі цяпер успомніў Станіслаў, што ён-жа, уласна кажучы, не ведае, што робіць у стаўцы генерала Белова яго бацька, і яму захацелася даведацца пра гэта зараз-жа.

— Татусь... ты мне даруй... Мяне цікавіць, што ты тут робіш?

— Я?—бацька пытліва зірнуў яму ў вочы.—Я-ж не пытаўся ў цябе, што ты рабіў увесь гэты час.

Станіслаў узняўся з ложка.

— Служыў у Крушняярскім павяткоме, быў на фронце, забіў афіцэра белоўскай арміі!—Гэта прагучэла выклікаюча і насмешліва.

— І потым?—за гэтым запытаннем бацька захаваў турботу,

— І потым мяне прыгаварылі да расстрэлу. Не дапільнавалі, уцёк я. Чуеш?

Павал Юткевіч падышоў да сына і ўзяў яго за руку.

— Ты хвалюешся, Стась. Расстрэл за бацьку, так?

Станіслаў зларадна зарагатаў.

— Не, татусь... Мы не ведалі дзе ты і хто ты.

— Ты кажаш—мы?

Бацька пазіраў на сына адкрытым і простым позіркам, і ў позірку гэтым зноў, як і шмат разоў. прачытаў Станіслаў перамогу.

— Яны... не ведалі, хто ты...—чамусці зусім ціха сказау сын.

— Ого!—на гэты раз засмяяўся Юткевіч-старэйшы.—Калі-б яны ведалі, што твой бацька дыпламатычны райца пры штабе генерала Белова, яны-б вартавалі моцна. У гэтага народца—чорная злоба, жывёльная злоба.

Станіслаў адвярнуўся. Ён колькі хвілін стаяў з апушчанай галавой. Рукі былі выцягнуты ўздоўж цела. Бацька толькі цяпер заўважыў сляды ад царапін на ім.

— І ты мне гаворыш пра майстэрства?..

— Майстэрства, Стась, не супярэчыць вайне. Ты спытайся ў Эльгі, як сустракаюць яе салдаты нашай арміі. Яе танцы нясуць для іх адпачынак, спакой, бадзёрасць, упэўненасць, абуджаюць у грубых салдацкіх сэрцах імпульсы. А гэта нешта ды важыць.

— Я пытаюся пра цябе, бацька?—рэзка павярнуўся да яго.

Павал Юткевіч паглядзеў на гадзіннік: ён паказваў на восем. У надышоўшай цішыні гадзіннік забомкаў—меладычна і спакойна.

— Я стары,—нібы ў тон гадзіннікаваму бомканню, спакойна і разважліва адказаў бацька.—Майстэрства для мяне канчаецца, я перадаю яго табе. Ты здатны. Што-ж мне застаецца рабіць? Я ўсё-ж павінен служыць сваім людзям, тым людзям, якія ўзрасцілі мой талент, якія стварылі мне славу, якія прызналі мяне за свайго. Я ім павінен аддзякаваць за ўсе клопаты. Я дзякую. Служу.

І ён павольна пашоў да дзвярэй, даючы магчымасць сыну прадумаць і зразумець сказанае. Гулка і роўна аддаляліся ягоныя крокі. Напружана слухаў іх Станіслаў. І разам з тым, як сціхалі бацькавы крокі, у ягонай свядомасці мацнела рашучасць.

Гэтая рашучасць кіравала ім увесь гэты дзень. У нейкай усеўладнай атупеласці ён пачаў апранацца і рухі ягоныя былі рэзкія, ліхаманкавыя. Парваліся шнуркі, ён іх доўга надвязваў, а злосць закіпала, бурлівей, мацней. З глыбіні дома далятаць пачалі фартэп'яныя гукі, Эльга адна трэніравалася ў залі і мелан-

халічны піяніст, як ніколі, стараўся. Шнуркі зацягнуты, ён ля люстра, ён праводзіць рукой па шчацэ, рука намацвае мяккае валоссе—„галіцца, галіцца ўжо трэба". Паварочваючыся на месцы, ён аглядае сваю фігуру, разгладжвае ладонямі зморшчынкі на піджаку, зморшчынкі збягаюцца зноў—„Бач, які тоўсты бацька",—пінжак з бацькавага пляча.

Потым ён, рассунуўшы парт'еры, сочыць за Эльгай. Яна заўважае ягоны прыход, злёгку чырванее, падбягае да піяніста, спыняе яго—і піяніст, схіліўшы галаву, выходзіць.

— Ты чаго апрануўся гэтак?

Ен упіваецца пальцамі ў пакамечаныя парт'еры, стрымліваючы сябе—кажа:

— Я іду. Пра гэта і сказаць прышоў.

— Куды ты?

— Я?—Канцы парт'ер адлятаюць.—Трэба пытацца, ці надоўга...

Пільна ўглядаючыся, Эльга падбягае да яго, рукі абвіваюць шыю, галава хіліцца да грудзей і вочы—блізка, блізка.

— А жыццё? Жыццё доўгае наша?—пераходзіць на трапяткі і турботны шэпт.—Бачу, назаўсёды ідзеш, нядобры твар у цябе... Злы ты, жорсткі, нядобры... Вы ўсе гэткія.

Яна закрывае вочы рукой, бяжыць у канец залі, кідаецца на канапу, дрогка кратаюцца плечы.

У нерашучасці ён колькі хвілін стаіць, апусціўшы рукі, здэтанаванасць пануе на абліччы, але потым рэзкая зморшчына кладзецца па кутках вуснаў, злыя непранікнёныя робяцца вочы. З нейкай рашучасцю ён падыходзіць да канапы і руку кладзе на Эльгіна плячо.

— Супакойся.—У гэтым слове ні каліва цёплай пяшчоты, сардэчнасці, у ім гэтак багата банальнасці і будзённага далікацтва.—Мне тут не месца, колькі дзён узапар я не магу знайсці сабе прытулку ў гэтым бяздушна-вялікім, чужым доме. Я пайду адсюль.

Яна прыўзнімае галаву, налітыя слязмі вочы ўпіваюцца ў яго. Ей хочацца ведаць, куды ён пойдзе, ёй хочацца ведаць, чаму няма спакою яму ў гэтым шыкоўным доме, пад адным дахам з ёю? Быць з ёю, сэрца ў сэрца, хіба гэта перастала быць асалодай? Як хутка. Як хутка зменьваецца ён!

— Пачакай!—працягвае руку, нібы хоча яе аддаліць ад сябе, нібы баіцца яе.—Пачакай, Эльга!—Святлее твар, вочы робяцца шырокімі і ў шэрай глыбіні іх запальваюцца зялёныя агенчыкі.—Для мяне спакою не будзе. Не будзе, Эльга, кажу, не глядзі гэтак пытліва. Там, за мяжой, мяне адцураліся, мяне пахавалі і, бадай, ніхто і словам не ўспамяне. Я злачынца для іх і я памёр, як злачынца. Чуеш, Эльга, я памёр.—Твар крывіцца ад нутранога рогату, зялёныя агенчыкі пачынаюць гайсаць, не стрымаць нарэшце гэтага буйнага рогату і ён вырываецца.—Хо, хо, Эльга! А тут? Тут я таксама чужы, я жывы, але бацька—мёртвы, мёртвы... мой бацька. Ты палохаешся майго дзікага

рогату? Ты думаеш, што я вар'яцею? Мілая!—Ён нахіляецца над ёю, але яна вырываецца з яго рук, туліцца да сценкі, падбірае ногі.—Палохаешся? Ну, а мне напляваць, чорт з вамі ўсімі, чорт з вамі, я бег ад смерці, а бегчы ад смерці могуць толькі дужыя. А я з матчыным малаком усмактаў у сябе парокі маіх бацькоў, дзядоў, прадзедаў. Нарадзілі мяне, гадавалі, расцілі, меркавалі аб будучым. А вось дні прышлі, і ў пекла тарчма лятуць гэтыя меркаванні. Бацька? Хо, хо! Цацачны дыпламат з годнасцю прэм'ера імператарскіх тэатраў. Бач ты! Яму сярод німф ды наяд у „пачках" сатырам з рожкамі вытанцоўваць, яму фэрты кідаць здэтанаванаму гледачу накшталт патрыятычных безгустоўных імправізацый, а не займацца дзяржаўнымі! вялікімі!! справамі!!! А генерал? Па міністрах і генерал, Эльга!...

Яна ўжо даўно не слухала яго. Яна дрыжэла ўсім целам, вачыма шукаючы выйсця. Ён захапіўся сваёю гаворкаю і—калі абарваў яе—Эльгі ў залі не было. Ён разгублена азірнуўся па баках, ціха назваў яе імя, і толькі галзіннікавае ціканне было адказам яму.

Тады ён крута паварочваецца і рэзкімі крокамі выходзіць з дома, каб ніколі ў яго не прыходзіць.

У той-жа дзень ад'ютант генерала Белова перадае падагрычнаму, чырвонаносаму, цыбатаму палкоўніку загад: Юткевіча Станіслава Паўлавіча, дзевятнаццаці гадоў ад нараджэння... і інш., інш., інш.—залічыць ва ўласны генерала Белова атрад. Падстава: рэзалюцыя генерала. Подпіс. Дата. Штамп.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шынель ангельскі<br>
Мундзір японскі,<br>
Разбой расейскі,<br>
Правіцель омскі.<br>
Эх, шарабан мой<br>
Амерыканка!<br>
А я дзяўчынка ды...

— Цццсс! Цццсс, панове! Тут многа дам, тут многа чароўных жанчын. Навошта пераносіць нашыя баявыя будні ў сёнешнюю інтымную і рамантычную абстаноўку? Я ведаю, усе вы—адданыя самаахвярна слаўнаму рускаму воінству...

— Гурра!

— Гох! Гох!

— Горка! Горка!

— Мілачка, пацалуй. Ну, яшчэ, мілачка!

— Ну, пупсік!

— Пупсік, мой мілы пупсік!

— За рускае воінства выпіць!

— За пупсіка! За пупсіка, чэрці, выпіць!

І, расплёскваючы пітво на сурветку, на расшпілены ў самым непрыстойным месцы мундзір, на галовы суседзяў, малады

рыжы афіцэрык прабіраецца да „тамады“, які толькі-толькі гаварыў пра слаўнае рускае воінства.

— Ттты ттамаада?

— Тамада.

— Ттты... мне... ддудудррруг?

— Друг. Жоржынька.

— Ддыык пі... тваю ммаць, за пупсіка (ік) кка! Нна!—дрыжачымі рукамі ён совае чарку „тамадзе“ і той дробненька міргае вачыма.

„Тамада“ выпіў такі за „пупсіка“, і рыжы афіцэрык утароплівае свае маленькія мутныя вочы на забаўны грудок калег. На твары з'яўляецца дурнаватая ўхмылка, і няўпэўненымі крокамі ён падыходзіць да іх, плескаючы з чаркі пітвом на жаночыя грудзі. Дзікі крык урэзваецца ў многагалосы гуд кампаніі. Гэта зайздрасць абудзілася ў „пупсіка“, і яна—маленькая, пышная, як аладка, імклівá падлятае да афіцэрыка, раз—поўха яму, два—поўха жанчыне ў барвянцы. Інцыдэнт перарастае ў падзею, і „тамада“ намагаецца супакоіць жанчын, што наважыліся кінуцца адна на адну, як коткі, у бойку.

— Панове, панове!—высокім фальцэтам крычыць „тамада“.—Паглядзеце, колькі бутэлек засталося, а вы... Хіба гэтак п'юць рускія афіцэры!

— Рускі афіцэр так не піль. Так піль дзікі зольдат. Нонсэн!—кажа рыжы афіцэр-немец.

Толькі два чалавекі заставаліся безудзельнымі ў гэтых забавах, толькі два чалавекі сядзелі, нізка схіліўшыся над шклянкамі, за сталом, папыхваючы сігарэтамі.

— Саша,—туга выварочваючы языком словы, ліп да чарнявага ўродца Станіслаў Юткевіч.—Не магу, Сашша. Падступае да горла, агідна.

— А ты пі, Стасік, пі,—тыкаў абрубкамі пальцаў, аброслых чорным валоссем, у шклянку, а на ўродлівым твары мільгала грымаса—ці то спачування, ці нянавісці.—Пі да дна, і думы прап'еш, і прызвычаішся да нашай кампаніі, і бацьку забудзеш.

— Не, Саша, згрызота есць...—упіваецца пальцамі ў пакручаныя ў ліпкія кудзеры валасы.—На фронт-бы хутчэй, і ні дум табе, ні трывог...

— Пі, да дна пі!..

„Пі, да дна, пі!“—далёка, праз дым, праз чмуту галасоў, піск жаночы, рахтанне і грукат, бомканне раяля—далёка, далёка, нібы ў сне.

І сон надыходзіць—ва ўздрыгах свядомасці, калі хочацца вырвацца на вецер, у ноч, грудзмі ўвабраць паветра, калі мільгае бязвусы, кругленькі (кадушачка дый годзе) немец-афіцэр і малочны кісель грудзей на фоне фарвянца, залітага пітвом, калі ў блытанае мярэжыва п'яных уяваў раптам урываецца бомканне гадзіннікавае—раз, два, тры... дзесяць, адзінаццаць, дванаццаць, ракавыя дванаццаць гадзін...

... У віхор, у ноч, у разме̄тануюсутонь снежных прасцягаў, калі сыплюцца з неба пераспелымі слівамі зоры, калі насуха высушвае вецер твар і ў ветры гэтым плаваюць лёдзь чутныя, але ўсе больш настойлівыя павевы вясновыя, калі яшчэ чмурыць галава ад беспрасонных п'яных начэй,—у віхор, у ноч, у разме̄тануюсутонь снежных прасцягаў: „На каня!"

Маўклівыя прыграды праяжджалі з песняй, разгульны, заліхвацкі тэнарок выкартаўліваў „Марусю"—бессаромную песню, і казакі, вольніца данецкая—хрыпаватым басцам выгарцоўвала за тэнарам, дый у песню ўразалася час-ад-часу афіцэрская каманда. Маўклівыя прыграды глушылі рэха, сінія далі, ахутаныя гліцай, насоўваліся на коннікаў і сілуэты іхныя нібы страчвалі сваю матэрыяльную важкасць, робячыся казачнымі зданнямі.

Вецер заласкатаў Юткевічаў твар, і ён прыжмурыў вочы, стрымліваючы каня. Конь мякка танцаваў, важачыся стаць на дыбкі. У павевах гліцы чуў і конь надыход вясны, і гарачая кроў яго пачынала крута брадзіць. Спакою хацелася Юткевічу, лірычная гама абудзілася ў душы і заспявала па ўсім целе, ён ірвануў вуздэчку, і конь сцішыў свой нораў.

Змоўкла песня. Толькі чуўся ёкат конскага шлуння дый мяккі стукат капытоў. Маўчалі казакі. І падумалася Юткевічу: мусіць, кожны з іх думае пра надыходзячы бой, пра пакінуты разгул гарадскіх карчомак, а можа хто-небудзь успомніў пра радзіму сваю. Але адразу ў думках паўстаў вобраз абраслага чорнай шчэццю Сашы Маслоўскага—новага прыяцеля... тое, як, сцэджваючы ліпкую сліну праз жоўтыя пашчапаныя зубы, Саша Маслоўскі цынічна цадзіў:

— Армія... Паўлітроўку і бабу паабяцай, і ў бой пойдуць. Голь, шантрапа, прайдзісветы, тля паршывая!

Гаворачы, ён па-гулецку шлёпаў аб наваксаваную жоўтую халяву раменнай нагайкай, падкрэсліваючы сваю перавагу над казакамі.

Неяк перад выхадам Юткевіч неўпрыкмет падзяліўся з Маслоўскім сумненнямі. Залічылі яго ў атрад, і ходзіць ён у афіцэрах, коса паглядаюць казакі на яго, маўчаць, але адчуваеш: зневажаюць. Ды хіба можна паважаць афіцэра без казакаў? У адказ—разрагатаўся Маслоўскі:

— Ты... дзіцёнак, Юткевіч, дый годзе! Ты ад'ютант яго высокароддзя... сакратар, так сказаць, асабісты. Ты-ж сын Юткевіча і зрабіць радавым цябе—канфуз.—І потым з гідкім ашчэрам зубоў, з падкавыкаю ўзяў пад локаць, пахіхікваючы пры гэтым.—А аўтарытэт у казакоў заваюем, пачакай, навучу. От толькі паход, і мы на шчыце... нас не вучаць, смаленыя!

Перанасычаны былі словы Маслоўскага цынізмам, як заўсёды, але—дзіўная рэч!—спакойна прымаў іх Юткевіч: з бязроднага зброду, з афіцэраў (плямістая рыжая роўніца—без канца!) упадабаў ён гэтага чорнага д'ябла—за лёгкую хаду жыццёвую, за поўны і канчатковы скептыцызм, за выключную мяккасць да яго, да Юткевіча.

І вучэнне прышло—
адвячоркам.

У прадвясновай сціхоце адвячорка лена і ўтульна курэў з комінаў дым. На ўскраі сяла—за парканамі, хатамі, варыўнямі—тонка мычэла цялё—ні даць, ні ўзяць: плача дзіцёнак. Дзе-ні-дзе абзываліся яхам сабакі. Ля стараставе хаты схлупіліся мужыкі, пазіралі на афіцэра на кургузым арабскім коніку.

— Усіх размясціць, стараста, накарміць лепшым ад жывата!—крычаў афіцэрык, і нашчаддзе арабскіх скакуноў пудка цярабіла вушмі ад афіцэравага крыку.—А калі што... глядзі!—ён свіснуў у паветры нагайкай.

Варочаючы белымі яблыкамі вачэй (у змярканні яны здаваліся зусім празрыстымі), стараста моўчкі жаваў кончык вуса, пакорліва схіляў галаву. Калі скончыў ерапеніцца афіцэр—стараста павярнуўся да мужыкоў і глуха адсек:

— Усе чулі? Дык ідзіце, сустракайце... дарагіх гасцей. А калі што... глядзі!—ён сціснуў важкі кулак. Мужыкі разышліся.

Афіцэры аселі ў багацеяў. Дробна і лісліва падхіхіквалі гаспадары на кожны іхны ківок, дзябёлыя гаспадаравы дзеўкі чырванелі туга і потна. За вялікім сталом—водырны стаяў гогат, і ў Юткевіча нарадзілася каламутная агідлівасць. Ён тужліва аглядаў „таварышоў", паспрабаваў быў глытнуць самагону, але нуда падплыла слізкім камяком, і ён адвярнуўся, каб не выдаць сябе. І тут падвярнуўся Маслоўскі, ухмылкай скрыўленая грымаса прысунулася шчыльна і горкім пахам абдаў нізкі шэпт:

— Пойдзем, Юткевіч.

Машынальна ён пашоў за ім, каб толькі выйсці на паветра з хатняга тлуму. У сенцах Маслоўскі ўзяў яго пад руку і, нахіляючыся над вухам, затоеным галаском:

— Да казакаў! А тут—чысценькія, а агалі—міязмы!—Гэтае слова ён прагаварыў са смакам, нібы сам з боку дзівячыся з свае эрудыцыі.

Яшчэ на вуліцы—ударыў у вушы гул гармонікавы, залівісты крык жаночых галасоў, разгулістая рахтанне і цмоканне—нібы сотні парсюкоў нахілілі тупыя свае лычы над карытамі.

— Афіцэры!—пранеслася па хаце.

Маслоўскі, даючы дарогу Юткевічу, кінуў вока на вусатага есаула, які важыўся ўзяць пад казырок, сказаў:

— Вольна, вольна! Прымайце ў сваю кампанію...

За сталом узнялася сумятня, іх усадзілі ў кут, пад абразамі,—цёмныя лікі святых бязуважна і строга пазіралі на разгулістую паводку, што бушавала ў хаце. Юткевіч азірнуўся. Дзе кідаў вокам—усюды былі бутэлькі з жоўтым тлустым пітвом, усюды звінелі шклянкі, а ў спрэчкі з гэтым звонам лузалася потнае псямацьканне, віэг, бразгат, тупат. У шырокіх—даваеннага пакрою—портках вытанцоўваў „казачка" пад гармонікавы піск і дабратлівыя цынічнасці мажны казак, і крывая казацкая шашка

бушавала разам з ім. Раптам Юткевіч прыкмеціў казака, які паявіўся з-за пераборкі, выпростваючы ў гару рукі, ленавата пазяхаючы. Салодкі жывёльны бляск таілі ягоныя вочы. Казак хвіліну стаяў, пазіраючы на танцора, на твары мільгнула ўсмешка і, ёмка грукнуўшы падкаваным ботам, ураз пашоў у скок. У гэтую-ж самую хвіліну да Маслоўскага нахіліўся есаул, яны хвілінку шапталіся і Маслоўскі дзёргаўся ад смеху. Потым есаул сказаў да Юткевіча:

— Казакі запрашаюць паноў афіцэраў у обчы кацёл.—І ён таямніча дробненька зарагатаў, пагладжваючы пухнатыя вусы.— Хлопцы! Афіцэры ў обчы кацёл!—Іх павялі за пераборку, і ў напоўзмроку Юткевіч убачыў жаночыя целы.

— Я...—павярнуўся, буйна наліваючыся чырванню, да Маслоўскага, але той зарагатаў падбадзёрваючы і піхнуў уперад, на шырокі ложак.

— Ідзі, ідзі... Гэта хрышчэнне, „обчы кацёл"!—пракрычаў ён у злой атупеласці.

А есаул юліў сваімі вусамі, падсоўваючы Юткевічу шклянку самагону, і ў водыры сівушнага масла адчуў Юткевіч падзенне свайго цела на мяккія посцілкі, ударыў сівушны пах поту і расхрыстанай плоці. Рухі ліхаманкава рабілі самі тое, што трэба было рабіць, і ўсё, што яшчэ мірсцілася ў ап'янелай развазе, згінула і апанаваў густы і звонкі морак.

...„На каня!"—і затупацелі ногі, забразгалі вокны і дзверы, загудзелі галасы, над роілам пагулянкі залунаў пярэпалах. Бягучы да дзвярэй, бачыў Юткевіч, як перакуліўся стол і з бразгатам упаў на ложак, на якім толькі-толькі ён браў сваё „хрышчэнне". Бягучы, ён бачыў, як стол нізрынуў на расхрыстаныя жаночыя целы і адно зазвінела па хаце аскеп'е пабітых бутэлек, талерак і шклянак.

„На каня"!—галёпам праз вёску, праз грэблю, і ценкі лёд калюжын звонка лопаўся пад конскімі капытамі. У надзолкавай муце кар'ерам ляцелі кудзеры, абрыўкі парканаў, танцавалі пасёлкі. Недзе адзаду грамыхалі па грэблі колы гармат, ёкалі коні. У шалёным алюры вярзлося: па пятах ідзе вораг, што падкраўся ў разгары гульбішча.

І недзе—за вёскай—эластычна лопнула паветра, пасыпалася звонкае аскеп'е, далі набрынялі гэтым звонам, і Юткевічу здавалася, што звініць гэта пабітае на гульбішчы начынне. Але ў прадсвяточнай муце ўбачыў ён, як узняўся на дыбкі конь палкоўніка, і бязвольнае палкоўніцкае тулава, нібы бутафорская лялька, зрабіла ў паветры дзівоснае сальто і чмякнулася ў пашарпаны снег. Афіцэры, што імчаліся наперадзе, ураз сталі і схлупіліся. Не паспеў даехаць да іх Юткевіч, як Маслоўскі, выхапіўшы шашку, зычна, здаецца—усім сваім брыдкім целам крыкнуў:

— Каррр'ер! За мной! З богам!

Юткевіча ледзь не змяло стромай коннікаў, але ягоны конь адным скачком вынес яго на бок дарогі, у снег. Казакі з аголе-

ныміі шаблямі, з гіканнем праімчаліся паўз яго. Тады ён ірвануў каня, але халодны голас нібы прышыў яго на месцы.

— Стойце! Штабным афіцэрам не трэба ісці ў бой.

Стрымліваючы каня, ён азірнуўся. Побач з ім быў афіцэр, што калісці піў за „пупсіка". У афіцэра дробна і гулка стукацелі зубы, на бледным твары прабягалі грымасы адчаю і пярэпалаху.

— Глядзіце! Глядзіце... як вас там! Паашла калатня!—крывіў апухлыя свае губы афіцэр, тыкаючы перад сабою ручкаю нагайкі.

За ланцугом казакоў засоўваліся нейкія маленькія сілуэты. Усё часцей і часцей грымелі стрэлы і ценкі дымок віўся над полем. „Вораг!"—мільганула ў галаве. Недзе раптам закартавіў кулямёт, рвучы ранішнюю сціхоту. Адзін за адным падалі коні. Вецер данёс гоман і конскае ірзанне. „Крушняярцы!"—накруцілася чамусці на розум. Юткевіч ірвануў каня.

— Стойце! Куды вы?

— Туды!—Шпорамі ўпіўся ў конскія бакі і паімчаў, прыгнуўшыся, наперад.

У істоце закіпаў азарт, кплівая знявага да афіцэра-„пупсіка", настойлівае і моцнае вухарства. Праз хвіліну ён урэзаўся ў ланцуг казакаў, выхапіў шашку, рубануў ею, куля пражужжала над конскай галавой. Не сілуэты, а людзі былі перад ім. Гул стаяў наўкола. У прадсмяротных курчах скроб рукамі казак акрываўлены рыжы снег. Гэта прамільгнула і знікла ўраз. Потым ён убачыў перад сабою да болю знаёмы твар. Блізка ўпіркі сышліся вочы. Ён занёс над галавой шашку і раптам адчуў, што рука лёгка і бязвольна апусцілася. Дрыжучы, ён выцягнуў з кабуры наган. Нацэліўся ў знаёмыя і блізкія вочы. Раздаўся стрэл і дрогнула рука. Конь асеў назад, і перад вачыма замітусіліся казакі. На адзін караценькі момант угледзеў ён чорную папаху Маслоўскага, і ў дыме, у грукаце, у калаверці бою ўсё злілося ў нейкі агульны, шалёны, хімерычны лёт.

Праз колькі дзён армія заняла павятовы горад, і ў маленькай драўлянай царкве, са званіцы якой яшчэ ўчора біў чырвонаармейскі кулямёт, хударлявы поп спраўляў малебен. Аднак былі ахвяры, і гэты самы поп з аднолькавай абыякавасцю чытаў жалобную імшу, шчодра прыпраўляючы яе ладанам. Поп скараговоркай памінаў імёны забітых, і забітыя пазіралі на жывых кплівымі сваімі грымасамі прадсмяротных пакутаў і нянавісці.

У той-жа дзень камандуючы прыслаў спачуванне афіцэрам з прычыны смерці палкоўніка і разам са спачуваннем—нечаканы для ўсіх загад: камандаванне над арміяй (прынамсі, гэтак звалі тыя атрады, якія ішлі на фронт у першым ланцугу) прыняў афіцэр Маслоўскі. Гэта было не толькі нечаканасцю, але і абразай. Абразіліся афіцэры. Маслоўскага лічылі за мужыка, а кплівыя грымасы ягоныя выклікалі навалу абурэння. Брыдкія хадзілі анекдоты пра яго, а блізкасць да казакоў і салдат тлумачылі не

толькі „манернасцю“, „дэмакратычнасцю“, але і паталагічнымі якасцямі гэтага афіцэра.

Але хітры і разважлівы генерал Белоў ведаў, што рабіў. Генерал лічыў, што тры чвэрці сусветных кампаній пацярпелі паражэнне толькі праз афіцэрскі склад, ён хацеў папярэдзіць сямейнасць, ён хацеў жалезнай дысцыпліны, і яе мог патрабаваць менавіта Маслоўскі, які не падзяляў з усімі астатнімі афіцэрамі ні чаркі, ні забаў, ні поглядаў. Маслоўскага любілі казакі, і гэта імпанавала „народнай арміі“.

Юткевіч пасябраваў з Маслоўскім неяк неспадзеўкі, а прычаравалі Юткевіча рэзкія і знішчальныя парадоксы Маслоўскага на адрас афіцэраў. Нізкія і нізменныя былі інтарэсы афіцэрскія і ўсе яны ўяўляліся Юткевічу аднэй суцэльнай роўніцай—ні травінкі, ні лагчынкі. Неяк дайшлі да Юткевіча брыдкія анекдотцы пра Маслоўскага, але ён адвярнууся ад іх, як адварочваўся—самотны—ад усяго бруднага ў жыцці. Выпадак з „хрышчэннем“ прыгадаў анекдотычныя сітуацыі,—але гэта быў „обчы кацёл“—і агульны гэты кацёл тлумачыў Юткевіч, як уступку „дэмакратычнасці“.

Рыжавалосы афіцэрык-„пупсік“, сустрэўшыся з Юткевічам, узяў яго за руку і, цярэбячы яе, праніклівым галаском напяваў:

— Вы, калега, забудзце нашу гутарку перад боем. Я не выспаўся тады, змарыўся.

— Не разумею, што вас хвалюе?--далікатна запытаўся Юткевіч.

„Пупсік“ забегаў па Юткевічавай постаці вузенькімі сваімі вачанятамі, мнучы ягоную руку.

— Не кажыце, не кажыце, калега. Вы паступілі, як герой, а я... маладушнічаў. А цяпер у нас новы палкоўнік і ўсё такое...

— У якую залежнасць з Маслоўскім вы ставіце нашую гутарку?—з непрыхаваным здзіўленнем паследвала запытанне.

— Ну... ваша блізкасць да палкоўніка...

Юткевіч рэзка выхапіў з афіцэравых рук сваю руку. Твар наліўся чырванню, вочы пагардліва заблішчэлі. Ён—глушачы абурэнне пагардай—адрэзаў:

— Вам з „пупсікамі“ ваяваць, а не афіцэрам быць. Паршывае цялё вы!— І, пакінуўшы здэтанаванага афіцэрыка, ён пашоў ад яго.

Новы палкоўнік нечакана для казакоў і салдат, якія ўпотайку спадзяваліся на „вольнае жыццё ў свайго начальніка“, крута прыбраў армію к рукам.

Ішлі цёплыя веснавыя дні. Бурна і напорліва раставаў снег. Падступала ўжо да высокіх гарадскіх берагоў цяжарная на веснавы павадак рака. Сонечныя промні валтузілі на калматых спінах рачных хваляў, рассыпаючыся залацістымі пырскамі. З гонарам несла свой квяцісты штандар вясна, і былі ночы, укрытыя гэтым штандарам: гліца, здавалася, прыносіла далёкія чароўныя пахі стэповых прасцягаў. Вораг быў недзе далёка, і веснавымі гэтымі начамі пра яго не думалася.

Казакі і салдаты адчулі „вольніцу“—цесна было ім у гэтым павятовым гарадку, і бурнае казацкае гульбішча, затапіўшы гарадок, перакінулася ў бліжэйшыя вёскі і сёлы.

І ў гэты самы момант запрацаваў ва ўсю новы палкоўнік.

Аднаго разу ўвечары палкоўніку рапартавалі, што пікет на рацэ заўважыў маленькі човен. Гэта было падазроным, бо ў самую паводку рэдка хто адважваўся пераплыць гэтую раку. Па чоўне далі колькі стрэлаў, але вынікаў ніякіх. Палкоўнік загадаў зняць пікет і адправіць яго ў поўным складзе на гаўптвахту. Уначы палкоўнік накіраваўся ў казармы. Ягонаму абурэнню не было межаў. У казарме было колькі спрэс п'яных казакаў, рэшта іх недзе гуляла, а вартавы ля стайні спаў салодкім сном, прыкрыўшы папахай вочы. Выкліканыя казацкія есаулы паспрабавалі былі апраўдвацца тым, што толькі салдатам трэба пільнавацца казармы, што казакі—народ вольны і дысцыпліна для іх—вузкія краты. Палкоўнік не вытрымаў. Густа сыплючы лаянкай, ён сарваўся з месца, падбег да старэйшага есаула і вобмаш адмераў яму па шчацэ. Есаул глуха войкнуў і захістаўся.

— Пад арышт! Пад арышт!—вар'яваўся палкоўнік, і страшна было глядзець на д'ябальскую ягоную маску.

Потым, як зняважанага есаула вывелі, ён крыху сцішыўся і, седзячы на скураной канапе, цынічна тыкаў у афіцэраў, што ў замяшанні, моўчкі назіралі гэтую сцэну.

— Есаул, кажаце вы, бог і цар? Толькі ён, кажаце, можа ладзіць з казакамі? Ён, хочаце вы сказаць, выбраны казакамі?

І таму, што перапалоханыя афіцэры нічога не хацелі казаць, ён, адкідваючы сваё перакручанае вар'яцкім рогатам тулава на спінку канапы, вобмаш сек:

— Кабыле пад хвост гэтых выбраннікаў. Расперазаліся, як к...ы, сволачы. Кожны афіцэр,—тыкаў ён у іх,—павінен сёньня-ж праверыць свае атрады. А вы,—гэта да есаулаў,—абвясціце казакам маю волю. Выходзіць за горад забараняю, пазней дванаццаці валтузіць з б...І забараняю... Дарэчы, гэтага Коннікава ці Кабылкіна, што спаў на варце ля стайні, адправіць у абоз. І ўсіх! Запомніце гэта раз назаўсёды, як сваю жонку: кожнага казака, які не будзе пільнавацца загадаў, у абоз, с.... ы чысціць.

І пачаліся цягучыя, напружаныя дні.

Апоўначы раптам лузаўся рэзкі зык гарніста, перапалоханыя казакі, забываючы ўсё на свеце, высыпалі на казарменны пляц, сядлалі коняй, штурхаючы адзін аднаго. А палкоўнік Маслоўскі тут-жа перад усімі адчытваў есаулаў ці афіцэраў за павольны збор ягонага атрада, шчодра сыпаў карамі.

Змучаныя і злыя разыходзіліся пасля дарэмных трывог казакі і салдаты і ў злосці гэтай паступова страчвалася варожасць казака да салдата, агульная іхная злосць спела, каб буйным узрывам семенніка засыпаць „ліхую жызню“, віноўнікаў яе.

З раніцы да позняга вечара ішло ваеннае вучэнне, скончылася вольніца, раздольнае казацкае жыццё. Рэдкі казак не затаіў нянавісці да палкоўніка, калі была абвешчана воля апошняга: кожны казак, як і салдат, мусіў быў праходзіць строй. А стары вусаты есаул, зняважаны палкоўнікам, тоячы ўхмылку ў шыкоўных сваіх вусах, хадзіў паміж казакаў, сыпаў жартамі, якія, нібы тупое шыла, лезлі ў казацкія сэрцы:

— Пачакайце, хлопчыкі, скора будзеце палкоўніку боты чысціць, б....й вадзіць. А то, глядзі, і самі да яго заместа дзевачак пойдзеце, усякае гавораць пра д'ябла гэтага.

Казакі слухалі, вяла агрызаліся, але моцна пярэчыць не было як есаулу. Увечары, у поцемках, які-небудзь казак неўпрыкмет выбіраўся з казарменнай затхі, бег у купаўе, што густа расло на ўзбярэжжы, за казармамі, кідаўся на росную траву, і здавалася тады казаку, што чуе ён гуд вясновае зямлі, што кліча яго зямля нячутнымі воклічамі, і таіў казак у сабе моцную цягавітую тугу сейбіта. Казак дрогкімі ноздрамі, як звер ўбіраў у сябе пахі зямлі, зычыў ён сваю пакорлівасць. І спрэс п'яны ад гэтай затоенай змовы валачыў ён у казарму цяжкія свае ногі, апрануты кідаўся на нары, каб хоць у сне, у трызні, знайсці завяршэнне гэтых прынадаў.

Прачнуўшыся роснай раніцай, казак намацаў пад ясікам паперку. Здзіўлены, ён выцяг яе, з прыўзнятымі брывамі старанна чытаў чорныя радкі літар. Казак нікому не паказаў знаходкі, затаіў яе.

Раніца разгортвала свае ўборы паволі але ўпэўнена, загадзя ведаючы, што яны прычаруюць людзей. Гэткія цудоўныя раніцы помніў Юткевіч у маленстве, неўтрапенным, як блакітная роўнядзь неба. Падстаўляючы галаву мяккім сонечным промням, ён павольна стаўляў ногі па дашчатых тратуарах. Яму прыгадалася маленства і шчаслівая ўсмешка ўпрыгожвала схудалы ягоны твар. Але раптам ён нешта ўспомніў, усмешка знікла, ён прыспешыў крок. За рогам вуліцы ён, азірнуўшыся, агледзеў сваю вопратку: пашарпаная пара, брызентавыя боты, вышываная кашуля. Відаць, ён быў задаволены маскарадам—пачаў насвістваць вясёленькую мелодыю. Перараазаючы накоса вуліцу, ён пашоў на рынак.

Рыпелі вазы, папіскваў гармонік, жаласліва енчыў жабрак, выстаўляючы перад сабой аголеныя абрубкі рук. Грудок цікаўных абкружыў жабрака, вясковыя зубаскалы, лушчачы сланечнік, дапытвалі ў яго пра тое, ці ходзіць ён да дзяўчат. Бездапаможна агрызаўся жабрак, трымаючы перад сабою, як абарону, свае абрубкі, а хлопцы залівіста рахталі. Звесіўшы долу ногі, сядзела на возе чырвонашчокая дзяўчына, а чарнявы казак, пагладжваючы маленькія—на ангельскі капыл—вусы, чапляўся да яе з двухсэнсоўнымі прапановамі. Дзяўчына голасна візжэла, старанна захінаючы ногі падалом спадніцы. У дзяўчыніным рогаце учуў Юткевіч уступчывасць. Далей ягоную ўвагу прыцягнуў тоўсты, нераўнуючы

парадзіха, гандляр салёнымі гуркамі. Цвіллю патыхаў ягоны тавар, гандляр на-распеў выхваляў яго перад пакупцамі. Пакупцоў было небагата. Якая-небудзь кабеціна брала гурок „на смак“, крывілася і на прамілы божа клялася, што „Маскву ўбачыла“. Як адыходзіла кабеціна, доўга кляў яе наўздагон гандляр. Салдат сварыўся з паджылым абываталем. Абываталь купляў бутэльку малака, а салдат перабіў, набавіўшы цану. Лінялая барадзёнка трэслася ад крыўды, і абываталь крычаў на ўсё горла:

— Салдат! Падумаеш! Я на германскім быў, раны маю і маўчу. Найшло на нашу галаву ліхалецце, даруй, божа!

Бутэлька малака рабілася падзеяй. Салдат хмура пагражаў, але барадзёнка не сціхала. Колкія словы напаўнялі рынак. Тады салдат, адступіўшыся, чмякнуў абываталя ў грудзі, звонка разляцелася аскеп‘е бутэлькі, і малако змяшалася з ценькім струмочкам крыві.

Але ў гэтую самую хвіліну Юткевіча зацікавіла купка мужыкоў, што голасна спрачаліся паміж сабой. Юткевіч паспяшаўся да іх. Усё яго цікавіла ў гэтым стракатым рынкавым жыцці. Ён „дзяжурыў“, як казалі афіцэры. Гэта была чарговая „рэформа“ Маслоўскага: штодня пераапранутыя афіцэры таўкліся на рынку, у гарадскім садзе, ва ўсіх публічных установах (праўда, у некаторыя яны адпраўляліся ахвотна), каб падслухаць гаворку пра армію, каб прасачыць, як ставяцца да новай улады сяляне і гаражане... адным словам, цяжкая задача ускладалася на „дзяжурнага афіцэра“. Калі вярталіся афіцэры з „дзяжурства“, іх дапытваў палкоўнік, здзекваўся над тымі, хто навін не прыносіў. Ніхто не быў вызвалены ад гэтых „дзяжурстваў“, і, падаючы прыклад, палкоўнік сам хадзіў на іх, аддаючы перавагу—дзіўная рэч— мужчынскай начлежцы (пра гэта хадзілі скабрэзныя анекдоты, ад якіх нудзіла Юткевіча).

Зацікавіўшыся гарачай спрэчкай сялян, ён ушыўся ў купку, лузгаючы сланечнік.

— Прыяжджае кагадзе да нас чалавек і кажа, што канец Расіі: за царом Мікалаем, кажа, жылося спакойна, а цяпер што ні дзень,—новы пень варочай, калі сілы маеш.

— Адзін чорт, што Мікалай, што Белы,—скептычна выцэджваў камлюкаваты мужык у сівай бráварцы.

„Ну, тут усё спакойна“,— падумаў Юткевіч, але ў гэтую-ж самую хівліну хлапец гадоў дваццаці, чмыхнуўшы носам, тонкім, скрыпівым голасам падаў рэпліку:

—Не, кажы, дзядзька, не падумаўшы. Прышлі ў сяло казакі, нарабі глуму і ўсё прахам пашло.

Потым пад самым вухам заенчыла шарманка. Юткевіч павярнуўся на гэтыя гукі адчуў, як нейчая рука хуценька нырнула ў ягоную кішеню. Ён паспеў схапіць яе, і чалавек прысунуўся да яго

— Пусці!— чалавек ірвануў руку, і аркушык паперы мякка паляцеў на засмечаны брук.

— Засыпаўся?—грэбліва спытаўся Юткевіч, наступаючы нагой на аркушык (чуткі пра пракламацыі дайшлі да штаба).

Потым ён узняў вочы на чалавека, і кроў ураз прыліла да твару. Перад ім стаяў Краўчанка. Ён прыкмеціў Юткевічаву здэтанаванасць, на ўсю сілу ірвануў руку і пабег, закручваючыся ў натоўпе. Юткевіч ірвануўся за ім. Яны прабеглі рынак і апынуліся на ціхім бязлюдным завулку, і тут Юткевіч крыкнуў наўздагон:

— Стой, страляю!

Краўчанка ўвабраў галаву ў плечы і рэзка спыніўся. Бегчы далей было бяссэнсіцай: пачыналіся людныя вуліцы. Юткевіч некалькімі крокамі дабег да яго.

— Ты...

І змоўк.

Гэтак яны стаялі адзін перад адным, мераючыся позіркамі і думаючы кожны сваё. Потым, рвучы гэтую цягучую цішыню, Краўчанка сказаў:

— Не дабіў цябе. Эх, маць яго.

Юткевіч паблядчеў.

— За што-ж было забіваць, Барыс?—Гэтае пытанне прагучэла шчыра і нават наіўна.

— Аб гэтым позняя гаворка,—пасля паузы быў адказ.— Лепш-бы не сустракаўся ты на маёй дарозе, сын генерала Юткевіча.

Юткевіч адчуў, што перад ім стаіць вораг, што ўсё непапраўна мінула, і дзікая нянавісць агарнула ўсю ягоную істоту.

— А ты... як сюды трапіў?

Краўчанка, нешта абмяркоўваючы, не чуў запытання. Пазіраючы некуды ў бок, паўз Юткевічавы плечы, ён паўтарыў— жорстка, бяздушна:

— Калі-б ведаў, хто ты, сам-бы сваёй рукой... Эх, сволачы!

Нянавісць перапоўніла Юткевіча. Сціскаючы наган, ён нервова пракрычаў:

—Апазніўся, на шчасце. А от я вазьму ды арыштую цябе, і загінеш ты... як сабака!

Краўчанка раптам усміхнуўся—усім сваім ненавісным—гэткім блізкім калісці—тварам. Чорныя, бліскучыя свае вочы ён утаропіў у Юткевіча і ціха-ціха, неяк асабліва цёпла, сказаў:

— Ты гэтага не зробіш, Стась, у імя нашага былога сяброўства. Хіба ты ўзнімеш руку на мяне? Ну, я разумею, ты—афіцэр, мы—ворагі... Але хіба ў цябе няма чалавечнасці? Не, гэтага не зробіш...

Юткевіч павольна паклаў наган у кішэню і нячутна выдыхнуў:

— Ідзі... і не сустракайся... А не... дык...

— ...Я цябе заб'ю, як сабаку!—голасна пракрычаў Краўчанка і пабег, зігзагамі перасякаючы вуліцу, ад яго.

Юткевіч ірвануўся за ім, але Краўчанка знік за манастырскім парканам, і толькі выпаўшыя з кішэні аркушыкі разля-

целіся па вуліцы. Ледзь стрымліваючы сябе, Юткевіч нервова пачаў збіраць іх, кляў апошнімі словамі сваю маладушнасць, пагражаў Краўчанку.

Увечары, пераапрануўшыся, ён узяў жмут пракламацый і пашоў да Маслоўскага. Ён абмеркаваў усё, ён вырашыў затаіць ад палкоўніка сустрэчу: ягонае дзяжурства і без гэтага было дужа плённае.

Маслоўскі сустрэў яго ветліва, як заўсёды. Толькі з Юткевічам ён гаварыў па-чалавечаму і ад гэтага заўсёды ніякавата было. Прабегшы вачыма пракламацыю, Маслоўскі свіснуў, бліснуўшы вачыма. З непрыхаваным адчаем ён сказаў:

— Вось вам і падаруначак на вялікдзень!—Потым рэзка ўзняўся, падышоў да вакна, з сілай ірвануў яго, і лёгкі ветрык хлынуў у пакой.—Ты ведаеш, Стась, заўтра вялікдзень...

Юткевіч ад нечаканай цяплыні грубога гэтага чалавека ўсміхнуўся.

— Так... я гэта ведаю... Але я ведаю і тое, што ты, Саша, падпісаў расстрэл казака, які схаваў вось гэткія пракламацыі...

Маслоўскі рэзка павярнуўся да яго.

— Так. Я перастраляю іх усіх. Не армія, а б....к; Калі генерал спадзяецца на перамогу, дык гэта толькі манія старога. Факт!

Потым ён падышоў да шафы, выцяг адтуль бутэльку і шклянкі, паставіў іх на стол, глуха шчоўкнуў у дзвярах ключ.

— Кінем гэта ўсё. Заўтра вялікдзень.

Яны выпілі. Юткевіч ледзь перадыхнуў. Гэта быў спірытус. Праз колькі хвілін галаву замуціла, і ён, хістаючыся, апусціўся на канапу.

— Заўтра вялікдзень...

І раптам з нейкай выключнай сілай ён адчуў усім целам трывогу, пераплеценую з жахам. Нібы нейкае прадвяшчунства паўстала перад ім на ўвесь свой грозны рост. Нібы бязлітасны меч узняўся над ім. І нарадзілася агіда, падплыла яна да горла, і цяжка было зразумець, чым выклікана гэтае адчуванне—ці палкоўніцкай прысутнасцю, ці выпітым спірытусам. Ён ірвануўся і, як было сілы, выбег з пакою

У цемры ён прыстыў на месцы. Проста перад ім палымнела неба барвянцовым заравам. Білі царкоўныя званы, але не пасвяточнаму, а трывожна, набатам. Недзе воддаль рвалі паветра стрэлы. Зарава вырывала з цемры кавалкі вуліцы, і ў крывавых гэтых плямах мітусіліся людзі. Прыхлупленым гармідарам напаўняўся начны горад. Зусім блізка ад Юткевіча прабеглі двое. Узбуджаныя галасы іхныя прымусілі Юткевіча стаіць дыханне. Яны затрымаліся, прыкурваючы.

Бас: Разбушаваліся так, што не стрымаеш!

Тэнар (з падхіхікваннем): Афіцар'ё ў падштаніках вывалаклі з б...а, адзін адстрэльваўся, дык яго штыхом, навылёт!

Бас: Каб толькі Грай паспеў... У самую завіруху трэба трапіць, а то адумаюцца яшчэ.

Тэнар: Не адумаюцца! Казакі азвярэлі, як ваўкі. Юткевіч, абмацаўшы наган, скінуў з сябе форменку і ў кашулі падаўся наперад.

Праз колькі хвілін ён апынуўся перад царквой. Было светла, як у дзень. Пляц бушаваў натоўпам. З выбітых вакон крамы ляцелі на вуліцу скруткі сукна, боты, адзенне, парфума. Людзі біліся з-за гэтых рэчаў, нагружаліся імі. Салдат абверчваў на сябе паркалёвыя скруткі. На штых ён уздзеў барвовы шалік. Колькі чалавек цягнула за валасы папа ў залочанай рызе. Поп жаласна енчыў, упіраючыся нагамі. Недзе стракатаў кулямёт. Гэта купка афіцэраў адстрэльвалася з пажарнай вежы. Знайшліся ахвотнікі і падпалілі вежу, агонь адрэзаў афіцэраў ад зямлі, кулямёт сціх. Потым занялося зарыва над царквой. Канца-краю не было разгулістай казацкай вольніцы. У водбліску пажара мітынгавалі. Залітыя барвянцам чалавечыя аблічча здаваліся жахлівымі. Выбіваючыся з натоўпу, Юткевіч блізка прайшоў ля мітынгуючых і сярод іх прыкмеціў Краўчанку. У салдацкім шынялі, у вялікай—з чужой галавы—кубанцы ён выглядаў ваяўніча. Юткевіч з пахаладаўшым нутром паспяшаўся пакінуць гэтую Варфаламееўскую ноч.

Зноў апынуўшыся ў цемры, ён пабег да кватэры Маслоўскага. Ля самае брамы гудзела аўто, і голас Маслоўскага рабіў апошнія загады. Гэтых загадаў ніхто не выконваў. Толькі адзін чалавек застаўся верным свайму палкоўніку—маўклівы і няўхлюды шофер.

Юткевіч кінуўся да Маслоўскага.

— Спяшайся, палкоўнік!—неяк асабліва голасна пракрычаў ён.—Сюды ідуць.

— А я думаў, што ад цябе толькі попел застаўся. Гэтыя дурні...—Ён не скончыў, але было зразумела, што гэта гаварылася пра афіцэраў.—Апраніся, паедзем.

І потым, седзячы ў аўто побач з Маслоўскім, Юткевіч глядзеў на аддалёныя прывіды вялікага грознага зарыва, і целам ішла дробная пякучая дрыготка. Аўто без ліхтароў імчалася ў ноч. Толькі вецер свістаў навокал, даносячы рокат казацкага бунта.

*Канец першай часткі.*

МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ

## ДОМА

**(Урывак з паэмы)**

Ізноў я тут,
Як дзесяць год назад,
Жаданым госцем
На сваім парозе.
І з веццяй клёну
Іней-дзераза
Блішчыць маністамі
На сонечным марозе.

Вакол мяне—
Сялянскай дзетвары,
Як быццам урачыстасць
Сёння дома.
Мой бацька,
Праўда, стрэху перакрыў
Зусім другою,
Новаю саломай.

А ўсё-ж, сапраўды,
Бачны дужы рост
Хоць новае жыццё
Ідзе не вельмі гладка.
Спрачаецца мой бацька
Пра сілос,
Пра новыя
Калгасныя парадкі.

— Ну што-ж, сынок,
Не забываеш нас,
Мы вельмі рады,
І навін багата.
Памёр нядаўна
Дзядзька Апанас,
Згарэла ў цёткі
У Марылі хата.

А самі—
Па калгаснаму жывом,
Хлябец, пабач,
Бялюткі, без мякіны.
І сеем многа мы,
Багатае жніво,
Не скінеш вокам
Нашых дзесяцінаў.

І гэтыя
Бунтоўныя гады
Змянілі вёскі
Нашае аблічча.
Старым я быў,
А зараз малады—
Жыццё-ж наперадзе
Цікавае надзвычай.

Я старшыня калгаса:
Год назад,
Старых кіраўнікоў
Пад суд аддалі...
Вось ты сядай,
А я буду казаць,
Што мы будуем,
Што пабудавалі.

Якія непарадкі
Меў калгас,
Віхор кулацкі
Усё дабро разбурыў.
Абкручвалі
Між пальцаў
Яны нас,
Драпежныя ваўкі
У авечай скуры.

На полі
Усю згнаілі збажыну,
Каровы передохлі
Без дагляду.
Але развеялі
Мы чорную ману
І выкрылі гняздо
Кулацкіх гадаў.

Пратапічыка
(Тады быў старшыня)
Вадзіў за нос

Жандар былы
Стракоўка.
Рахункавод—
Адменны спекулянт,
Запісваў ў кнігі
Шкодную дыктоўку.

І напісалі-ж,
Абкруцілі нас,
Дабро спусцілі
Дарма, беспатрэбна.
Разбурылі дашчэнту
Наш калгас,
Калгаснікаў усіх
Пакінулі без хлеба.

Ды не ўтрымаліся,
Прышоў расплаты час,
Судзілі тых,
Хто шкодзіў
Нам употай.
Ачысцілі
Ад ворагаў калгас
І дружна ўсе
Ўзяліся за работу.

Вясной
Пры дапамозе МТС
Засеялі
Калгасныя абшары.
Расла пшаніца,
Гледзячы на лес,
А ячмяні—
Чарней сінелі
Хмараў.

Вось так было;
А зараз—
Праца йдзе,
Да каласка у гумны
Хлеб сабраны.
Падлічан рупна
Кожны працадзень,
Перад дзяржавай
Выканалі планы.

Багаты ураджай
Мы размяркуем ўчас;
Хоць працавалі дні,

І ночы—калі трэба.
Здаволены жыццём
Калгаснікі у нас:
Хапае зараз хлеба
І да хлеба.

А думаеш, сынок,
Жыццё так гладка йдзе?
Жыццё калгаснае
Ўсім па нутру,
Ўсе рады?
Такая справа ў нас—
Спрабуй не даглядзець,
І заварушацца
Нявыкрытыя гады.

У нас цяпер
Жыве тут аграном,
І спробуе вучыць
На кожным сходзе.
А я табе
Скажу, сынок, адно,
За нос ён нас,
І толькі, водзіць

Уласнай
Гаспадаркаю аброс,
Жыццё-ж калгаснае
Напэўна не да густу.
Паслухалі яго,
Прапаў увесь сілос,
Пагніў на сціле лён,
Прапала ўся капуста.

Ах, я забыў,
Прабач ўжо мяне,
Не расказаў
Пра важную навіну.
Вось толькі летась
Выпаў першы снег,
Пашла хвароба ў нас
На ўсю скаціну.

Прывозілі-ж яго, ,
І што тут не было,
Якіх рацэптаў
Мы не спрабавалі.
Скажу табе,
Ў мяне такая злосць.—

Хваробу ўсё-ж
Ніяк не адгадалі.

Пара каб навучалі
Лепей хоць
Да кожнай дробязі
Ў калгасе прыглядацца.
Хай менш умее
Языком малоць,
Абы рабіў
Карысць у гаспадарцы.

Абы умеў ён
Гадаваць каня,
А на таку—
Вучыць нас умалотам.
Каб разам
Аграном і старшыня
Вялі штодзённую
Калгасную работу.

Хай больш цікавіцца
Работай на палёх,
Хай глебу вывучыць
Калгаснай нашай шыры,
Каб шчыра
Разабрацца дапамог
Ў складанейшай
Рабоце брыгадзіра,

А нам параіць,
Будаваць як клець,
(Павінен майстрам быць
На ўсе ён рукі).
Мы лепш—старыя
Будзем разумець,
Хапіўшы каліва
Ад іхняе навукі.

З настаўнікам—
Нам вельмі павязло,
Такі хлапец
Дасціпны і старэнны.
Было ў нас
Няпісьменнае сяло,
Няма ў калгасе
Зараз няпісьменных.

Начамі давялося
Не даспаць,

Па хатах ён хадзіў
З лемантарамі.
Жанчыны
Навучыліся пісаць,
І нават працадні
Запісываюць самі.

Сваю чытальню
У школе адчыніў,
Паставіў радыё,
Выпісвае газеты.
...А ўсё-ж распусту
Цяжка ў нас спыніць,
Хоць і законы
Жорсткія пра гэта.

Праеў нам косці
Марчыкаў басяк,
Спакою не даюць
Нам Хведасея дзеці.
Учора ноччу
Абабралі Габруся.
Нядаўна тупалі
І ля калгаснай клеці.

Вось ты хоць
Пракурору напішы,
Якая водзіцца
Яшчэ у нас распуста.
Жыццё разгон,
Не скінеш вокам—шыр,
А спадчыны прыжытай
Плямы густа.

Яны нутро
Праелі нам. Скажу,
Мы ім даніну
Часта яшчэ плацім.
Іван Арцёмчыкаў
Прапіў на днях кажух,
Апошні свой
Набытак і багацце.

І мы перамагаем
Гэту муць,
Знішчаем звычкі
Рабскага прыгону.
Калгаснікі у нас
Зусім інакш жывуць,

Няма разбою,
Меней самагону.

Агульнаю сям'ёй
Калгасных змагароў,
Руйнуем тхлань,
Прыжытую вякамі.
Мы беднасць выгналі
З сваіх двароў,
З дзядоўскім брудам,
Нэндзай, прусакамі,

Сам ведаеш,
Былі мы беднякі,
Не вельмі ўспамінаць,
Пра гэтае ахвота.
Цябе аддаў я
Змалку ў батракі,
Мяне-ж заела
Беднасць і работа.

А што мы мелі?
Хлеба да каляд,
Парваны лапаць,
Зрэбную кашулю.
І крапіва тагды
Не сходзіла з стала,
І сотні мазалёў
Яшчэ цяпер
Нашу я.

Не думаў я,
Што ў гэтыя гады
Сам будаваць жыццё
Я новае вазмуся.
Не думаў я,
Што стану маладым,
Што ў шэсцьдзесят гадоў
Яшчэ раз нараджуся.

Не расцвітае
Больш чартапалох
На голых выдзьмах,
Дзе пятрэў араты.
Мы межы
Зруйнавалі на палёх,
Саху змяніў
Юнак—сталёвы трактар.

Вось так яно;
Прабач, нагаварыў.
На старасці гадоў
На словы стаў ахвочы.
А ты заўважыш,
Дзе які прарыў,
Дык смела бацьку
Гавары у вочы.

Глядзі, як
Аднавілася сяло,
За год у новай
Жыць мы будзем хаце.
Ну вось і ўсё.
Сядай-жа за сталом,
Якраз хлябец
Ї добра пры гарбаце.

Калгас „Карл Маркс"
19/X 1933 г.

Р. МУРАШКА

# МЮДАЎСКАЯ НОЧ

## I

Старшыня сельсовета Асоўскі сядзеў пры стале і глядзеў у акно.

Па месячным небе беглі рэдкія хмары, але Асоўскаму здавалася, што хмары стаяць на месцы, а гэта месяц, нібы гуляючы ў трэцяга лішняга, на момант схаваецца за хмарку ды зноў бяжыць далей, каб схавацца за чарговую. І тады, як хаваўся за хмарамі месяц, беглі па полі цені-здані, губіліся на момант у прыдарожным хмызняку, вырываліся з калючых абдымкаў яго на дарогу і знікалі ў цмянай далечы палеткаў. Як вялізныя крылы вялізнае светлае птушкі закрывалі тады акно, але яснае святло поўнага месяца раптам залівала мякка зямлю. І вялізная светлая птушка ўзмахвала вялізнымі крыламі пад акном сельсовета і ляцела наўздагон за зданнёвымі ценямі.

Так здавалася і не здавалася Асоўскаму. Асоўскі сядзеў і думаў. А думкам спрыяла бязлюдная цішыня і адсутнасць асвятлення у сельсовеце. За сакратаром сельсовета з рахункаводам пайшлі апошнія наведвальнікі. Сельпо абяцала газу даць толькі на пазаўтра, вось чаму старшыня сельсовета сядзеў у цемры і адзін, і абкружала яго празрыстая вечаровая цішыня. І гэта спрыяла думкам.

Асоўскі сядзеў і думаў.

У калгасе „Калгасная справа" няладныя справы.

„Чорт яго ведае, што такое робіцца", успамінае Асоўскі звычайную памоўку старшыні „Калгаснае справы" Яздовіча. І цікава не так памоўка, як цікавы і арыгінальны пры гэтым сам Яздовіч, яго твар і ўся фігура. „Ну што я магу парадзіць", гэтак і гаворыць ён усёй сваёй істотай. „Чорт яго ведае, што такое робіцца!" І жэст рукамі гаворыць у Яздовіча мудрэй за яго словы: гэта адначасна і адмаўленне факта і яго падцверджанне, і адмаўленне віны, калі яна ёсць, і падцверджанне яе. І найшчырэйшага чалавека ўва ўсім свеце, здаецца, няма як ён. „Эх, Яздовіч, Яздовіч... Каб улез табе ў душу ды паглядзеў, што там робіцца", думае старшыня с.-совета. „А ўлезу", ужо канчае і не канчае, а абрывае думку Асоўскі, бо звоніць тэлефон.

Ідучы да тэлефона старшыня абураецца:

„Вось сядзі ды чакай у цемры гэтага Яздовіча, калі трэба быць у калгасе. Хоць бы дзяжурны выканаўца прышоў, дык і таго няма“.

Званілі з РВК, пераказвалі тэрміновую тэлефанаграму.

— Адну хвілінку... Адну хвілінку, кажу... Але, пачакайце, паперы няма пад рукамі,—крыкнуў Асоўскі і палажыў трубку.

Калі старшыня знайшоў паперы, месячнае святло шуганула ў пакой і лёгкія цені пабеглі па падлозе, па сценах, хаваючыся па цёмных кутках пад столлю. І адначасна пачуліся крокі чалавека на ганку.

„Ці не Яздовіч?“ падумаў Асоўскі.

Але прышоў не старшыня „Калгаснае справы“, а сакратар комсомольскае ячэйкі пры сельсовеце і настаўнік сямігодкі Гарбач.

— Гэта ты, Гарбач? Можа запалкі ёсць, пасвяці, братка, памажы прыняць тэлефанаграму.

— У цябе святла хоць адбаўляй,—засмяяўся Гарбач, запальваючы запалку.—Можна-ж было з школы узяць лампу. Што гэта за сельсовет без лампы.

— Добра, добра, разышоўся, не мяшай прымаць. Алё... Давайце тэлефанаграму!—крыкнуў у трубку Асоўскі.

І пакуль тэлефанаграму прынялі, Гарбач паапекаў пальцы, свецячы старшыні, а ў таго ад шчырага націска і хвалявання зламаўся аловак і ён насілу скончыў запісваць зломкам. Хвалянне ў старшыні выклікала тэлефанаграма, праўдзівей не яна, а становішча ў сельсовеце.

Тэлефанаграма ўяўляла сабою катэгарычную дырэктыву РВК і РК партыі пра мабілізацыю сродкаў. Заўтрашні дзень па ўсім раёне абвяшчаўся днём штурма. За невыкананне квартальнага плана да віноўных сельсоветаў будуць ужыты меры фінансавае рэпрэсіі, а старшыні сельсоветаў і парторгі будуць прыцягнуты да адказнасці ў адміністрацыйным і партыйным парадку.

Тэлефанаграма напамянула старшыні, што фінансавы участак самы адсталы ў сельсовеце, што штурмаваць яго канечна трэба.

— Заўтра штурм,—праказаў ён.

І сакратар комсомольскае ячэйкі не ўбачыў, што ў яго на твары, але надломаную нотку ў голасе пачуў. А ён яшчэ ішоў у сельсовет з надзеяй, што Асоўскі прыдзе на комсомольскі перадмюдаўскі сход і... балюча адчуў, што таму поўная разэрва і пра сход нават страшна і напамінаць. Перад масіўным словам штурм нейкі там маладзежны сход спасаваў зусім і адсунуўся ў цмяную далячынь другараднасці. Але Гарбач нагэтулькі быў захоплены сваім праэктам, што не заўважыў, як праказаў:

— А я думаў, што ты на сход да нас прыдзеш.

А як заўважыў, што сказаў, дык аж спужаўся: як гэта магло ў яго вырвацца. І пільна ўзорыўся ў змрок, ці не ўбачыць, што думае старшыня. А старшыня ўзяў ды раптам развеяў Гарбачоў спалох двума парывістымі словамі:

— Ёсць штурм!

І да Гарбача звяртаючыся, мякка праказаў:

— Чудзіла-ж ты! Адразу сказаў бы, што ў цябе сход, я пра яго зусім забыўся. План за планам прамігаюцца, як найэфектней правесці гэты штурм, а ён маўчыць. Хадзем на сход. Ёсць штурм!

Не чакаючы ўжо больш Яздовіча, старшыня весела пхнуў Гарбача ў плечы, каб ішоў, але ўспамянуў, што яму патрэбна папера і на хвіліну вярнуўся.

Нехта шарганўся на дварэ паўз сцяну. Ясны месяц на момант выбліснуў з-за хмар.

Асоўскі ўзняў ад стала галаву. За вакном, здалося яму, да крайняе шыбы прыліпла стрыжаная клінам бародка.

— Можа Яздовіч?—уголас падумаў ён і ўгледзеўся добра.

Ясна свяціў месяц. За вакном не было нікога. Толькі шорхат крокаў чалавека пачуўся з-за рога.

— Ён-жа заўсёды вось гэтак,—азваўся Гарбач.—Перш вынюхае пазавуголлю, што пра яго гавораць ды чаго выклікаюць ды што пра яго думаюць, а тады ўжо заходзіць. Вось чалавек.

Асоўскі ўзяў пару лістоў чыстае паперы і вышаў следам за Гарбачом.

На дварэ было напружана ціха. І месяц усё яшчэ гуляў з хмарамі ў сваю гульню.

„Чорт яго забірай гэтага Яздовіча“, падумаў старшыня—глыбока ў думках быў у яго Яздовіч.

— А сход у цябе сабраўся ўжо?—запытаўся ў сакратара.

— Збіраецца яшчэ,—вінавата адказаў той.

— Позна назначаеш, раней мог-бы.

На водкідзе ў самым канцы вёскі стаяла школа. Там цяпер весела блішчэла пятнаццацілінейная лампа, і стол, на якім стаяла яна, абступілі комсомольцы.

— Дзе ты газу вось дастаеш?—запытаўся старшыня.

— Хочаш і табе дастану,—весела адказаў старшыні Гарбач. Ён адчуваў, як радасна спружынілі яго мускулістыя ногі.— Што ты за гаспадар сельсовета, што нават газы не дастанеш.

— Часу няма дбаць пра газу.

У голасе старшыні разам з ноткай шкадавання чуўся гонар і ўпэўненасць, гонар ад таго, што яму часу няма дбаць пра такую дробязь, як газа.

## II

Ячэйка сабралася не ўся. З членаў бюро пазнілася Белая Алімпа, як заўважыў Гарбач.

— Не, ужо давай пачакаем усіх,—сказаў Асоўскі, калі Гарбач намерыўся адчыняць сход.

— Можна і счакаць хвіліну,—згадзіўся той.—Наказаць дык усім наказалі, але некаторым... вось Алімпе... далёка ісці... Алімпе, напрыклад, пяць кілометраў хады.

— Трэба загадзя наказваць...

— А то вось калі Белая Алімпа наказ атрымала, як і мы, толькі ўвечары, а ісці ёй цэлую гадзіну...

— А можа і зусім не атрымала,—пачуліся галасы хлопцаў і дзяўчат.

*

Наказ аб сходзе ячэйкі Белая Алімпа атрымала. Позна, змярканнем ужо, мо' праз дзесятыя рукі, прайшла паперка ад сакратара ячэйкі, пакуль трапіла такі да Алімпы.

Белай Алімпе дзевятнаццаць год. Яна акуратна дзень пры дні ходзіць на работу ў калгас і на дарогу, вось і сёння яна толькі што з поля.

Калі-б хто паспрабаваў сабе ўявіць Алімпу па імю і прозвішчы, дык убачыў бы перад сабою высокую стройную, спакойнага характара бландынку. І глыбока памыліўся-б! Белая Алімпа была смуглявая шатэнка і ростам ну не большая самое сябе. Алімпійскага спакою ў характары Алімпы, нагаданага яе імем, і знаку не знайшоў-бы, каб і хацеў. Алімпа была востраносая, шустрая, вёрткая дзяўчына. Але што самым цікавым было ў Алімпы, дык гэта ўпартасць яе, упартасць здаровае маладосці. І яшчэ гарачая была на работу Алімпа, але гэта мы не будзем ставіць ёй у заслугу, а то яна дужа пакрыўдзіцца, бо што-ж то за чалавек, калі ў яго работа мерзне ў руках. Адным словам, уявеце сабе дзяўчыну, у якое работа гарыць у руках (ёсць-жа ў вас напэўна знаёмыя па працы дзяўчаты-комсомолкі), і перад вамі будзе стаяць Белая Алімпа.

— Ты ўжо ў свае зборы?—папыталася ў Алімпы маці.— А вячэраць?

— Патрэбна мне ваша вячэра... Там катлетамі пачаступоць, не тое, што ваша нейкая капуста.

— Ад капусты губы тлусты,—адказала маці.—Ты-б вось менш зубы скаліла. Катлеты... Катлеты... І так на цурку высахла.

— Па крайняй меры лёгка, як птушцы. А вячэраць няма часу.

— То адкалупні там кіндзюка трохі ды вазьмі з сабою, то можа хоць дарогаю з'ясі.

— Вось дабрыня! Ну хто-б мяне пашкадаваў, каб не родная маці.

— От менш выскалялася-б. Можна не вельмі трэба ісці, позна... Цяперашнім часам... Народу ўсякага на гэтай дарозе...

— Цяперашнім часам то не бывалешнім,—азвалася Алімпа. Яна паспела тым часам і хлеба адкроіць і кіндзюка адкалупнуць крыху і была гатова падацца ў дарогу. Але маці не хацела выпусціць дачку без лішніх парад.

— Кій бы хоць узяла які... Ваўкі, кажуць, бегаюць...

— Я паспею з'есці кіндзюк, пакуль убачу воўка, а тым часам гэта самае важнае.

— Ідзі, ідзі трашчотка. Апознішся, дык будуць дапытвацца.

Можа і яшчэ гаманіла-б маці, каб не адхінулася ад мыцельніка і не ўбачыла, што Алімпін і след устыў.

*

Паўз Алімпін калгас „Чырвоны май" і далёка за сельсовет цераз лясы да балоты цягне новая шашэйная дарога, на якой яшчэ не скончылася работа і якой немала свае ўпартае маладое энергіі аддала Алімпа. Гэтай дарогай і ішла яна цяпер на сход.

На участку свайго калгаса, свае брыгады яна ўзіраецца ў кожны метр дарогі, лішні раз хочучы пераканацца, што заданне выканана добра. І ёй ўдвая прыемна ісці: дарога служыла навочным прыкладам поспехаў будаўніцтва там, дзе калісь былі непраездныя балоты ды лясы, і яна дапамагала гэтаму поспеху і дамагалася яго. Радасна было ісці і адчуваць пад нагамі працу сваю, ператвораную дасціпным чалавечым розумам у роўную істужку дарогі, якую гэтак гладка прыкачалі каткі і па якой неўзабаве паліецца паток машын. Радасная птушка затрапятала ў грудзях у Алімпы, і ёй захацелася раптам галасіста заспяваць, каб пачула ўсё жывое наўкола.

Яна ішла, і, здавалася, дарога спружыніла пад нагамі, і месяц, саромліва адкрываючы твар свой, здавалася, крочыў у пары з ею, не адстаючыся ні на крок. Забылася ўзятая з сабою вячэра, ёй хацелася смяяцца, жартаваць з кім-небудзь, на ўвесь голас заспяваць песню, адчуваемую сэрцам, але ненапісаную яшчэ паэтам.

Разам з другімі дзяўчатамі-ударніцамі яна паедзе на першых машынах, што пойдуць па новай дарозе, у сталіцу рэспублікі. Толькі вецер будзе спяваць сваю бясконцую песню ды пяшчоты свае раздаваць маладым дзявочым тварам. І адмысловая дзявочая фантазія малюе ёй няхітрую, але прывабную карціну.

Сама не заўважаючы, яна прышла да павароткі, адкуль вяла цераз негусты лес дарога ў сельсовет. І толькі зварочваючы на падчышчаную на ўз'ездзе грэдэрам дарогу, схамянулася. Здалося Алімпе, што прайшла яна цэлую вечнасць, а не сцягнулася ёй і хацелася-б ісці ды ісці ў бясконцую далячынь.

„Але сход, а сход-жа..." падумала яна і спужалася... „Я мабыць вельмі доўга ішла і прыспею толькі пад шапачны разбор".

Яна гатова была бегма пабегчы, калі пачула словы гутаркі. За некалькі крокаў ад яе, зразаючы рог рэдкага лесу, на новую дарогу выходзілі два чалавекі. Яснае святло месяца разарвала хмары, і Алімпа ўбачыла аднаго з іх, высокага і сухога, як склюд, з падстрыжанай клінам бародкай.

— Колькі збожжа?—пытаўся склюд.

— Пяцьсот кіло,—адказаў другі, якога Алімпа не бачыла за першым, бо ішлі яны ўпоравень.

— Масла ў кладовай?—панізіў голас першы.

— Дзвесце кіло,—адказаў другі.

Як прыкутая стаяла Алімпа. Страшэнна знаёмы быў голас склюда і гэтая шляхецкая бародка клінам.

— Хурманкі?—пытаўся зноў ён.

— Чакаюць у лесе.

— Варта?

— Як і ўсе разы...

— Чакай, Альфонс, тут мы разыйдземся. Трэба, каб вартаўнік ад будынкаў быў у самым далёкім канцы палетка. Пачынаць, як патухне ў мяне святло. Не зробім сёння—заўтра будзе позна. Мяне выклікалі ў сельсовет, але я не атрымаў гэтага паведамлення, разумееш. Заўтрашні дзень абвешчаны штурмавым, з раёна званілі толькі што ў сельсовет, дык будуць корпацца ўсюды, лазіць і могуць раскапаць усё. Заўтра будзе позна. Пара закончыць, і каб ніякага следу, бо іначай і турмою не ўмыемся.

З гравійнае дарогі даляцеў гук матора.

— Схавайся!—штурхнуў за хвою свайго прыяцеля склюд.

Алімпа толькі паспела ўвагнуцца за маладой сасонкаю, як з-за павароткі, з адкрытымі фарамі, выкінуўшы ў лес два белых патокі святла, вырвалася і прайшла далей машына. Як знікла машына, Алімпа прыслухалася, але пачула толькі ў розных баках храбусценне сухога галля.

— Што-ж гэта такое?—трывожна з'явілася ўпартая думка.— Гэта-ж яны задумалі злачынства...

„Задумалі злачынства... Злачынства... Злачынства", у адказ стукацела малаточкамі ў думках і біла балюча па сэрцы. „Злачынства... Злачынства"...

Алімпа сарвалася з месца і, колькі сілы ставала, пабегла ў сельсовет. Аднак бегла нядоўга. З-пад трывожных думак выбілася наверх асцярожнасць.

„Не трэба ўздымаць трывогі", падумала яна і пайшла роўным, але хуткім крокам. І ў школу прышла спакойная, толькі з буйнымі ружамі чырвані на шчоках.

— Вось і Алімпа!

— Алімпа прышла!

— Алімпа,—зашапталі галасы. Любіла яе ячэйка, такую маленькую шуструю дзяўчыну.

Даклад сакратара ячэйкі аб Мюдзе ўжо скончыўся. З-за стала ўстаў Асоўскі.

— Я сабе іначай і не мыслю святкавання Мюда. Толькі тым, што вы зробіце практычнага, толькі сваімі дасягненнямі вы адзначыце дзень, у якім міжнародны комсомол і ўся рэволюцыйная моладзь усяго света выходзіць на вуліцу супроць буржуазіі, супроць фашызма. Мы, большэвікі, тым выгодна і ад-

розніваемся, што мы людзі справы: сказаў і зрабіў. І нашы ідэі, нашы тэорыі падмацоўваюцца заўсёды справай ды яшчэ якой справай!

Асоўскі збіўся неўзаметку на патэтычнасць і, сам захапіўшыся сваімі словамі, разгортваў перад моладдзю грандыёзныя карціны будаўніцтва ў Саюзе, захапляючы ўсіх сваім пафасам.

Усе былі яшчэ пад уплывам настрою, выкліканага гэтымі карцінамі, калі Асоўскі неўзаметку перайшоў да практычнае часткі свае прамовы і да сёняшняе тэлефонаграмы з раёна.

— Мюду вы сабралі кожны па сто рублёў добраахвотных плацяжоў. Гэта добра, але гэтага мала. Па сельсовеце не выканан квартальны план. Невыкананне ў тэрмін выкліча фінансавыя рэпрэсіі, банк не дасць нам ні капейкі грошай. І апроч таго... апроч таго, нам будзе вялікі сорам перад другімі, якія выканаюць. А мы павінны заваяваць нашаму раёну месца на чырвонай дошцы. Комсомол павінен дапамагчы сельсовету правесці штурм.

Тады ўстала Алімпа, такая маленькая сярод сваіх рослых таварышак і таварышоў.

— Няма чаго доўга гаманіць. Мюд—свята працоўнае моладзі, а не гультаёў. Дык і адзначым яго, адзначым штурмам. І вось зараз, цяпер, лішне не гаворачы ды давайце за работу.

І прапанова была прынята апладысментамі. Комсомольская ячэйка абвяшчала мюдаўскую ноч ноччу штурма па мабілізацыі сродкаў.

Асоўскі падсунуў да сакратара ячэйкі некалькі напісаных ім паперак. Гарбач узяў іх і сказаў:

— Вось кожнаму заданне... Слухайце. Белая Алімпа... табе ў „Чырвоны май".

— А я не хачу туды... Чаму гэта, канечна, у свой?—ускочыла яна і хутка-хутка пасыпаліся словы.—Давай мне ў „Калгасную справу". Я хачу пайсці туды, вось і ўсё.

Здзівіўся Гарбач і, здзівіўшыся, паглядзеў на Алімпу.

— Дык туды-ж адсюль чатыры кілометры, а дадому адтуль будзе дзевяць.

— А хоць-бы сабе і трыццаць дзевяць. Падумаеш, які клопат!

І справа была скончана. Маўчанка ўсіх гаварыла пра поўную згоду з Алімпай: штурм не павінен лічыцца з кілометрамі.

Калі па начных дарогах сельсовета рассыпаліся хлопцы і дзяўчаты з заданнямі, Асоўскі сказаў Гарбачу:

— А мы з табою возьмем лампу ды пойдзем у сельсовет; пабудзем там з гадзіну якую, а потым і мы падамося.

## III

На двары заходзіўся вецер. Ценi-здані шпарчэй пабеглі па шырокім палетку ў цьмяную далячынь. І месяц, здавалася Асоўскаму, шустра перабягаў ад хмаркі да хмаркі.

Трое дзяўчат ішлі па дарозе да „Калгаснае справы".

Дакучны вецер круціўся каля іх, прабягаў уперад, гарэзліва пасвістваючы ў залацяным іржышчы, варочаўся, заглядваў у твар каторай, вырываў свавольна пасму валасоў з-пад хусткі ды зноў, насвістваючы яму аднаму вядомую мелодыю, спяшаўся за ценямі зданямі.

Алімпа напружана думала, што яна зробіць, як прыдзе ў „Калгасную справу", але нічога не прыдумвалася. Упартая думка авалодвала ёю, перабівала ўсе планы:

„Дык гэта-ж злачынства... Злачынства... Злачынства"...

І яна шпарчэй ішла, быццам выперадзіць імкнулася неўлавёныя вокам цені, што лёгка, бяскрыла імчаліся па палетку і губіліся ў цмянай далячыні.

— Злодзей родзіцца, пакуль мы маўчымо,—азвалася адна з дзяўчат.—Давайце гаманіць пра што... Што мы будзем рабіць, прышоўшы, Алімпа...

— Вось ты пра злодзея, Янька, сказала—адарвалася ад маўклівых думак Алімпа.—А я вось што думаю, дзяўчаткі... Такіх злодзеяў у нас ўжо няма, як былі, і такіх не будзе, як ёсць.

— Гэта не так хутка будзе,—сказала трэцяя.

— Не, Люба, яно будзе хутка, пабачыш. Вядома, я не кажу пра тое, што яны самі знікнуць... Адны перастрояцца на рабоце, і мы ім паможам стаць людзьмі, другіх мы прымусім зрабіцца сумленнымі работнікамі, а трэція, тыя, што будуць упарта трымацца свайго—ну што-ж... На сметнік, як смецце выкідаем, гэтак выкінем і іх. Мы дажывем яшчэ да таго, што на зямлі астануцца адны працавітыя, сумленныя прыгожыя людзі. Пабачыш!

— Глядзі ты, Янька, на яе,—зарагатала рослая Люба,—колькі яе, а якая храбрая. Мацыя з мезены кіпець!

— Затое ты з хваінамі роўная,—пажартавала Алімпа.—З такімі, як ты, мы свет дагары перавернем.

Сур'ёзная гутарка перамешвалася з жартамі, і жарты, як кветкі прыгожую веліч палаца, аздаблялі сур'ёзнасць гутаркі, і дзяўчатам было лёгка і прыгожа на сэрцы, і перад вачыма паўставала грандыёзная карціна, уся сатканая з прыгожага людскога руху, уся аблітая сонечна-залацістым святлом.

З-за хмызнякоў наперадзе выплішчыўся агеньчык, другі, трэці, цэлая плойма светлых зорак замігцела перад вачыма ў дзяўчат.

„Калгасная справа" яшчэ не адпачывала. Надаедлівы сон падкрадваўся з цмянае далі да дбайнага кутка, сустракаўся з ясным святлом аганькоў і расчараваны адступаўся.

— Дзяўчаткі, а як у вас з вартаю калгасных будынкаў?—запыталася Алімпа.—Давайце праверым.

— У нас на кожнае аддзяленне адзін вартаўнік—і на будынкі і на палетак,—сказала Янька.

— Адзін вартаўнік? Гэта-ж... проціў усякіх законаў. Чаму-ж вы маўчыце? Чаму-ж вы маўчалі, дзяўчаткі?—з дакорам загаманіла Алімпа.—Гэтым-жа мы самі адчыняем дзверы нашых гумнаў, кладовых злодзею, злачынцу, калгаснаму ворагу.

— Адкуль ты ведаеш, Алімпа, што мы маўчалі,—вінавата сказала Люба.—Мы выступалі на калгасным сходзе, казалі, што нядобра мець аднаго вартаўніка і што трэба хоць-бы двух паставіць.

— Дык старшыня калгаса проста абсмяяў нас. Калі мы, кажа, вылучым па некалькі вартаўнікоў на аддзяленне, дык не будзе каму працаваць у калгасе. У нас-жа пяць аддзяленняў...

— Нядобра, дзяўчаткі... А вы ось вельмі не слухайце старшынёвых баяк, што не будзе каму працаваць. Можна паставіць вартаўнікамі калгаснікаў, па сіле ці па гадах не магушчых, абы каб яны сэрцам і душою хварэлі за калгаснае дабро... Ідзіце вы ўперад, бо я не ведаю тут вашых паходаў.

Адзін за адным міргалі блізкія агенчыкі, то хаваючыся, то зноў выбліскваючы з-за дрэваў і будынкаў. Але вось адзін міргнуў—раз, другі, хліпнуў і патух. Першае аддзяленне „Калгаснае справы" патанала ў цьмянай цішыні сну.

Бяспрытульна чарнелі гумны, хлявы, кладовая. З дзвярэй кладовае Алімпа ірванула вялізны замок, і той астаўся ў руках у яе.

— Дзяўчаткі.. Што-ж гэта такое? Вы бачыце, як яны замыкаюць.

Дзяўчаты глядзелі і не верылі самі сабе.

— Нікому ні слова, дзяўчаткі, маўчок,—сказала Алімпа.

І яшчэ няўпэўненыя, што вартаўніка пры будынках няма, яны справілі каля аднаго гумна дзікі гармідар: грукалі ў дзверы, крычалі, свісталі, мяўкалі. Але вартаўнік не паказваўся. Толькі задзяўкаў недзе адзінока сабака ды, пакрыўдзіўшыся, што не адгукнуўся ніхто, сціх.

— Хоць бяры за вуголь ды валачы, дык няма каму нават і абелякнуць,—падумала ўголас Алімпа.—Хадзем да старшыні

*

У старшыні было яшчэ відно.

Падобная на абору з старога панскага двара, вялікая доўгая хата ўрасла ў зямлю і з крыўдаю пахілілася на бок.

Старшыня сядзеў за сталом, корпаўся ў паперах і нешта адзначаў сабе на чыстым лістку паперы.

— Што-ж гэтак позна не баіцеся хадзіць, комсамол?—ветліва праказаў ён, падаўшыся ў бок ад бляску лампы.

— Даўно былі ў вас. Пагуляць прышлі, дзядзька старшыня,—адказала Люба.

— Гм, пагуляйце,—суха адказаў ён. Падстрыжаная кліночкам барада яго падалася назад, і цень ад фігуры лёг на сцяну і застыў. Пагуляйце, калі маеце час,—быццам гаварыў ён усёю сваёй постаццю,—але дазвольце ўжо мне займацца сваімі справамі.

— А мы вось чаго прышлі да вас,—сказала Алімпа і падала старшыні паперку ад сельсовета

— Ага,—прачытаўшы чмыхнуў носам старшыня,—змабілізаваны, значыць, комсомол... на штурм, так сказаць фінансаў. Трэба сказаць, што ў нас не зусім добра з гэтым, не зусім... Праўда, не горш як у людзей, не апошнія, але-ж вы для таго і прышлі, каб дапамагчы. Вось гэта ўжо і зусім добра. Мы з іх астатнюю капейку выштурмуем...

— Не астатнюю капейку,—рэзка павяла брывою Алімпа,—а тое, што належыць выплаціць за трэці квартал.

— Выбачайце, я так і гаварыў,—абурыўся старшыня,—астатнюю капейку плацяжоў, каб не засталося ніводнага чалавека віннага дзяржаве. Бо дзяржава—гэта мы...

— Дзяржава—гэта мы,—падкрэсліваючы кожнае слова, праказала Алімпа.—Мы!

„Адкуль гэтага надаедлівага цвыркуна прынесла?“ загарэўся няпрыязню позірк старшыні. „А плішчыцца, як жаба на купіну“.

— Няўжо ў нас свайго комсомола не хапіла ў калгасе, што нават у другіх пазычылі. Сорам нашаму комсомолу, сорам,—смешкам праказаў старшыня, але смех яго быў сухі і цвёрды, як мяса старога вала, і пад маскаю вонкавасці схавалася жорсткасць.

— Не хапае-ж вось у вас рабочых рук у калгасе... Па адным вартаўніку на аддзяленне выставілі, ды і тыя няма ведама дзе.

— Гэта ў нас?—здзівіўся старшыня.

— У вас, тут, пад бокам. Мы абышлі ўсе будынкі, а вартаўніка і следу няма.

— Не можа быць,—недаверліва паківаў галавою старшыня.—Ого, ён у нас не такі... былы стары чырвонаармеец. Але я праверу. Зараз схаджу да аб'ездчыка... праверу.

— Ваш аб'ездчык мабыць разам з вартаўнікам, дзядзька старшыня, не варта хадзіць,—насмешліва сказала Алімпа.—Лепей трэба пабудзіць членаў праўлення, брыгадзіра ды члена сельсовета...

— Беспарцейны акціў, так сказаць,—прапусціў паўз вушы насмешлівы тон дзяўчынічнага голаса старшыня.—Добра... Янька! Ты-ж ведаеш членаў праўлення ды члена сельсовета, збегай пазаві. А я тымчасам сам праверу вартаўніка, ды пагляджу, дзе аб'ездчык.

Старшыня з Янькай вышлі з хаты.

Вецер наганяў цёмныя хмары. Хмары густа усцілалі неба. Месяц пакінуў гуляць у сваю гульню з хмарамі. Начная вільгаць начыняла паветра. Было ціха і бестурботна ў начной цішыні, толькі дзесці далёка з асалодай крычала начная птушка.

Каля маленькае цёмнае хаткі старшыня спыніўся, пастукаў у шыбу. Гэты стук нібы чакалі ў хатцы. Ціха адчыніліся дзверы. І на ганак вышаў апрануты мужчына.

— Храновая, Альфонс, справа,—шэптам праказаў старшыня.—Трэба выблытвацца, пакуль не позна, разумееш?

— Але ў мяне ўсё гатова.

— Дык і добра. Памятай адно, калі мы сёння не ўловім, так сказаць, класавага ворага за кражаю калгаснае маёмасці, нам з табою... каюк!

— Што такое зрабілася?—пачуўся трывожны голас Альфонса.

— Зрабілася тое, што...—Голас старшыні перайшоў на глухі шэпт.—...Разумееш?—сказаў ён галасней,—Павераць нам, а не якому д'яблу са стараны. Дзейнічай!

Стрэлкі на ходзіку, што вісеў паміж партрэтамі Сталіна і Варашылава, перабраліся на другую гадзіну, калі прышоў старшыня. Твар у яго быў і вясёлы і смутны адначасна.

— Чорт яго ведае, што такое робіцца,—развёў ён рукамі, і вышла гэта ў яго так непераймальна, так шчыра, як у чалавека, з якім здарылася нешта вельмі непрадбачнае і непажаданае.

— Аб'ездчыка бачылі?—насмешліва папытала Алімпа.

— Аб'ездчык то паехаў... Ого, ён кожнае ночы аб'яжджае... Але што гэта з вартаўніком. Ну забіце, не магу паверыць ні за што. Каб то такі чалавек, былы чырвонаармеец... А можа вы ўгаварыліся з ім, знарок гэта зрабілі? Прызнайцеся...

І тон голаса і твар у яго былі гэткімі па-дзіцячаму наіўнымі і бародка клінам—такая сымпатычная, што дзяўчатам захацелася зарагатаць, але прыпамянулася нядаўная гутарка, і халадок прабег па вуснах.

— Мы—не... Гэта можа вы ўгаварыліся ашукаць нас ды схавалі дзе вартаўніка,—сказала ды паглядзела ў вочы старшыні Алімпа.

Але ў сенцах застукалі дзвярыма. Старшыня павярнуўся туды, і Алімпа нічога не ўбачыла ў яго вачах.

— Ну, дзяўчаткі, жарты жартамі... Але я даведаюся, дзе ён. Прышлі члены праўлення, брыгадзір і член сельсовета. Яны прадзіралі сонныя вочы, і недаўменне было ў іх на твары.

— Сядайце! Усяночную праводзіцмем,—весела гукнуў ім старшыня.

І надзвычайна хутка, без лішніх památak і слоў, ён размеркаваў участкі і сілы: члены праўлення і дзяўчаты ішлі ў тыя аддзяленні, а Алімпа з брыгадзірам і старшынёю аставаліся ў першым.

— Усю ноч праходзім, а работы яшчэ ні на грош,—сказала рослая Люба.

— Гэ, хопіць яшчэ работы,—азваўся член сельсовета.—Вось папрыходзім, а там народ пачне ўставаць і будзе якраз добра.

— Не, раз штурм дык штурм, пойдзем, браткі,—рашуча сказаў старшыня.—Жонка... лямпу тушы, бо я забаўлюся.

— А ўжо ўсяночная будзе,—з нейкаю злосцю азвалася тая.

На дварэ было цёмна. Густыя хмары схавалі за сабою месяц. Наўкола панавала бязгучная цішыня. І раптам, не паспелі яшчэ ўсе разыйсціся, як цішыня гэтая пранізалася дзікім крыкам, і крык той ішоў з-пад калгаснае кладовае.

— Паж-жа-ар! Паж-жа-ар!

— Вартаўнік? Чорт ведае, што такое робіцца,—праказаў старшыня і прыпусціўся бегчы туды, адкуль ляцелі трывожныя пажарныя галасы.

Калі прыбеглі туды, дык убачылі адчыненую кладовую, перад кладовай дзве хурманкі і на ганку жывы клубок з чалавечых фігур.

— Зладзейства... Узяць іх! Звязаць!—закамандаваў старшыня.— Такі-ж вартаўнік на сваім месцы,—хітра праказаў ён да дзяўчат.

## IV.

Асоўскі і Гарбач сядзелі за сталом у сельсовеце і пасалавелымі вачыма глядзелі на грудкі плацяжных дакумантаў з паўкладванымі ў іх грашыма.

— Цяпер яшчэ квіткі выпісаць—адзін сакратар сельсовета не ўправіцца. А яшчэ-ж падсыплюць,—паглядзім, што прынясуць твае хлопцы ды дзяўчаты. Ведаеш, Гарбач... Хацеў я даць яшчэ адно заданне комсомольцам у „Калгасную справу“ ды пабаяўся, што будзе з іх многа і так.

— Алімпа ў нас баявая дзяўчына,—азваўся сонны Гарбач.

— Ды ты прачніся, засмяяўся Асоўскі, сцепаючы з сябе рэшткі начное зморы.—Я ніяк не магу забыць пра гэтага Яздовіча. Новы я тут чалавек, але... На вось глядзі, гэта я адкапаў у старых сельсовецкіх архівах.

Старшыня дастаў з партфеля тонкі і шырокі сшытак і падаў яго Гарбачу.

— Спіс гаспадарак з укрытымі аб‘ектамі абкладання, складзены на 1930 год па распараджэнню колішняга старшыні, членам прэзідыума сельсовета Ляневічам... Ён асвятліў перада мною самыя цёмныя куткі ў сельсовеце, ён даў мне ключ да беспамылковага ўразумення шмат якіх фактаў,—востра паблісквываючы вачыма загаманіў Асоўскі.—Яздовіч... старшыня калгаса... да ўступлення ў калгас меў сямнаццаць дзесяцін зямлі, чацвёра коняй, дзесяць кароў. Цяпер я разумею, чаму гэта на сёння ў „Калгаснай справе“ асталося на полі і прарасло дваццаць коп яравога жыта і чаму мне давалі зводкі, што ўбрана ўсё. Чуткі ёсць, што там літаральна абкрадваюць калгаснікаў, што там сеецца заўсёды звыш плана, а колькі звыш, ведае той, каму гэта выгадна. Ёсць там тыпы, былыя фальваркоўцы, якія пілі кроў беднякоў, выцягвалі са сваіх батракоў жылы. Па прачытанні гэтага спіса для мяне не сакрэт, што там сядзяць форменныя павукі, пра якіх пісаў Лібкнехт Вільгельм, і якія мелі па трыццаць дзесяцін зямлі, а ў аб‘ектах абкладання запісана было па пяць-сем... Па пяць-сем, а не па трыццаць... Чуеш? Невялічкая розніца! За гэта мала зрабіць што-небудзь, за гэта пад абсац, раздушыць, як блыху, ды і расцерці яшчэ.

На гэтым Асоўскаму сваю сэнтэнцыю прышлося скончыць і спіс адправіць назад у партфель.

Пад'ехалі пад сельсовет дзве хурманкі.

Першым з геройскім выглядам увайшоў старшыня „Калгаснае справы“. Бародка клінам тырчэла, як штык, нібы нацэліўся ён знізаць каго ёю. За ім калгасная варта ўвяла злоўленых зладзеяў. Самыя апошнія прышлі Алімпа, Люба і Янька.

— Чорт ведае, што такое робіцца,—пачаў быў Яздовіч, але Асоўскі адмахнуўся як ад назольнага камара і павярнуўся да дзяўчат.

— Як штурм, дзяўчаты?

Замест адказа, тыя падалі акуратна загорнутыя ў газеты тры пакункі.

— Не лічылі толькі, не ведаем, колькі там,—сказала Алімпа і твар у яе быў суровы і халодны.

—Нічога, вось прыдзе зараз сакратар, тады возмемся... Так. Цяпер я слухаю вас. У чым справа? Што гэта за людзі? І чаму вы не прышлі ўчора па майму вызаву?

— Таварыш Асоўскі, — (Асоўскі грэбліва зморшчыўся), — я толькі сёння атрымаў вашу паперку... А ўночы,—голас Яздовіча загучэў на высокіх урачыста-строгіх нотах,—вось злавілі класавых ворагаў у калгаснай кладовай за кражай калгаснай маёмасці. Каб не вартаўнік з аб'ездчыкам,—бародка стрэльнула ў бок варты,—так бы і паехала калгаснае дабро.

— Годзе!—крыкнула тут Алімпа.—Хопіць з нас гэтай подлай кулацкай хлусні! Усё гэта адна шайка! Адна кулацкая шайка!..

Яна блізка падступілася да Яздовіча і, ніжучы яго вострым варожым поглядам, сыпала словамі проста ў твар яму.

— Хто ўчора ў лесе пры новай дарозе згаварваўся абкрасці кладовую і схаваць усе сляды з Альфонсам, з кладаўшчыком? Хто адвёў быў вартаўніка ад будынкаў, хто адамкнёны пакінуў замок на кладовай? Дзяўчаткі. Вы-ж самі бачылі... Ад учарашняга вечара я цярпела дасюль, усю ноч, не паказваючы знаку, але ведала ўсю гэтую хітрую справу.

Строга ўрачысты выгляд прапаў у Яздовіча, як змыты халодным буйным дажджом, і вострая клінам бародка ўткнулася ў грудзі.

— Ну дык што вы яшчэ скажаце?—павярнуўся да яго Асоўскі. Якую нам яшчэ казку раскажаце? Я раскусіў вас, Яздовіч, яшчэ раней, ды не хапала сяго-таго. А цяпер з лішкам нават. Прайдзеце сюды.

Асоўскі вышаў з-за стала і адчыніў дзверы ў суседні пакой:

— Адпачыце тым часам. Таварыш Гарбач! Сазваніся, калі ласка, з інспектарам міліцыі, каб безадкладна выехаў сюды.

І зачыніў за Яздовічам дзверы.

*

— Што гэта ў вас за свята такое сёння?—Хітра і дабрадушна ўсміхаючыся запытаўся, прышоўшы, інспектар міліцыі.

І таксама хітра і дабрадушна ўсміхаючыся, адказаў яму Асоўскі і шырокім жэстам ахапіў поўны жвавай моладзі сельсовет.

— Свята аднае вялікае перамогі ў сельсовеце. Таварыш Алёшка,—павярнуўся ён да сакратара сельсовета,—падлічылі колькі?

— Дванаццаць тысяч.

— Дванаццаць тысяч, таварыш інспектар, дала дзяржаве сённяшняя штурмавая мюдаўская ноч сродкаў. А за мінулы месяц сабралі ўсяго толькі дзесяць... Дзесяць тысяч... за месяц... Смех і сорам!

Радасныя іскаркі зіхацелі ў ваччу ў Асоўскага.

— А цяпер зойдзем сюды, у наш сельсовецкі музей, так сказаць.

І старшыня адчыніў дзверы ў суседні пакой.

— Дзяўчаткі!..—гукнула Белая Алімпа.—Цяпер нам можна і павячэраць. Давайце сюды!

І дастала з кішэні загорнуты ў газетную паперу хлеб з крыхою кіндзюка.

4-XI-33 г.

АНТОН АЛЕШКА

# ЮТКА

## I.

Сярод яравых палеткаў ідзе Ютка і зажмурана пазірае ўперад. На ім старая, калісці сіняя, а цяпер вылінялая, рубашка з падраным перадам матляецца рубцамі па гэткіх-жа самых портках. У руках вішнёвае пужальна. На ім накручана доўгая пуга, звітая з канапель-пласкуння. Твар загарэла-чорны, маршчыністы, аброслы. З-пад старое шапкі сівізною свецяць скроні. У маршчакаватых прарэзах павек, пад навіслымі запыленымі брывамі глыбока сядзяць жалудовага колеру вочы. Уся яго каржакаватая постаць з доўгімі цэпкімі рукамі і кароткімі лукаватымі нагамі быццам зроблена з нейкага шэрага матэрыялу, але гэты матэрыял мае каменную цвёрдасць.

Глядзіць ён уперад, туды за грудок, адкуль відны прысады вёскі. Сама вёска зеленню садоў нікне ў сінявай далечыні гарачага ліпнёвага дня.

Спяшае Ютка дамоў, бо чараду пакінуў на аднаго падпаска: трэба хутка вярнуцца, бо добра, як пагода будзе стаяць увесь дзень, а калі дождж?Не ўтрымае малы чарады і свінні разбягуцца, каторае куды: па пасевах, у гароды—наробяць шкоды. А там і пашлі нараканні на пастуха, лаянкі, а мажліва і апанятаванне папсаванага гарода, ці там якое збажыны.

Хата была замкнёна. Прасунуўшы руку ў вакенца, Ютка пацягнуў за вяровачку, і засаўка з піскам стукнулася аб прабой. Клямка адскочыла і дзверы самі адчыніліся. З сянец дыхнула халадком і пахам вялага пакрышанага зелля-малачаю, што ляжала ў кучы пад сталом. Напіўшыся халоднага рэзкага квасу, Ютка абцёр далонню вусы і бараду. Увайшоў у хату, большую палову якой займала пахіленая ў чалесніках і абкураная, даўно не беленая, печ. На палу былі раскіданы лахманы рознае адзежы. Ютка старанна ўзяўся наводзіць парадак у хаце; знайшоў дзяркач, вымеў смецце, зачыніў падпечак, кінуў на плот гародчыка кош і паставіў у парадак пад лаўкай у мыцельніку чыгуны і гаршкі. Лахманы на палу ссунуў у куток і прыкрыў дзяружкаю. У гэты момант вярнулася нявестка. Сунялася ў парозе і пазірала, узяўшыся аберуч за вушакі дзвярэй, на стараннага свёкра.

— Ты прышла?—звярнуўся да яе Ютка,

— Што ты мне тут парадкі свае наводзіш? Сама прыбяру.— Яна шырока ступіла ў хату і павесіла на вешала ляжаўшую на лаве хустку.

— То чаго ты?—пазіраў Ютка на нявестку, чамусці сёння гэткую злосную.

— Чаго? Ты ўсё чагокаеш. А не ведаеш...

— Добра. Няма мне калі тут з табою гаманіць. Ты памыла маю сарочку?

— З сарочкаю сляпіцаю прыплянтаўся!—закрычала, усхапіўшыся з лавы, нявестка.—У галаве мне твае сарочкі. Я, думаеш, ішла сюды, каб табе сарочкі мыць? К чортавай мацеры з сарочкамі!.. З байструком тваім, які мяне маладую загубіў,—крычала яна.

— От як?

— А што-ж. Людскія нявесткі з гаспадарамі жывуць, а я, як тая салдатка—кінуў і паехаў.

— Не дзе дзенецца—прыедзе.

— Прыедзе... добра табе слініць.

— Дык выбірайся к чорту, не паскудзь хаты!

— Не ты браў, не ты й выганіш.

Ютка вышаў на двор; узапершыся на плот, пазіраў у гародчык. Злосць варушылася ўнутры і па крысе падымалася ўверх. Прайшоў пад вароты ў садок, гэткай-жа вялічыні, як і гародчык—паўзагона ўсяго; пазіраў у канец яго пад навозы, дзе калісці ставіў гумно. Зашчаміла болем нутро пры ўспаміне. Ён кінуў думаць і вярнуўся ў хату.

— Дай сарочку—пайду я.

— За кублам ляжыць.

Выцягнуў Ютка з-за кубла чорную ад бруду сарочку, кінуў сярод сянец і злосна закрычаў:

— Гэта так?—паказваў, узяўшы на пугаўё брудную сарочку.— За гэта я цябе хлебам кармлю, гультая ты кусок?

— Каб я ела твой хлеб, то даўно ўдавілася-б,—не ўстаючы з месца, кідала словамі нявестка.—Сказала мыць не буду, і не буду.

Згарнуўшы сарочку і абкруціўшы яе пугаю, Ютка стукнуў дзвярыма.

— Каб па гэты дзень я тут цябе бачыў!—і пашоў вуліцаю ў канец. Нявестка яшчэ нешта крычала ў хаце, але ён не чуў.

За мастком, каля самае дарогі, суняўся Ютка ля чарады, якую пасвіў Сапрон. Стаялі яны і пазіралі на свіней, якія на гарачыні сланяліся ад мяжы да мяжы. Старыя злосна падкорпвалі лычам надаедліва прыстаўаўшых парасят.

— Дык от бач-жа—нявестка,—скардзіўся Ютка.—І мыць не думаю—сказала. Чорт тваю галаву бяры, сам памыю...—Гультая кусок.

— Гавораць пра яе нядобрае,—пачаў Сапрон.—Па вечарах, браце ты мой, хіхікае з хлопцамі. Ну, ці гэта-ж хараша маладзіцы?

— Вось яно...

— Але-ж. Гэтакі і ён, браце мой, кінуў маладую жонку, а сам паехаў. Куды? Чаго? Тут мала месца? А ўсё дурасць. Цяпер яна і...

Ютка маўчаў. Зразумеў, чаму яна гэтак зразу закапыліла нос. „І ашукаўся, што зразу не прагнаў суку"—падумаў Ютка.

— Маладосць дурная,—цяг скрыпучым голасам Сапрон.

— Усё тут,—сказаў Ютка і пашоў па траве праз дарогу.

II.

Паўстае перад намі жыццё Юткі, скупое на прыгоды, на вясёлыя хвіліны, як гэты зрыты свіннямі і абабіты авечкамі папар на траву. Ажаніўся Ютка з тэй, якую моцна кахаў. Узяў сабе ён Петракову Ганну. Толькі чамусці праз пяць з паловай месяцаў пасля вяселля нарадзіўся ў іх сын. Маўчаў панура Ютка, нічога не казаў Ганне. Яна таксама маўчала і ўкрадкам пазірала на мурлаватага гаспадара—ці не запала што нядобрае ў яго злоснае нутро? Але гэтак цягнулася не доўга. Тыдняў, мусіць, праз два вышла, як на чыстую ваду. Сябры Юткавы віншавалі яго, як вельмі паспешнага чалавека, а за вочы смяяліся да хрыпот і кашлю.

Старыя жанчыны хутка знайшлі канцы такіх скорых радзін у Юткавае Ганны. Цяпер уся вёска гаманіла, што сапраўдным бацькам яе сына з'яўляецца Вульф—панскі агароднік.

Пачалі ўспамінаць, што калі Ютка вадзіў Бенсявы коні на начлег, то Ганна падоўгу бавілася з Вульфам у садзе, каля будкі, што Пячкуровы хлопцы нават былі падслухалі размову і бачылі, як Вульф сваімі чорнымі вусікамі казлытаў Ганніну шчаку.

Полымем шыбанула злосць, аж затрэслася ўсё ў сярэдзіне ў Юткі. Схапіў ён на плоце кавалак вужышча, адрэзанага на пастронкі, намачыў у цэбры і, паваліўшы Ганну сярод хаты, счарніў ёй сцёгны і лыткі. Пасля наматаўшы на руку растрэсеную касу, біў у патыліцу і ў плечы. Крычаць Ганна не крычала, а толькі поўзала ля ног і прасілася.

— Асіроціш Грышку... не забі хаця.

Стукнуўшы яшчэ раз ногцам у бок, Ютка вышаў на двор. Цэлы тыдзень потым не заходзіў у хату. Прымайстраваўся ў сенцах на тапчане і сяк-так праводзіў кароткую летнюю ноч.

Паволі прайшоў першы сорам. Агураў Ютка, абабіўшыся аб людскія языкі. Таксама і сэрца не камень—адышло. Жыў ужо з Ганнаю так, як яно і трэба, але ўсё-ж не тое. Бачыў, што ў глыбіні васільковых яе вачэй таілася нешта чужое. Спачатку злаваўся, а потым на гэта глядзеў так,—абы было ціха.

Праходзіў час. Рос Грышкаваўчанём тым дзікім. А калі пачаў выходзіць на вуліцу да гурту дзяцей, яны сустрэлі яго градам піскलівых галасоў:

— Байструк! Байструк!

Пакаціўся Грышка каля варот, бягучы дамоў; стомлены, ухапіўся рукой за матчын фартух, пазіраў ёй у твар.

— Чаму яны крычаць на мяне—байструк?

— Бо дурні. На дварэ гуляй, сыночак, да іх не хадзі.

Больш нічога яму не сказала; пагладзіла па галоўцы і выправіла гуляць на двор.

Хутка здарылася нешта нечаканае. Паабедаўшы і адыходзячы на работу, Ютка сказаў:

— Прышоў да нас нейкі з горада. Вылез з кустоў, як мы касілі, і казаў, што ўсюды кінулі працаваць па маёнтках. Паляць палацы, расцягваюць ўсё. Мусіць і мы заўтра пакінем працу.

Праз дзень пачалася, як дзед Касач казаў „слабода". Як адзін на працу ў маёнтак не пашлі. Патрабавалі аплаты за працу з самае вясны і павялічэння платы на касьбе і ў жніво. Па вечарах зарніцамі свяціліся стагі, будынкі. Рабілася гэтак не толькі вось тут, а і ўсюды навокал. Знік пан.

З трэскам валіўся панскі лес, у які да гэтага часу і па лом забаранялася ездзіць. У сажалцы наперабой лавілі рыбу, хто таптухай, хто крыгай, а хто проста кашом ад бульбы. Адчынялася „слабода" сапраўды. Хадзілі розныя чуткі аб падзеях ў гарадах; толкам ніхто нічога не ведаў.

Але аднае начы наехала шмат стражнікаў, а з імі з'явіўся і пан. Прышлося адказваць за гэтую „слабоду" не аднаму чалавеку з вёскі. Іх павязалі і пакідалі ў стайню. А потым аддалі на суд. І развіталася шмат старых і хлапцоў з роднаю вёскаю.

Стаяла заплаканая Ганна, праводзіла свайго Ютку з жалем, сціснуўшым сэрца. Што яна цяпер будзе рабіць? Дзе яна дзенецца?

Плакаў і Грышка, нават добра не ведаючы ў чым справа.

Грышку забраў Ганнін бацька—яго дзед. Хоць і там не смак, хоць і там дзетвары, як саранчы, але ўсё-ж...

Ганна ў жніво хадзіла ў заработкі ў маёнтак. Зарабляла няшчасны грош, няшчасную сухую скарыначку, каб хаця падтрымаць гэтакую няшчасную жытку. А гады ішлі. Яны слаліся шэрым аднастайным палотнішчам з калі-не-калі маленькімі пробліскамі святлейшага.

Праз пяць гадоў вярнуўся Ютка. І, здаецца, праз год, а можа крыху і болей, нарадзілася дзяўчынка з гэткімі-ж вачыма, як у Ганны. Але Ганна зразу залягла і болей не ўставала. Чырвоная ўся, з пабялелымі губамі, у апошні раз пазвала Ютку. Закінула яму на шыю абцяжэўшую руку, прыцягнула к сабе блізкаблізка твар яго і, не маргаючы, доўга ўзіралася, нібы пазнавала.

— Ютка... глядзі Грышку...

Пабялелыя губы дрыжэлі. Намагалася яна яшчэ нешта сказаць, ды не здолела.

Праз два дні на руках у цешчы сканала і дзяўчынка.

Астаўся Ютка з Грышкам. Перабіваўся з лебяды на квас. Потым загрымела, загуло, перамяшалася ўсё. Знікалі людзі, вёскі—усё глынала вайна. Хваляй гэтай захапіла і Ютку і кінула на фронт.

Праз гады два ўсё ўлягавалася і Ютка з Грышкам, згубіўшы свой кавалак зямлі, які падабраў пад сябе Бенсь, засталіся ні з чым. Сталі пасвіць вясковую чараду. За цэлае лета цеганіны за чарадою яны зараблялі на зіму і гэтак жылі.

III

Як-жа гэта так?—гаманіў сам з сабою Ютка.—Людзі пакрысе абжываюцца і жывуць, а я? Глыбока запала яму думка—завесці гаспадарку. Калі дзялілі панскую зямлю, то і яму прышлося нешта дзесяцін чатыры. Але чым ты яе абробіш, калі нават лапавухага каняці няма? Дзе зложыш сабранае з гэтай зямліцы, калі і драхлае варывенькі няма? Тут Ютка і парашыў цвёрда-нацвёрда купіць такі-сякі зруб і паставіць хоць невялічкае свае гуменца.

Гэта будзе зроблена ў адзін год. У другі купіць каняня якое. Вось гэтак і акрыяе, стане гаспадаром, і глядзі, што ўжо пуга непатрэбнай будзе.

Пасля доўгай тупаніны Ютка купіў у Бенсяў старэнькую варыўню. Сам Бенсь, візкі, хрыпаты чалавек, хваліў без меры гэтую гніль, водзячы наўкруга Ютку.

— Ты зірні толькі! Кхэ... кхэ... З яе будзе ладнае гуменца,— і пазіраў маленькімі хітрымі вочкамі на Ютку, які нешта тут-жа рахаваў, пазіраючы на старую паабдзіраную страху.

— Дарагавата, суседзе,—казаў Ютка, трымаючыся за паясніцу.

— Што ты—дарага! За яе не гэтулькі вазьму з чужога. Але калі суседу—скінуў.

Бенсь адышоўся і сеў у садзе на лаўцы пад грушай.

„Пастушыдла абдранае! Лепшага ты нідзе не знойдзеш. Табе і гэта ў самы раз",—думаў ён, гладзячы рэдкую сівую бародку.

— Дык як, суседзе?—падышоў Ютка.

— Гэтак і будзе.

— Дарагавата,—пачаў Ютка, але Бенсь яго перабіў:

— Нічога не дарага!—З твару зразу знікла ўхмылка і ён, гледзячы на платы гародчыкаў, працягваў:—А калі табе не пад сілу—як сабе хочаш.

Бенся добра ведаў Ютка і паспяшыўся, каб не ўгнявіць.

— Няхай будзе гэтак.

— Сама лепш,—сказаў, устаючы, Бенсь.—А раскідаць мае хлопцы памогуць.

Вышаў за браму Ютка з лёгкай радасцю ад таго, што гумно ўжо ёсць. Бенсь, праўда злупіў не шкадуючы: дваццаць пудоў жытам і зімою Ютка павінен з Грышкам дапамагчы малаціць.

Сабраўшы ўсё гэта разам, можна было і новае гумно купіць, але Ютка махнуў рукой.

— Дзе маё не гінула.

Увосень варыўня была перавезена на Юткаў пляц, і ў канцы садка быў зложаны зруб. Па людзях кідаўся Ютка, даставаў нехватаўшых ключоў і пруцця, як Бенсь, сустрэўшыся, пачаў яму выгаварваць:

— Я не думаў, што ты такі свінаваты чалавек.

— Чаму?

— А дваццаць пудоў калі аддасі?

— Суседзе, дарагі, на гэтым тыдні збяру і аддам.

Вінаватае з цяжкасцямі прышлося аддаць.

Была звонкая марозная раніца. Асенняя гразь грузакамі змерзлася і зямля, выставіўшы цвёрдую шурпатую грудзіну, прагна чакала снегу. Чырвоным кругам тулілася сонца над лесам, аглядала навакольную пустэчу і цішыню палеткаў.

Перакінуўшы нагу за ключ, Ютка сядзеў верхам і перавіваў— прывязваў пруты да ключоў скручанымі дубцамі вербалозіны. Па гумно прыбег Грышка.

— Тата, Бенсь малаціць заве.

— Сёння часу няма. Скажы, што заўтра прыдзем.

Выгіналася ў руках скручаная распараная вербалозіна.

Ютка спрытна абхопліваў прут з ключом, заваратнем закручваў і падтыкаў хвасты, каб не тырчэлі. Цешыўся Ютка адзінаю думкаю, якая апанавала яго ў апошні час—зрабіцца гаспадаром.

З такою думкаю скончыў пруціць адзін бок, пачаў наключваць і другі.

На змяркanні здарылася тое, чаго Ютка і не сніў. З навозаў да яго гумна пад'ехалі тры падводы і суняліся на прыгуменку. Двое мужчын узлезла на зруб. Адзін перасёк тонкі прут, што каля сволакаў, а потым разам пачалі скідаць перапручанае ключаўё на зямлю.

Ютка якраз ішоў ад калодзезя. Убачыўшы, што сякуць пруты, ён паставіў вядро з вадою, пабег да гумна.

— Што вы робіце?—крыкнуў ён, падбегшы.

— Гультая прывучаем да работы,—адказаў старэйшы сын Бенся.

Ютка схапіў папруціну і кінуўся на самога Бенся.

— Што робіце, пытаюся?!

— Э-э чалавеча, дык ты гэтак?! Злезь, Бонік, ды цярні яму, каб аж юха пацякла.

Бонік саскочыў далоў і, схапіўшы Ютку за плечы, марськануў у бок. Грукнуўся Ютка бокам аб вугал, што аж нешта ў сярэдзіне ёкнула. Выпрастаўшыся, адскочыў у бок ад вугла, увільнуў ад настаўленых рук Боніка, схапіў аскабалак і агрэў яму па патыліцы. Адчуваў у сабе моц Ютка, але калі Бонік насеў на яго сваім цяжарам, прыдушыў да зямлі, стукнуўшы некалькі разоў кулаком па сківіцах, пачуў, што ў плячах нешта моцна

забалела. А стары Бенсь вылузаў пасак з-пад сядзёлка і завязаў яму рукі назад.

— Галапупак! Нешта вельмі гарачы стаў!—соп стары Бенсь.— Пусці, Бонік, хай пакачаецца.

На крык прыбеглі людзі, развязалі Ютку, але здаровыя Бенсевы сыны і зяць расцягвалі зруб і клалі на вазы.

Амецямі аўсянымі шамацяць прусы ў запечку. Аднастайна ціхенька сыплецца іх шэмет і, калі добра прыслухаешся, то забываешся, дзе ты, паволі спускаешся ў ціхі смачны сон. Праз шыбы вакна на зямлю хаты падае мыльная пляма святла месяца, а на страсе хаты суседа іскрыцца дыяментам выпаўшы снег.

Гэтак-жа ціха скрыпае, абвесіўшы мёрзлае галлё, сліва, стоячы у гародчыку. Чутна калі-ні-калі, як скрыпае снег пад нагамі ў прайшоўшага па вуліцы чалавека, або працяжны піск палазоў праехаўшага.

Нічога болей не далятае да Юткавых вушэй. Ляжыць ён ніц на лахманах, пасланых на палу. Ужо от каторы дзень баляць плечы каля лапаткі і бок.

Памаленьку ён пераварочваўся, выбіраў, як лепш легчы і, сцішыўшыся, пралежваў дні і ночы.

Чэзнуў гэтак, качаючыся на палу, аж цэлы тыдзень. Потым па крысе пачаў хадзіць па хаце і вышкрабаўся.

От у гэты момант адчуў сябе Ютка гэтак, як адчувае журавель з перабітым крылом, калі ён не можа ўзняцца, а тут бягуць дзеці і ловяць яго. Планы і меркаванні разляцеліся пухам на ветры-буры. Колькі дапамагаў ён Бенсю, колькі слухаў яго. А ў падзяку за ўсё добрае гэты сусед яго маслам памазаў па ягонай-жа скуры. Гуменца забраў назад, а за адданае жыта звярнуў пазадкамі.

Пакараў суд Бенсю за пабоі, але не залячыў цалкам Юткавай крыўды. І не было ў яго больш упэўненасці, што ён здолее завесці сваю гаспадарку. Узяўся Ютка зноў за пугу.

## IV.

Лета змянялася зімою, зіма—летам. Звінелі дзявочыя песні, перасыпаныя вясёлымі галасамі хлапцоў. Слухаў іх клён, натапырыўшыся, узлёгшы ралінаю на плот.

На гэтых пагулянках моцна пакахаў Грышка Канцавую Алесю. Вочы колеру зацвіўшага лёну і гібкі пружыністы стан яе, мяккія валасы, заплеценыя ў даўгую касу, прыцягвалі да сябе. А голас... Калі толькі ён далятаў да слуха, стукалася сэрца злоўленай птушкай, і аднэй хвіліны без яе быць не мог.

Сёння яны сядзяць воддаль ад гурта на лаўцы, каля пахіленага плота. Блізка прыхіліўся Грышка да Алесі, моцна прыгарнуў яе да сябе.

Горача дыша ёй у твар і высахлымі ад смагі губамі шэпча на вуха:

— Ведаеш даўно, што кахаю. Ну, дык чаго? У суботу ў сваты прыду.

— Што ты, Грышка!

— А чаго?

— Ну як гэта зразу?

— Абрыдла так жыць, Алеся.

Яшчэ бліжэй прыгарнуў да сябе і пазіраў ёй у вочы, якія ледзь блішчэлі у цемры.

— Дык як?

— Пусці! Зараз мяне ў блінец расціснеш.

— Нічога. Але!..

— Нічога я табе не скажу, во!—знячэўку вырвалася з яго рук, падскочыла лёгка і, адбегшыся, стала папраўляць хустку.

— Што? Значыць не хочаш?—пытаў пакрыўджаны Грышка.

— Чалавек—два вухі! Надумаў!—Лёгка схапіла за шыю і ён, мусіць, першы раз, пачуў, як яна глыбока ўздыхнула, што аж скалануліся высокія, тугія грудзі.

— Хадзем у гурт.

— Што мне гурт?

Адышоўшыся крыху, убачыла, што Грышка зноў сеў на лаўцы. Вярнулася.

— Можа румзаць пачаў?—заглянула яму ў твар Алеся.—Бач, дык ты ўжо і засердаваў.

Радзеў змрок. На вуліцы яскрава вырысоўваліся платы гародчыкаў. Тухлі зоры. Прыпёршыся ў весніцах, пазіраў Грышка ўздоўж вуліцы.

— Гэтак і будзе.

— Даражэнькі, крышку пачакай. Ты неяк зразу.

Болей нічога не сказала Алеся. Яна ні-то засаромелася, ні-то зжахнулася раптоўнасцю, але аб сватах і ні блізка. Усё-ж вясёлым вярнуўся Грышка.

А нешта праз зіму перад самаю ўжо вясною згуляў вяселле, перабраў да сябе Алесю з пасагам і ўзяўся старанна за гаспадарку. Ютка пасвіў на засценку ў трох кілометрах ад вёскі.

На другую вясну ўвалілася пошасць—пачалі дохнуць коні. Грышкава пасажаная жарабіца пастаяла дзён два, абвесіўшы вушы, і перакулілася. Плюнуў Грышка на ўсё, сабраўся і паехаў на заработкі. Алеся засталася жыць адна. Абрыдла ёй адзінокае жыццё горш парачае рэдзькі. Хоць і цешыў Грышка ў лістах, што скора прыедзе і забярэ з сабою—не верыла. Прайшло ўжо два гады, а ён усё едзе.

„Пакінуў,—думала яна.—Гэтакі чорнамазы, кучаравы... Пачапілася якая-небудзь стрыжаная, дык і на мяне забыўся“.

Ад гэтага сёння і пасварылася са свёкрам. Вельмі горна стала, а ён яшчэ стаў парадкі свае наводзіць.

Плюхае Ютка ў вадзе, падкасаўшыся па калені. Моцна стукае мокраю бялізнаю па аброслых лытках. Яго і не відаць, толькі плёскат чуваць з-за кустоў, што каля кладкі. На беразе сядзіць падпасак, успёршыся на локаць, пазірае на свіней, што валяюцца ў гразі.

А сонца пячэ.

З-за кустоў, у белых портках і кашулі, з вудамі ў руках выходзіць тутэйшы засцянковы рыбак Берасневіч. На твары відзен камячок вусоў ды барада, а рэшта—чырванаватая пляма з аблушчанай скурай. Моргае ён дробненька, палажыўшы вуды, доўга прыглядаецца, хто там плешчацца ў вадзе і, пазнаўшы, вітаецца.

— Берасневіч, добрае здароўе!—адазваўся Ютка.

— Што гэта робіш?—запытаў Берасневіч тоненькім галаском, пазіраючы на Ютку.

— А от-жа бачыш.

— Я то бачу—анучы мыеш?

— Не дабачваць стаў, трэба акуляры.

— Яно то гэтак.

Берасневіч тут-жа пахваліўся тым, што ў яго ёсць акуляры і вельмі добрыя, але адно шклечка вывалілася, калі на седале лавіў курыцы, і ніяк ён не можа знайсці майстра, які-б падручыўся наладзіць іх. Панюхаў тоўчанае самасадкі, два разы чхнуў, прыгнуўшыся к траве, і паглядзеў на сядзеўшага падпаска.

— Можа сын?

— Ды не,—расцілаючы на траве сарочку, адказаў Ютка.

— Ага. Ну, але сына маеш?

— Ды яго дома няма.

— А дзе ён?

— Быў на Данбасе,—адкасваючы калошы, расказваў Ютка.— А цяперака, надоечы прыслаў ліст, то ўжо пераехаў на завод. Лінградскі... не, не Лінградскі. Як ён завецца... от забыў. Як зваць намесніка Леніна?—звярнуўся да падпаска.—Ты павінен ведаць.

— Сталін.

— Во—Сталін. Сталінградскі завод празываецца. Там, піша, трахтары будуць рабіць скора, во. Збегай, Міця, завярні, а то палезла рыць,—паказаў ён на свінню.—Ніяк не можа паляжаць.

— От як яно.

— Але. Ажаніўся, пажыў год і паехаў у зарабаткі, а жонка мне цяпер быту не дае.

— Ну але...

Берасневіч узяў вуды і дробненька падрабязіў паўз рэчку на дарогу.

Апошняе, што сказаў Сапрон пра Алесю, моцна ўзварушыла Ютку. „Папрашу, каб напісаў аб усім падробна яму. Хай што хоча, тое робіць з ёю; няма чаго сараміць мяне перад людзмі“— думаў Ютка, пазіраючы на падпаска, што мачыў ў рэчцы пугу.

— Міця-а!
— Чаго?
— Сюды хадзі.
Ютка сеў пад куст. Думаў, што напісаць у лісце да сына.

Рыхтаваліся сеяць жыта. Дзве паркі канчалі траіць папарышча. Мужчыны парашылі, што пакуль прыдзе Пруцін, прыараць к гэтаму кавалку канюшынішча некалькі загонаў і на агульным куску сеяць.

Зямля цвёрдая. Пераплялося карэнне канюшыны з пырнікам, хоць зубамі дзяры. Ступае мерна за плугам Васіль. Пройдзе паўзагона, спыніцца аддыхаць. За ім аддыхае парка Алеся. Выцягнуўшы плуг з баразны, Васіль шаруе каменем адвальніцу, ачышчае ад прыстаўшае зямлі. Алесь сядзіць на дышлі плуга, разважае, пазіраючы на палетак.

— Ужо Пруцін мусіць зайшоў. Ты як думаеш?

— Але,—шаруючы, адказвае Васіль.

— Няўжо ў рыку нічога не памогуць?—пытаецца ён у самога сябе, падвязваючы калошу нагавіц.

Памахвае паўднёвы вецер. Растрасае пасмы спацелых валасоў на галаве Васіля, які, стаўшы каленкамі ў раллю, вышароўвае разак.

— Цяпер лягчэй пойдзе,—гаворыць ён, паставіўшы плуг у баразну.—Калі прыаром гэта, колькі будзе? З сем будзе...

— Дзіва што будзе. Глядзі, што і больш...

Ютка падышоў з пугаю да хлопцаў, хацеў, мусіць, і сваё слова ўставіць. Але тым не было часу на гаворку. Васіль зайшоў коням наперад, па-гаспадарску выбраў грывы з-пад хамутоў і, вярнуўшыся, у баразну, узяўся за ручкі плуга.

— Но-о!—махае ён пугаю і паволі ставіць ногі ў сырую зямлю баразны. За Васілёвай, выгінаючы спіны, кранулася і Алесева парка.

Ютка глядзіць хлопцам услед і думкі яго круцяцца ўсё вакол таго самага, што ў апошнія дні не дае яму спакою. Хоць бы гэты і Васіль. Ніколі-ж каня свайго не меў. А цяпер глядзі ты, як з паркаю ўвіхаецца. Не горш за Бенся. Вунь скіба адвярнулася,—спыніўся, засунуў пальцы ў чорную раллю, перавярнуў уніз травою і нагою яшчэ прытаптаў. Нібы і на сваім шнурку. Мусіць-жа чалавек лічыць, што сабе стараецца, а не каму. А Ютку чаго страх бярэ? Лічаныя-ж гаспадаркі засталіся не ў калгасе. Праўду такі, мусіць, сын піша... Не разумее Ютка свае карысці. Яго на дабро вядуць, а ён упіраецца, як тая жывёліна неразумная.

Сонца паволі садзілася за грудок. На далёкім небасхіле ўсходу ніклі хмары. Шэрань змроку садзілася на паплавы і на палеткі.

Паволі ехалі дарогаю, сеўшы на адзін воз, Алесь і Васіль.

Каля млына стрэлі Пруціна.

— Ну, як, Мікола?—саскочыўшы з воза, нецярпліва запытаўся Васіль.

— Усё добра, дапамога ёсць.

Пруцін падсеў на аглобіне, і падводы з грудка паехалі весялей.

Памяшканне школы паўнюсенька людзей. З дзвярэй тарчаць казыркі і вушы шапак, высоўваюцца галовы, стараюцца не прапусціць ніводнага слова.

На твары ў Юткі каплі пота, як гарошыны. Ён аж шапку скінуў і, выцягнуўшы шыю, прыслухоўваецца да роўнага голаса старшыні калгаса Пруціна. За людскімі галавамі часта глухнуць словы і нічога не чуваць. На цыпачкі падымаецца Ютка, прагна ловячы словы.

За сталом сядзіць Мікола Пруцін, узлёгшы на стол доўгім шырокім тулавам і чытае заявы аб прыёме у калгас. Потым звяртаецца да сяброў праўлення і ў адпаведнасці з тэй або іншай агульнай згодай у ражку заявы робіць надпіс і адкладае ў бок. Поруч сядзіць сакратар партыйнай ячэйкі, смуглы, з чорнымі маленькімі вусікамі. Углядаецца ён, прышчурыўшыся ў селяніна, заяву якога чытаюць, часамі нешта гаворыць на вуха Пруціну, а той лёгка ківае галавою і гэтак-жа яму адказвае. Сёння прынялі ў калгас шэсць гаспадароў.

— Вось і ўсё,—зірнуў на сядзеўшых старшыня. Мо′ тут хто хоча падаць, раздумаўшыся, то, от за адным скрыпам разбяром.

Нясмела ўстаў Ютка. Хацеў нешта сказаць, але толькі махнуў рукою. Гэтак засела штосці ў горле, што ні туды, ні сюды. Слова нельга вымавіць.

— Што хоча Ютка?

Утаропіліся вачыма на Ютку. Вельмі цікава, што ён хоча сказаць. Ён трохі адкашляўся і, выпрастаўшыся, стаў у праходзе.

— Хачу, як сказаць, заяву.

— Да стала ідзі! Чаго там стаў?—гукнуў Змітрок.

— Пакажыся, хто ты такі,—з смяшком гаманіў Пятрок.

— І то праўда.

Нехта папхнуў крыху ззаду і Ютка, чапляючыся лапцямі за ногі сядзеўшых, вышаў да стала. Так і цюкнула ўнутры, калі ўбачыў перад сабою гэтулькі людзей. Зусім збянтэжыўся і пачаў выціраць потны лоб кучомкаю.

Аддыхнуўшы крыху, яшчэ бліжэй падышоў да стала.

— Хачу падаць, як сказаць, заяву.

— Але...

— Мацней.

— Што пад нос мармычаш?

З розных куткоў пасыпаліся галасы, але Ютка, не звяртаючы ўвагі на крыкі, гаварыў далей.—Але, як сказаць, пісаць я не ўмею.
Старшыня яго прыпыніў.
— Людзі хочуць, каб ты моцна гаварыў. Там вунь заднім не чуваць.
— Ну, але, можна і гэтак. Я, значыць, кажу, што, як сказаць, хачу заяву падаць. А як усім звесна, пісаць я не ўмею. Дык буду прасіць, каб гэта мяне так.
— Вусную заяву разабраць,—дапамог яму Змітрок, які сядзеў на першай лаўцы.
— Але, умсцвенна, як Змітрок кажа.
— Не умсцвенна, а заяву тваю вусную разабраць,—паправіў Максім каператыўшчык.
— Сераўно... толькі, як сказаць, я хачу ў калгас.
— Ага, добра,—сказаў Пруцін.
Ютка тым часам, крыху ўжо набраўшыся духу, гаварыў далей.
— Усім звесна, хто я такі. Калі я хацеў гаспадарыць, з мяне нічога не вышла. Стузалі мяне, як звесна, Бенсі. А я яшчэ ў пятым годзе стаяў за большэвізму, як сказаць; яшчэ тады стражнікі з мяне спускалі шкуру, падрывалі мае жылле, а за што? За большэвізму стаяў. Значыцца, пяць год на катарзе аддзяжурыў, цюцілька ў цюцільку. Ага. А пасля от з пугаю зарабляў кусок хлеба. Вядома, як піша ў газеце, што такому гаспадару, як мне, толькі і месца ў калгасе. Гэтак сказаў Сталін, а ў яго заводзе мой сын працуе, калі хочаце ведаць, от. Гэта ото ўся мая заява. Але.
— Ты ўсёроўна, як аратар,—падбадзёрваў яго Пятрок.
— Усё выказаў. Такі-то разгаварыўся,—гутарылі мужчыны на другім раду.
— Годзе ўжо, сядзь,—пацягнуў Ютку за рукаў Змітрок.—Ужо заявіў.
— Дык як, значыцца?—Дапыткоўваўся Ютка.
— Сядзь, пасядзі.
Ютка прысеў каля Змітрака і чакаў, што вырашыць праўленне.
— Прыняць.
Гэта адно слова і пачуў Ютка, што сказаў сакратар партячэйкі. У гэты вечар ён больш не чуў нічога. Нейкая набачная сіла падхапіла Ютку пасля паседжання праўлення і лёгка паперла перад сабою па вуліцы. Нячутна ішлі ногі. Радасць у ім аж цераз край пералівалася, калі ён суняўся каля сваіх варот. Хоць і быў снег пад нагамі, але адчуў Ютка цвёрдую выбітую сцежку да жыцця.

Сёння Ютка вельмі жвавы, чаго даўно з ім не было. Хутка апрануў той кажух без каўняра, узяў дубовую крывульку і пашоў пад школу.
На вуліцы напаткаў Сапрона.

— Куды разагнаўся?

Разгладзіўшы далонню вусы, толькі і сказаў Сапрону, махнуўшы рукой у другі канец вёскі:

— Пайду.

Не даходзячы школы, на выгане сустрэў мужчын. Па перадзе, з рыжаю справаю пад пахаю, шырока ставячы ногі, ішоў старшыня сельсовета Мунька. Ён усміхнуўся Ютку, які сышоў са сцежкі у снег, глыбей засунуў рукі ў кішэні і, мусіць, нешта сказаў пра яго новаму сакратару партыйнай ячэйкі. Той азірнуўся, нешта адказаў Муньку. За імі ішло тры чалавекі вяскоўцаў.

Ззаду ішоў Змітрок. Шырокі ў плячах, нават крышку згорблены ад таго, што холадна на дварэ. Кіўнуўшы галавою, ён падміргнуў Ютку:

— Заварочвай аглоблі. Бенсяў пойдзем кулачыць. Сукіным сынам крэст паставім.

Ютка драбязіў поруч з Змітром, гамонячы з ім пра калгасныя справы.

На вуліцы то там, то сям з'яўляліся людзі. Калі брыгада апынулася каля Бенсавай брамы, лёгка скрыпаючы лапцямі па снягу, падышоў Сапрон да Мікіты.

— Ютка пашоў варыўню забіраць ад Бенся. Глядзі, онё.

Стары ўзіраўся ў канец, калі мужчыны зайшлі ў двор, і мабыць, нічога не бачыў.

Пакуль усе увайшлі, праз адчыненыя дзверы, клубамі кувыляючыся па падлозе да самае печы, у хату цякло марознае паветра. Старая Бенсіха сядзела ў запечку, калыхала дзіця.

— Дзверы зачыняйце! Не бачыце?—Дзіця прастудзіцца—бяззубымі сківіцамі прашамкала старая.

— А дзе гаспадары?—кладучы справу на стол, сказаў Мунька.

Спужаўшыся увайшоўшых, шарахнулася ў бок цыбатым і нагамі цялё, разліўшы малако, якім паіла яго Бонікава жонка.

— Зараз прыдуць,—сказала яна, устаючы з калодачкі. Стаяла, апусціўшы рукі, не ведаючы, за што ўзяцца.

— Мы можам і абчакаць,—сказаў Змітрок, мерачыся сесці ў крэсла з выгінастымі більцамі спінкі.—А ты, Ютка, ідзі закуры.

— От і гаспадар,—сказаў Мунька, убачыўшы увайшоўшага Бенся.—Хадзі бліжэй да стала.

Бенсь узапёрся пасінелымі рукамі на ўскрай стала, пазіраў на Муньку, які гаварыў, чаго і па што прышлі.

— Зразумела?—запытаўся Мунька.—Зараз дайце ключы, якія у вас ёсць.

Стары, згорбіўшыся, пашоў у другую палавіну. Неўзабаве адтуль вышаў, расчырванелы ўвесь, Бонік.

У дзвярах стаяў збянтэжаны стары Бенсь.

— Не дам ключоў, на гэта права не маеце,—з слінаю вылецела ў Боніка.

— Ці праўда?—устаючы з крэсла паправіў на галаве шапку Змітрок.

— Газеты пішуць што? Культурная гаспадарка, а яны кулака знайшлі.

— Ты па культурнаму і варыўню ў Юткі адабраў,—ні за што збіўшы чалавека? Пасядзеў два гады, мусіць мала яшчэ?—перад самым носам у Боніка трос Змітрок аброслым кулаком.—Гэта табе, маць...

— Змітрок, пачакай.

Бонік у прыскрынку шукаў газеты, але Мунька супыніў яго і сказаў, што гэтак было два гады назад, а не цяпер.

— Што тут гаварыць! Звязаць гада, калі брыкаецца—высунуўся Змітрок.

— Добра кажа, але,—гаманіў каля стала Ютка.—А парабак дзе? Нешта не відаць.

— Дзе парабак?—пад самае вуха запытаў Змітрок у Бенся.

— Учора дамоў пашоў.

— Прагнаў ужо?

— Не, сам пашоў.

Занатурыўся Бонік і ключоў ніяк не даваў. Тросся ад злосці, адгырkваючыся, стаяў каля стала, як воўк, запёрты ў куток. Але пранырлівае вока Пятра, што дагэтуль сядзеў, нічога не кажучы, заўважыла ключы на гратаўцы. Пакуль там гамапілі, ён, п'ючы ваду ў мыцельніку, сцяг ключы ў кішэнь, захіліў полы казінага паўкажушка і сеў каля стала.

— У мяне ключы, брат ты мой,—і перадаў звязак ключоў Муньку.

Бонік, здаецца, памкнуўся быў, каб схапіць ключы, але Змітрок адпіхнуў яго.

— Супакойся!

Той спахмурнеў і, нічога не сказаўшы, вышаў у другую палавіну.

Пачалі апісваць маёмасць. Частка брыгады пашла у клець і хлявы, частка засталася ў сенцах.

— Зараз і самі збірайцеся,—увайшоўшы ў хату, сказаў Мунька.

Змітрок гукнуў Пятра і яны зайшлі ў другую палавіну.

Бенсь паволі збіраўся; сеўшы на заслончык каля печы нешта шаптаў увесь час. Бонікава жонка дрыгала нагамі, кінуўшыся тварам у падушкі. Старая залезла на печ, поўзала па чарэні і ўвесь час божкала. Бонік спачатку гразіў, а потым стаў лаяцца.

— Перастань, а то я магу зараз заваліць, калі раскудахтаўся!—гаманіў Змітрок, аглядаючы грамафон.

— Што ты гаворыш з імі гэта-ж...—і не скончыў пачатага Бенсь, крэкчучы пяўся ўсцягнуць бот.

Змітрок разглядаў шырокія лапушыстыя лісты вазонаў.

— Як сераўно ў Афрыцы, ці дзе гэта?—пытаў, паказваючы Пятру. Потым хадзіў па хаце і пацíраў рукі.

— Што вы збіраецеся, як па сена? На кірмаш вас павязом, не іначай...—не пераставаў Змітрок.

Аформіўшы справу, як належыць, Мунька вышаў на ганак. Пад'ехала падвода.

Спакойна сеў на воз стары, за ім Бонік з пабялелым тварам і старая...

Нявестка не слухала ўгавору, крычала на ўсю хату.

...Пятрок замкнуў хату, зачыніў вароты і астаўся тут на вуліцы ў гурце. Мунька з Васілём паехалі к зяцю Бэнся на хутар.

— Варыўню паказваць вязеш?—падміргнуў Сапрон Ютку.

— Ага,—адказаў той і ўкуліўся у развалкі апошняй падводы праводзіць іх да сельсовета.

М-ка Лапічы, Асіпавіцкі раён.

7/X—33 г.

М. МОДЭЛЬ

# НА ТВОРЧЫХ ШЛЯХАХ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ЯЎРЭЙСКАГА ТЭАТРА

(„Ботвін“—„Авечая крыніца“ „Рэкрут“)

Творчы шлях Дзяржаўнага Яўрэйскага тэатра БССР з'яўляецца складаным шляхам у справе мабілізацыі сцэнічнага мастацтва на вырашэнне задач социялістычнага будаўніцтва і інтэрнацыянальнага выхавання шырокіх мас. Гэты шлях ён прайшоў у напруджанай барацьбе за стварэнне арыгінальнага совецкага рэпертуара высокай ідэёва-мастацкай якасці, за інтэрпрэтацыю лепшых узораў союзнае совецкае драматургіі (рускай і украінскай), за крытычнае асваенне класічнае спадчыны.

Аглядаючы рэпертуар тэатра за дванаццаць год яго існавання, мы павінны канстатаваць наступнае. Працуючы ў якасці студыі ў Маскве, ён захапіўся выключна яўрэйскай і эўрапейскай класікай, падпарадкаваўшы (у той час) пастаноўку класікі выключна задачам сцэнічнай вучобы, без належнага крытычнага яе асваення. Тэатр (у мастацкіх вобразах) не паказаў гаспадарчага і культурнага будаўніцтва Совецкай краіны, міжнароднага рэволюцыйнага руху, чаго чакала ад яго пролетарская грамадскасць.

Аднак, распачатая ім у Маскве работа па арганізацыі уласнай совецкай драматургіі хутка дала свае плённыя вынікі. Тэатр пачынае ставіць шэраг арыгінальных, актуальных п'ес (як „Ботвін“, „Гірш Лекерт“, „Барацьба машын“ і інш.) і, працуючы ўжо ў Менску ў якасці дзяржаўнага тэатра, ён паляпшае мастацкае абслугоўванне шырокіх пролетарскіх мас. У гэтых работах тэатр робіць шэраг ідэёва-мастацкіх зрываў (элементы ідэалізацыі Бунда ў „Лекерце“, нацыяналістычна-містычныя элементы ў музычным і мастацка-пластычным малюнку „Глухога“, дробна-буржуазная трактоўка праблем социялістычнага будаўніцтва з рэцыдывамі нацыяналізма і натуралізма ў „Барацьбе машын“ і „Патомстве“, памылкі ідэалістычнага парадка і хадульная рамантыка ў „Ботвіне“).

Тэатр паглыбіў у сваёй пастаноўцы памылкі „Стрэла“ Безыменскага, давёўшы яго маскі і схематызм да найвялікшых межаў,

стаўшы нават на шлях тэарытычнага абгрунтавання прынцыпаў мастацкай плакатнасці у сцэнічным мастацтве. Тэатрам зроблена буйная палітычная памылка, якая выявілася ў зняцці з рэпертуара адзінага спектакля на індустрыяльную тэму „Паэма аб тапары“ Пагодзіна, з прычыны фармалістычнай канструкцыі мастака Тышлера, замест таго, каб пераформіць спектакль.

За апошнія 3-4 гады тэатр перажыў шэраг цяжкасцяй і супярэчнасцяй на сваім творчым шляху, пры агульным далейшым творчым росце. Разам з пастаноўкай п‘ес, у асноўным прыймальных па сваёй ідэёва-мастацкай трактоўцы, як „Замежная калегія“ Славіна, „На 62-м участку“ Дабрушына,—тэатр ставіць „Партызаны“ Аронеса (кампіляцыйны, анты-мастацкі спектакль), „Джым Куперкоп“ Годынера (з фармалістычнымі, буржуазнаэстэцкімі рэцыдывамі) і „Віндзорскія свавольніцы“ Шэкспіра (у рэжысёрскай інтэрпрэтацыі Федарава, спектакль які сваёй творчай практыкай—біямэханікай, замест раскрыцця поўнакроўных вобразаў, паклёпнічае на марксава вучэнне аб шэкспірызацыі).

Але пастаноўкай „Рэкрут“ Рэзніка—Аксенфельда тэатр зноў уздымаецца ў сваім творчым росце, стварыўшы значны па свайму мастацка-ідэёваму узроўню спектакль, на тэму аб класавай барацьбе ў яўрэйскім мястэчку ў мінулым стагоддзі.

У гэтым артыкуле мы спынімся толькі на разглядзе некаторых спектакляў Дзяржаўнага Яўрэйскага тэатра БССР, характарызуючых творчую дзейнасць тэатра.

***

Першым у серыі арыгінальных работ Яўрэйскага Дзяржаўнага тэатра БССР у Менску быў „Ботвін“ Вэв‘юрка (пастаноўшчык Рафальскі, мастак А. Тышлер), сюжэт якога пабудаваны на гістарычным факце—забойстве польскім комсомольцам Нафтолі Ботвіным правакатара Цахноўскага, за што Ботвін быў пакараны смерцю.

Рост рэволюцыйнага руху ў фашыстоўскай Польшчы знайшоў вобразнае адлюстраванне ў рабоце драматурга Вэв‘юрка і пастаноўшчыка Рафальскага, якія стварылі спектакль у стылі рэволюцыйнай рамантыкі. Дадатнымі вартасцямі п‘есы з‘яўляюцца разгорнуты паказ класавай барацьбы ў Польшчы, паказ барацьбы компартыі Польшчы з ППС і яўрэйскімі нацыяналістычнымі партыямі і мастацкая поўнакроўнасць паасобных станоўчых вобразаў п‘есы.

У гэтым спектаклі правільна вырашана задача раскрыцця агіднага твару дзеячоў ахранкі. У гэтым плане створан шэраг высокамастацкіх сцэнак і вобразаў (сцэнкі ў дэфензыве, вобраз П‘янткоўскага і інш.). Гістарычна-праўдзіва, з некаторай рамантычнай прыўзнятасцю, паказаны падпольныя большэвікі—Вальцэр і Ботвін. На высокім ідэёва-мастацкім узроўні знаходзяцца ў спектаклі масавыя сцэны, дадатнай вартасцю якіх з'яўляецца

сцэнічная індывідуалізацыя амаль кожнага ўдзельніка масовак. Пастаноўшчык тав. Рафальскі ў шэрагу месц здолеў пера-магчы знадворную патэтыку, якую стварае белы верш драма-тычнага твора.

У інтрызе п'есы ёсць некаторыя элементы прыгодніцкага, дэтэктыўнага парадка, якія зніжаюць ідэёва-мастацкі ўзровень спектакля. Палітычна-няверным з'яўляецца ўдзел комуніста-пад-польшчыка, правадыра Вальцэра ў тэрорыстычным акце буду-чага правакатара Цэхноўскага, супроць гарадскога галавы, таму што комуністычная партыя— вораг індывідуальнага тэрора і ад-маўляе яго як метад класавай барацьбы. Непраўдападобнай і фармалістычнай з'яўляецца сцэнка распранання ксяндза і началь-ніка дэфензівы П'янткоўскага на вуліцы пад абстрэлам чырво-ных войск. Аўтар, не дрэнна разгарнуўшы паказ дэфэнзівы, не-дааценіў і не паказаў поўнага вобраза капіталіста. Фабрыкант Рудак паказан толькі эпізадычнай фігурай.

Разлажэнне буржуазіі ў „Ботвіне" паказана трафарэтна і спро-шчана. У першым акце паказаны факстратуючыя, багемствуючыя „цыліндры" з прастытуткамі на вуліцах Львова. Гэтыя-ж буржу-азныя маладыя людзі і дамы ў трэцім акце працягваюць „разла-жэнне" у кафэ-шантане.

Цэхноўскі—галоўная фігура „Ботвіна", які перарастае па-ходу п'есы ў здрадніка і правакатара і прызначаецца начальні-кам ахраннага аддзялення, пададзены ў паглыблена „псіхаложа-скім" плане. П'яны Цэхноўскі ў кафэ раптоўна выказвае наступ-ную тыраду: „Я іхны, я належу ім" (рабочым—М.М.), „выкры-ваючы" сябе, як ахранніка. Тут ён выклікае да сябе назат пэў-ныя сімпатыі аўдыторыі (замест пагарды), што з'яўляецца вынікам прыгодніцка-біялагічнай трактоўкі вобраза. Ёсць няпра-вільныя палажэнні і ў натуралістычнай сцэнцы „1-га мая" ў „Ботвіне". У гэтай сцэнцы праглядае яўная недаацэнка палі-цыі. Папаўшы на першамайскую вечарынку, паліцэйскі спрабуе арыштаваць крамольнікаў. Але досыць вынаходліваму Ботвіну зрабіць заяву, што гэта „Тноім" (заручыны), як паліцэйскі „паверыў" і сам бярэ актыўны удзел у гэтай „урачыстасці".

Паказ паліцэйскага (у павярхоўна-гратэсковым плане) зніжае соцыяльна-псіхалагічны малюнак вобраза. Памылкова ў спек-таклі трактован прадстаўнік яўрэйскай нацыяналістычнай партыі „поалей сіяністаў", у „надкласавым", гратэсковым плане, як дэфек-тыўны. „Не балбачы, ідыёт",—зварачаецца да яго адна з работніц. Такая трактоўка вядзе аб'ектыўна да недаацэнкі соцыял-фашызма і яго разнавіднасці „поалей-сіянізма", як буржуазнай агентуры ў шэрагах рабочага класа. Палітычна памылковым з'яўляецца адсутнасць паказа контррэволюцыйнай ролі ППС, бунда, якія мелі і маюць яшчэ значны ўплыў на адсталыя рабочыя масы ў Польшчы.

Гэтыя недахопы ні ў якай ступені не зніжаюць значэння „Ботвіна" для роста тэатра, у справе перамагання нацыяналістыч. ных буржуазна - фармалістычных зрываў студзеньскага перыяда

Афармленне „Ботвіна“ мастаком Тышлерам ніжэй агульнага мастацкага ўзроўню спектакля. Рэчавая сімволіка, якая ўжыта мастаком у раскрыцці першага акта, не адлюстроўвае супярэчнасці вуліцы капіталістычнага горада і хварэе фармалізмам і самадаўлеючым эстэцтвам. Другі акт мастаком амаль зусім пазбаўлены афармлення. У такім-жа становішчы трэці акт. Выключэннем з'яўляецца чацверты акт, дэкарацыя якога—пахмуры і чорны калодзеж турэмнага двара з цмяна асветленымі, жоўтымі чатырохкантовымі кратамі...—дапамагае раскрыццю ідэі п'есы і стварае мастацкі фон для драматычных калізій, якія разгортваюцца ў гэтым акце, што заканчваецца растрэлам Ботвіна.

Музычнае афармленне спектакля, пачынаючы з другога акта, і музычныя антракты кампазітара Панізоўскага, які ў музыцы адлюстроўвае две тэмы—нарастаючую рэвалюцыю і „разлажэнне“ буржуазіі,—узмацняюць ідэёва-пачуццёвае ўздзейнічанне спектакля на гледача.

Спектакль „Ботвін“ сустрэў вельмі цёплыя водгукі з боку пролетарскай грамадскасці і крытыкі БССР, УССР, Масквы і Ленінграда. Ацэньваючы пастаноўку „Ботвін“ у Маскве, „Комсомольская правда“ пісала: „Спектакль агітуе, заражае гледача, паказвае жывую старонку барацьбы“. „Вечерняя Москва“ пісала: „Ботвін“... моцны рэволюцыйны спектакль“. Тэатральны крытык Круці ў „Известиях ЦИК СССР“ пісаў: „Сярод нешматлікіх на совецкім тэатры п'ес, якія прысвечаны міжнароднаму рэволюцыйнаму руху, „Ботвіну“ належыць бясспрэчна адно з першых месц“. „Агульнае ўражанне ад спектакля яркае, бадзёрае і моцнае“.

Крытыка адзначыла велізарную работу тэатра над пастаноўкай. Ісідар Клейнер у артыкуле ў часопісі „Советский театр“ (1930 г.) адзначаў: „Усе выканаўцы складаюць стройны ансамбль, у чым сказалася арганізуючая роля пастаноўшчыка спектакля Рафальскага“. Спектакль быў таксама і этапным і для творчага росту акторскіх кадраў, у прыватнасці: тт. Моіна (роль Ботвіна), Рудштэйна (роль Цахноўскага), Норда (роль Вальцэра) і інш.

* * *

Будуючы студыйны рэпертуар выключна на яўрэйскай і сусветнай класіцы, у мэтах вучобы, як гэта тлумачыў кіраўнік тэатра М. Ф. Рафальскі, тэатр на працягу 1926—33 г. толькі два разы зварачваецца да класікі—у адным выпадку да Лопэ-дэ-Вэга (1927 г.) і ў другім выпадку—зноў да Шэкспіра (1932 г.)

„Авечая крыніца“ Лопэ-дэ-Вэга, пастаўленая рэжысерам тэатра М. Л. Літвінавым у 1927 годзе, з'яўляецца першай работай тэатра пасля яго рэарганізацыі са студыі і першай самастойнай работай маладога рэжысера, выхаванца студыі, які ў якасці лабаранта працаваў сумесна з В. Г. Сахноўскім пры пастаноўцы „Венецыянскага купца“ Шэкспіра.

Лопэ-дэ-Вэга—аўтар „Фуэнтэ авэхуна"—з'яўляецца выдатнейшым драматургам Іспаніі эпохі „залатога века" (ён жыў з 1562 г. па 1635 г).

Сюжэтам для сваіх п'ес Лопэ-дэ-Вэга абіраў гісторыі, у якіх у цэнтры знаходзіцца справа гонару і адважныя ўчынкі. Гэтыя учынкі накіроўваюцца галоўным чынам на служэнне царкве і каралю, у вобразе якіх як-бы канцэнтруецца веліч Іспаніі.

Больш характэрным для іспанскай трагедыі з'яўляецца момант інтрыгі, чымся паказ індывідуальных рысаў дзейнай асобы.

Сюжэтнай воссю драматурга Лопэ-дэ-Вэга з'яўляецца ў пераважнай большасці выпадкаў гісторыя кахання, на аснове якой драматургу ўдаецца паказаць барацьбу і дасягненне героя. Соцыяльная прырода іспанскай драматургіі эпохі „залатога века", у прыватнасці творчасці Лопэ-дэ-Вэга раскрываецца ў вобразе дробнага двараніна—Гідальго, апоры абсалютызма. Характэрнымі рысамі Гідальго з'яўляюцца—культ гонару, фанатызм і адданасць дваранству. Вобразы Гідальго найбольш удалыя ў драматургіі Лопэ-дэ-Вэга. Ідэалізуючы Гідальго, іх этычныя устоі, Лопэ-дэ-Вэга сцвярджае непахіснасць абсалютызма і інквізіцыі, прыхільнікам якіх ён быў.

П'есы Лопэ-дэ-Вэга, у якіх галоўнай дзейнай асобай было сялянства, мелі сваёй мэтай дэманстрацыю адзінства паміж народам і каронай. Найлепшым узорам такога рода п'ес з'яўляецца „Фуэнтэ овэхуна" і „Лепшы суддзя—кароль".

„Авечая крыніца"—„Фуэнтэ овэхуна" паказвае вёску Іспаніі эпохі „залатога века". Сюжэт п'есы—„інтрыгі інквізіцыі супроць каралёў, барацьба буйных феадалаў супроць каралёў, выгнанне яўрэяў з Іспаніі, барацьба каралёў з інквізіцыяй, самае галоўнае—сумны лёс сялянства, аддадзенага на абрабаванне буйным феадалам і іх войскам".

На фоне кастроў „святой інквізіцыі" і каралеўскіх інтрыг разгортваецца гераічная гісторыя паўстання ў вёсцы „Авечая крыніца" супроць яе ўладара, забойства вёскай гэтага феадала і помста інквізіцыі паўстаўшаму сялянству.

П'еса была значна літаратурна апрацавана драматургам Кушняровым і рэжысерам Літвінавым за лік знішчэння элементаў ідэалізацыі кароны, а пазней былі зусім выкінуты так званыя „каралеўскія сцэны". Значна завостраны і разгорнуты масавыя, сялянскія сцэны. Перамантыраван шэраг асобных сцэнак (сцэнкі інквізіцыі і інш.). Пасля пераапрацоўкі тэатрам п'есы, яе сюжэт перабудован наступным чынам. У „Авечай крыніцы" разгортваецца канфлікт паміж камандорам і сялянамі на глебе ўціска камандорам сялянства, нават і ў быту. Вёска паўстае супроць камандора Фэрнангомеса, здзекі якога робяцца невыцерпнымі, і забівае яго.

Інквізіцыя пасылае сваіх камісараў на чале з Тарквэмадо для помсты сялянам, якія ўсе ідуць на вогнішча, але не выдаюць забойцу.

„Авечая крыніца“—лепшая з п‘ес Лопэ-дэ-Вэга, згодна азначэння А. В. Луначарскага з‘яўляецца сапраўды рэволюцыйнай, нават, у нашым разуменні п‘есы“.

Пастаноўка „Авечая крыніца“ азначала сапраўды новы этап у рабоце тэатра ў сэнсе новага крытычнага падыхода да засваення класічнай спадчыны, у сэнсе ідэёва-творчага росту і большага набліжэння да актуальных задач сучаснасці. І зусім заслужана тав. Аршанскі пісаў: што „Авечая крыніца“ першая пастаноўка, якая сцвярджае новы шлях маладога тэатра. Тэатр сябе знайшоў, тэатр намацаў пульс яўрэйскай рабочай масы“ [1]).

„Авечая крыніца“ пастаўлена тав. Літвінавым, як драматычны спектакль на музыцы. На гэтай рабоце тав. Літвінаў выявіў сябе буйным майстрам сцэны, стварыўшы гістарычна праўдзівы, рэалістычны, маляўнічы і жыццярадасны спектакль, у якім праз „паражэнне відаць будучая перамога“ прыгнечаных над прыгнятацелямі. Пастаноўшчык разгарнуў вельмі каларытныя, маляўнічыя сцэны малацьбы залацістых снапоў хлеба, тэмпераментную, дынамічную сцэнку вяселля, маляўнічы карнавал масак. Моцна паказана жудасць інквізіцыі, але з некаторым містычным афармленнем адзення і святла. З вялікай эмацыянальнай насычанасцю і драматычнай напружанасцю паказаны такія кульмінацыйныя сцэнкі, як раптоўны абрыў вяселля з прычыны прыхода камандора для расправы, трывогай, якая асабліва таленавіта выражана кампазітарам Крукавым раптоўным пераключэннем музыкі з дынамічна-вясёлай, маляўнічай і жыццярадаснай на жудаснажахлівую, трывожную тэму.

З вялікім напружаннем праходзіць маналог Лаўрэнсіі (акт. Арончык), калі яна заклікае да паўстання супроць камандора. Доўгая паўза пад вогнена ўдараючымі словамі Лаўрэнсіі раптоўна перарываецца агульным абурэннем усёй масы.

Ужо першая сцэнка, якая малюе раніцу ў гішпанскай вёсцы, дзе сакавіты пейзаж разгортваецца на фоне таленавітай музыкі Крукава з гішпанскіх народных спеваў, стварае ў гледачоў прыўзняты бадзёры настрой.

У масавых сцэнах, якія пераважаюць у спектаклі, поруч з скульптурнасцю і чоткасцю мізанцэн, тав. Літвінаву ўдалося насыціць іх эмацыянальнасцю, буйным тэмпераментам і дынамікай. Асабліва моцнае ўражанне стварае бой на рапірах і эспадронах.

У рабоце тав. Літвінава вялікую дапамогу аказалі кампазітар Крукаў, харэограф Вульф і мастак Тышлер. Вельмі каларытная, тэмпераментная музыка Крукава, якая ўзмацняе эмацыянальныя элементы спектакля, з‘яўляецца майстэрскай апрацоўкай гішпанскіх народных спеваў і танцаў. Самыя моцныя сцэнкі спектакля ідуць па музыцы.

---

[1]) Газета „Акцябр“ за 13/VII 1927 г. „На новы шлях“

Вельмі цікавыя дэкарацыі і гарнітуры мастака Тышлера. Вёска ў гарах паказана ў двух'яруснай саламянай дэкарацыі, якая ідзе ўверх з „верхняй сцэнай". Яна ўвасабляе ўнутранасць саламянага кошыка, які выяўляе сельскі каларыт і мае значныя тэатральныя вартасці для распланіроўкі мізансцэн рэжысурай. Гістарычныя і вельмі маляўнічыя гарнітуры.

Пабудова танцаў на фізкультурна-пластычнай аснове з'яўляецца дадатнай вартасцю работы харэографа Вульф.

У трактоўцы вобразаў гішпанскага сярэднявечча рэжысура не выходзіла з прынцыпаў натуралістычнага фатаграфавання сярэдневяковага тыпажа, а шукала тыповае для эпохі. Рэжысура шукала сугучнае ў гэтых вобразах з сучаснай сапраўднасцю, набліжаючыся да рэалістычнага стыля ў інтэрпрэтацыі драмы Лопэ-дэ-Вэга.

Некаторыя асацыяцыі, якія выклікае спектакль з буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1905 г. у нас, з'яўляюцца законамерным вынікам крытычнай апрацоўкі п'есы.

* * *

Спектакль „Рэкрут" Рэзніка—Аксенфэльда, пастаўлены тав. Рафальскім у лістападзе 1933 года, спрабуе раскрыць у складаных драматычных калізіях, праз поўнакроўныя сцэнічныя характары класавую барацьбу ў яўрэйскім мястэчку саракавых гадоў мінулага стагоддзя, у прыватнасці класавую барацьбу навакол выканання яўрэйскім насельніцтвам рэкруцкай павіннасці.

Перад гледачом разгортваецца ланцуг высока-мастацкіх сцэнічных сітуацый. З'яўленне Хаіма і сімвалічны яго выкрык: „Рэкруты!", падхоплены жудасна трывожнай тэмай і барабанным шратам аркестра, ускалыхнулі і насталожылі усе социяльныя пласты мястэчка па-рознаму: працоўных у імкненні абаравіцца ад цяжкай пакутнай службы крывасмокам і прыгняталънікам, а клерыкалаў і „прасвяціцеляў"—у імкненні давесці цару Мікалаю 1-му, празванаму Палкіным, здачай у рэкруты найбольш бунтуючай, неспакойнай часткі яўрэйскай працоўнай „халястры" якая складалася з краўцоў, шаўцоў, мяснікоў і г. д.,—давесці гэтым свой ура-патрыятызм, інтэрнацыянальныя інтарэсы эксплаататараў усіх нацый.

Спектакль зрывае маску знешняй „святасці" з галоўнага клерыкала—цадзіка-кіраўніка сярэднявяковай рэлігійнай абшчыны кагала, а праз яго вобраз выкрывае ўсю фальш і сярэднявяковую дзікасць і затхласць „хасідызма"—гэтай самай рэакцыйнай рэлігійнай плыні.

Рэалістычнымі, а ў паасобных месцах крыху гратэсковымі сцэнічнымі прыёмамі і фарбамі спектакль узрывае „надкласавасць" рэлігіі і яе служак, паказваючы як недаступны да бядняцкага натоўпа зневажаючы яго, панскі „цадык", заўжды гатовы служыць „сільным мира сего": багатаму млынару Шлоймэ

і лесапрамыслоўцу Ісроэлю, абяцаючы аднаму мароз, а другому цяпло, абы вíннае сутарэнне „цадзіка“ не было пустым і ганарар быў-бы дастатковым для яго паразітычнага жыцця.

Тав. Рафальскі, як тонкі майстра сцэны, злосна здзекваецца над „цадзікам“ і з дапамогай пэўных сцэнічных кампазіцый— у плане ледзь прыкметнага гратэска—„знішчае“ яго. У найбольш адказны момант малітвы благаслаўлення „цадзікам“ купцоў Шлоймэ і Ісроэля—слуга, „цадзіка“ Цале пачынае гучна пазяхаць, а Ісроэль смаркаецца, што выклікае заслужаны смех ва ўсёй аўдыторыі. Пры спатканні з прыгожай Рохэлэ—дачкой Цале зноў выкрываецца ўся нікчэмнасць апранутага ў „святую“ сутану „цадзіка“, сексуальна-эратычныя намаганні якога падпарадкуюць сабе ўсю яго „святую“ дзейнасць.

У спектаклі разгортваецца мастацкі паказ пакутнага жыцця бядняцкай „халястры“, якая складаецца з рабочых і падмайстраў—краўцоў, шаўцоў, мяснікоў і г. д. Спектакль ускрывае нарастанне стыхійна-бунтарскіх настрояў сярод гэтай прыдушанай ботам урадніка масы, прыгнечанай клерыкаламі і буржуазіяй, тых настрояў, якія вядуць іх да змагання за абарону сваіх кроўных інтарэсаў, што злучае іх з беглым рэкрутам Васілём, які апавядае пра „чырвоных пеўняў“ над панскімі маёнткамі, і з прыгонным пана Нябыліцкага.

У спектаклі ярка паказана соцыяльная дыферэнцыяцыя мястэчка, выкрыта рэакцыйная сутнасць яўрэйскай, клерыкальнай абшчыны (сцэнка сінагогі) і ўся жудасць і дзікі ізуверскі фанатызм рэлігіі, хасідызма, які душыў і скоўваў усё жывое ў чалавеку (пятая сцэнка).

Майстэрскі выкрыты эксплаататарскі, рэакцыйны твар яўрэйскага прасвяцімельства ў вобразе Арн-Клугера, які выкарыстоўвае самыя агідныя, брудныя сродкі, нават каханне правадыра „халястры“ рабочага Нахмана да дачкі мястэчковага багацея—да Фрумэлэ, каб здаць гэтага бунтара ў рэкруты.

Ідэёвы патрыёт ваенна-бюракратычнага рэжыма Мікалая Палкіна „прасвяцімель“ Арн-Клугер—найбольш агідны і брудны здраднік працоўных. „Арн-злодзей“—заслужаная клічка, дадзеная яму Нахманам.

У вобразе Рохэлэ—дачкі Цале, слугі галоўнага клерыкала—тэатр ускрывае пратэст жывога чалавека—жанчыны супроць рэлігійных путаў, якія прыгнятаюць асобу фізічна і маральна. Гэта свавольная, фізічна здаровая, прыгожая жанчына сваёй апазіцыйнасцю зрывае маску святасці з клерыкальнага „цадзіка“ і дапамагае выкрыццю фальшы ўсяго клерыкальнага кагала.

Нахман—правадыр прыгнечанай бунтуючай „халястры“ вырас з мас і становіцца на чале іх у барацьбе за кроўныя інтарэсы гэтых мас.

П'еса „Рэкрут“ мае вельмі багатыя лексічныя сродкі, якія дапамагаюць шэрагу актораў у стварэнні поўнакроўных мастацкіх вобразаў.

Спектакль мае некаторыя недахопы.

Пры поўным, разнастайным паказе клерыкальнага кагала і яго прадстаўнікоў, дастаткова чоткім раскрыцці рэакцыйнага твара яўрэўскага „прасвяцціцельства"—значна схематычней паказана працоўная „халястра". Аднаго вобраза Нахмана тут зусім недастаткова, не кажучы аб тым, што раскрыццё гэтага вобраза ідзе не зусім паслядоўна. Рэалістычны, сцэнічны характар Нахмана у яго ўзаемаадносінах з Фрумэлэ пераключан у лірыкарамантычны план. Каханне Нахмана да дачкі багацея настолькі ахапляе яго, што ён даверліва трапляе ў сетку, расстаўленую Арн-Клугерам, па ўласнай назве Нахмана „Арн-злодзея", давяраецца зводніцы Ханцэ і ідзе па яе ўказанню да свайго лютага ворага прасіць у таго абароны кахання. Такая даверлівасць і наіўнасць ніяк не гарманіруе з вобразам ваяўнічага бунтара Нахмана. Тут, як кажуць, усё „дзеля інтрыгі".

Тэатр, маючы досыць схематычны паказ „халястры" у п'есе гэтага не перамог і нават не забяспечыў яго належнымі акторскімі сіламі. Апрача Нахмана амаль усе ролі ў „халястры" выконваюцца студыйнай моладдзю, што хоць і мае пэўнае навучальнае значэнне, але адбіваецца на ўзроўні мастацкай якасці амаль цэлага другога акта.

Масавыя сцэны ў першым акце рэжысурай раскрыты некалькі фармалістычна. Перад гледачом праходзіць равучы, рытмічна рухаючыся абязлічаны натоўп і нейкая масавая пантаміма на музыцы.

Няправільным з'яўляецца сімвалічна-містычны пачатак пятай сцэнкі (прыгвазданне да ганебнага слупа Рохэлэ), які мастацкі не выкрываецца пазнейшым разгортваннем дзеі.

Жудасна-меладраматычны вобраз гістэрычнай жанчыны, якая ўвасабляе жах і сполах мас перад рэкрутчынай, пададзены занадта ў змрочных і натуралістычных фарбах і выпадае з рэалістычнага стыля спектакля. Фінал пятай сцэнкі—аслабаненне Рохэлэ ад самасуда Нахманам і яго таварышамі і прыгвазданне да ганебнага слупа „цадзіка"—зроблены з сцэнічнага боку досыць цікава—значна аднак спрашчае складанасць барацьбы з клерыкалізмам у тагачасных умовах і з'яўляецца ў большай меры вынікам рэвалюцыйнага імкнення нашага тэатра і драматурга, чым тыповым адлюстраваннем гістарычнай сапраўднасці эпохі.

Мы цалкам згаджаемся з заўвагай тав. Дунца (гл. газету „Акцябр") аб наяўнасці элементаў мелодыкі, нацыянал-этнаграфічнай афарбоўкі шэрагу месц і вобразаў у спектаклі, пры правільнай у цэлым трактоўцы.

Акторскае выкананне ў спектаклі знаходзіцца на значным ідэёва-мастацкім узроўні *)

---

*) Да творчасці актораў тэатра мы думаем звярнуцца ў бліжэйшы час з асобым артыкулам.

Спектакль „Рэкрут“ з'яўляецца сапраўды сінтэтычным спектаклем, дзе арганічна спалучаюцца ўсе кампаненты, у тым ліку і таленавітая музычная партытура Александра Крэйна, якая з'яўляецца неадлучнай часткай спектакля, эмацыянальна папаўняючы найбольш гострыя, найбольш яркія сцэнічныя сітуацыі, дапамагаючы ўскрыццю найбольш складаных калізій і вобразаў. Пабудаваны на шырокім скарыстанні пераважна дэмакратычных элементаў фальклора, адлюстроўваючы пакуту і смутак мас пад прыгнётам клерыкалізма і ваенна-бюракратычнага рэжыма Мікалая 1-га, нарастанне бунтарскіх настрояў, яна ўся пранізана тэмай трывогі з прычыны рэкрутчыны, трымаючы аўдыторыю ўвесь час навакол асноўнай сюжэтнай лініі спектакля.

Александр Крэйн у „Рэкрутах“ зрабіў значны крок наперад у справе перамогі нацыяналістычна-містычных уплываў і нацыянальнай экзотыкі ў музычным фальклоры, якім ён карыстаўся ў „На ланцугу пакуты“ і часткова ў „Глухім“.

Мастацкае афармленне Александра Тышлера, ідучы па шляху рэалізма, увасабляе мястэчка Мікалаеўскай эпохі, над якім пануе свет сінагогі, „цадзіка“ і „прасвеціцеля“. Тышлер праз мастацкую фактуру афармлення ў асноўным здолеў падкрэсліць панска-паразітычны твар і быт клерыкалаў, яўрэйскае буржуазіі і сустарэнні, скрыўленыя завулкі і нахіліўшыся хаты беднаты і працоўных. Грым і вопратка дапаўняюць каларыт эпохі і ўводзяць гледача цалкам у абстаноўку, дзе адбываецца дзея. Светлавое афармленне і багацце цёплых фарбаў у дэкарацыі некалькі зніжае ідэёвы сэнс афармлення, ідучы па шляху пэўнай ідэалізацыі і эстэцкага любавання каларытам старадаўняга мястэчка.

У заключэнне мы павінны адзначыць, што ў гэтай рабоце тав. Рафальскі прадэманстраваў культурнае майстэрства рэжысерскай партытуры, у якой спалучаецца правільнае ўскрыццё класавай сутнасці драматычных канфліктаў у пераважна рэалістычных сцэнічных фарбах, скульптурна выяўленчых і рытмічных мізансцэнах, у сапраўды сінтэтычным спалучэнні усіх кампанентаў спектакля, як музыка, дэкарацыя, святло пры чотка акрэсленых малюнках амаль кожнага вобраза паасобку.

З гэтай работай тав. Рафальскі і тэатр у цэлым уздымаюцца на вышэйшую ступень на шляху скарыстання культурнай спадчыны.

* * *

Спектаклі „Ботвін“, „Авечая крыніца“ і „Рэкрут“ належаць да серыі лепшых работ тэатра. Аднак гэтыя спектаклі даюць нам магчымасць меркаваць толькі часткова аб тым вялікім шляху, які прайшоў Дзяржаўны Яўрэйскі тэатр БССР, і той творчай рабоце, якую ён правёў. Але і на гэтых работах мы бачым, што ў асобе Дзяржаўнага Яўрэйскага тэатра БССР мы маем буйны

тэатральны арганізм, творчасць якога набывае велізарнае значэнне ў справе інтэрнацыянальнага выхавання шырокіх працоўных мас.

Тэатр зараз працуе і ў хуткім часе скончыць спектакль „Вольпонэ“ Бэнджонсона па Стэфану Цвэйгу. Гэтым спектаклем тэатр заканчвае пэўны цыкл сваіх работ у галіне асваення класічнай спадчыны, якую ён правёў за апошні год, пачынаючы з „Віндзорскіх свавольніц“ Шэкспіра.

Бліжэйшай работай Дзяржаўнага Яўрэйскага тэатра з'яўляецца пастаноўка новай п'есы Кушнярова „Браты Гармат“, або інакш „Чорнае і белае“, на тэму аб знішчэнні рэштак старога ў свядомасці кожнага чалавека і барацьбе за новую соцыялістычную свядомасць.

Адначасова тэатр распачынае працу над савецкай трагедыяй Біль-Белацаркоўскага (назва п'есы яшчэ не ўстаноўлена), якую перакладае і перарабляе для тэатра вядомы яўрэйскі савецкі пісьменнік і драматург Годынер. Гэтая п'еса асабліва цікавая па сваёй архітэктоніцы. У чатырохактнай п'есе будзе занята ўсяго толькі пяць чалавек. П'еса напісана ў плане соцыяльна-псіхалагічнага раскрыцця ўнутранага жыцця і перажыванняў новага чалавека.

Тав. Біль-Белацаркоўскі сам апавядае пра сваю п'есу наступнае: „У маёй п'есе фактычна чатыры дзейнічаючыя асобы (пятая роль толькі эпізадычная). Гэта чатыры зусім рознастайныя светапогляды, чатыры чалавекі, якія працуюць ва рознастайных грамадскіх франтах, але якія ўвязаны паміж сабою ўкладам жыцця. Я стаўлю філасофскі абагулена, але не абстрактна, толькі ў арганічнай сувязі з нашай рэчаіснасцю, з творчай работай нашага сёнешняга дня—я стаўлю пытанне пра жыццё, смерць, каханне ў нашым партыйным асяроддзі. Я паказваю трагедыю чалавека, які на сваім уласным цяжкім выхаванні пераканаўся ў тым, што не можна ўключыцца ў жыццё нашага рэканструкцыйнага перыяда метадамі грамадзянскай вайны. Мая п'еса перш за ўсё разлічана на артыста, які мог-бы даць поўнакроўную асобу большэвіка, партыйца, разлічана на актора, які мог-бы перадаць пачуцці і перажыванні новага чалавека“.

Такім чынам п'еса Біль-Белацаркоўскага з'яўляецца выключна ўдзячным матэрыялам для далейшага выяўлення творчых магчымасцяй акторскіх кадраў тэатра, для стварэння імі поўнакроўных мастацкіх вобразаў людзей соцыялістычнай эпохі.

Тэатр зрабіў заказ драматургу Годынеру на п'есу „Бірабіджанцы“ пра соцыялістычнае будаўніцтва ў Бірабіджане.

Рэпертуарны план тэатра сведчыць пра тое, што кіраўніцтва тэатра, пасля некаторых хістанняў у гэтым кірунку, пасля кароткага перыяда захаплення выключна класікай, заняло правільную лінію ў справе фармавання свайго рэпертуара, арыентуючыся галоўным чынам на арыгінальную савецкую, у прыватнасці на яўрэйскую савецкую драматургію, на тэматыку соцыялістычнага

будаўніцтва, на паказ герояў гэтага будаўніцтва—новых людзей сацыялістычнай эпохі.

Акторскія кадры і рэжысура тэатра апошняй работай „Рэкрут" прадэманстравалі новы уздым творчага росту. Гэты творчы энтузіязм калектыва тэатра, які быў ім праяўлены ў рабоце па крытычнаму асваенню класічнай спадчыны, павінен быць цалкам перанесен на работу над арыгінальнай совецкай драматургіяй.

Толькі на высокаякаснай сацыялістычнай драматургіі, пры сапраўднай крытычнай перапрацоўцы лепшых здабыткаў сусветнай тэатральнай культуры, у бязлітаснай барацьбе са ўсялякімі класава-варожымі плынямі ў тэатральнай творчасці, з буржуазным нацыяналізмам, буржуазным фармалізмам, механістычнасцю і г. д., пры разгортванні большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі работ тэатра, пры шчыльнейшай сувязі яго з пролетарскай і літаратурна-мастацкай грамадскасцю,—будзе поўнасцю забяспечан далейшы няўхільны творчы рост Яўрэйскага Дзяржаўнага тэатра, поўнае ператварэнне яго ў магутнейшы сродак партыі ў справе барацьбы за прынцыпы пролетарскага інтэрнацыяналізма, за пабудову бяскласавага сацыялістычнага грамадства.

## КНІГАПІС

**АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ. Творы. Том 1.** Вершы і паэмы. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, ЛІМ, Менск 1932 год.

Поруч з выданнямі збораў твораў старэйшага пакалення беларускай совецкай літаратуры (Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны) ДзВБ распачало патрэбную і карысную справу выдання збораў твораў тых паэтаў і пісьменнікаў, якія прышлі ў нашу літаратуру пасля Кастрычнікавай рэволюцыі. Да ліку іх адносіцца і Андрэй Александровіч. Першы том збору твораў Александровіча дае поўную магчымасць нашаму совецкаму чытачу азнаёміцца з творчым шляхам аднаго з буйнейшых нашых пролетарскіх пісьменнікаў.

Наша совецкая літаратура расла і развівалася ў жорсткай класавай барацьбе, якую вёў і вядзе рабочы клас пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі за замацаванне сваёй дыктатуры, за пабудову соцыялізма.

Комуністычная партыя ўвесь час паказвала і паказвае, што толькі на пролетарскіх шляхах магчымы сапраўдны велізарны рост нацыянальнага культурнага будаўніцтва, што толькі ў барацьбе з нацыяналістычнай ідэалогіяй магчыма сапраўды шырокае і магутнае развіццё беларускай пролетарскай культуры.

Шлях станаўлення Александровіча, як пролетарскага паэты, не адбываўся гладка і без перашкод. Новая якасць яго сёнешняй паэзіі мае соцыяльныя прад'умовы ў ранняй творчасці, калі разглядаць гэту творчасць у руху, як пэўны працэс.

І калі на сёнешні дзень Александровіч стаў буйным пролетарскім паэтам, то гэта азначае не раптоўнае зняцце супярэчнасцяй, а тое, што ў іх барацьбе вядучай супярэчнасцю, вядучым пачаткам была для паэта любоў да нашай рэволюцыі, імкненасць да зліцця з пераможным класам, жаданне зразумець рэволюцыю ва ўсей яе канкрэтнасці, упартая барацьба ў шэрагах яе будаўнікоў.

Першы том збору твораў паэта ахапляе яго вершы і паэмы. Калі чытаеш гэтыя творы, цябе захапляе глыбокі энтузіазм і вера ў канчатковую перамогу пролетарыята, якая крынічыць з яго радкоў. Не як староннi наглядач, а як непасрэдны актыўны ўдзельнік у нашым пасяховым соцыялістычным будаўніцтве паўстае перад намі паэт.

Перагортваючы старонкі кніжкі, адразу кідаецца у вочы палітычная накіраванасць, ваяўнічасць, баявы характар асноўнай масы твораў.

„Мастацтва, казаў Ленін, павінна ўваходзіць сваімі глыбейшымі карэннямі ў самую гушчу шырокіх працоўных мас. Яно

павінна быць зразумела гэтым масам і любіма імі. Яно павінна аб'ядноўваць пачуцце, думку і волю гэтых мас і ўздымаць іх". (З успамінаў Крупскай аб Леніне).

Паэт імкнецца сваю творчасць зрабіць блізкай і зразумелай самым шырокім колам працоўных, адначасна не зніжаючы яе ідэйнай глыбіні. Ён імкнецца арганічна звязаць яе з імкненнямі, перажываннямі і інтарэсамі пролетарыата.

Александровіч—зоркі паэт. Для яго характэрна тое, што ён бачыць у малым вялікае і ў вялікім адрознівае малое. Усё жыццё ён хоча перабудаваць, знішчыць перажыткі старой культуры эксплаататараў. Таму ў яго горад гэта не толькі горад рабочых, фабрык, заводаў, спеваў машын. Горад у часы аднаўленчага перыяда гэта і горад, у якім адносна растуць капіталістычныя элементы. У поэты мы маем шалёную ненавісць да гэтае „нэпманскай банды":

Гэты голас, эх забаўны
Ў сэрцы б'е, як фінскі нож.

Гэтаму свету ашалелага НЭП'у, бруду і распусты ён супроцьстаўляе рабочы калектыў, напорную упартую працу:

Толькі тут ў сям'і фабрычнай
Тут сапраўднае жыццё.

Шырачэзнае кола тэм мы маем у поэты: жыццё рабочых да рэволюцыі, Кастрычнік, барацьба за яго, пакуты Заходняй Беларусі, змаганне з шкоднікамі, нацыянал-дэмакратамі, культурнае будаўніцтва, новы быт, Чырвоная армія, комсомол, соцыялістычнае будаўніцтва, заводская праца і інш. і на фоне гэтых тэм асноўнае і галоўнае—рост і станаўленне новага чалавека.

Поэта ўвесь у сучаснасці.—На кожным этапе гаспадарчага будаўніцтва яго творчасць шчыльна нітуецца з асноўнымі рысамі часу, мастацкі іх падае. Поэта радуецца нашым дасягненням, ён бачыць, як у „звоне сталі", у шуме варштатаў і гуле трактароў нараджаецца новае.

Нашаму разгорнутаму соцыялістычнаму будаўніцтву, велізарным дасягненням працоўных Совецкай Беларусі і Совецкага Саюзу поэт супроцьстаўляе цяжкае пакутнае жыццё працоўных у Заходняй Беларусі, у капіталістычным свеце.

Але ў яго не толькі сум, не толькі боль за пакуты братоў. Глыбокім гневам і абурэннем гучаць гэтыя вершы. Яны арганізуюць да барацьбы, да змагання, заклікаюць да дапамогі нашым братом.

Александровіч—паэт-інтэрнацыяналіст. Ён ведае, што блізкі і родны інтарэсы працоўных розных краін. Таму ён паказвае адзіны фронт працоўных усіх краін у іх барацьбе супроць капітала. Паэт паказвае, што аднолькава цярпяць рабочыя ў Шанхаі, у Берліне, у Ньюёрку, у Заходняй Беларусі. На фоне змагання двух светаў: працы і капіталу, ён паказвае, як пад баявымі сцягамі комуністычнай партыі перамаглі рабочыя ў Совецкім

саюзе, як да сваёй канчатковай перамогі ідуць яны ва ўсім свеце, руйнуючы „завесы канстытуцыі“. І гэтага руху мільённых калон рабочых „не стрымаць ні мітральезай, ні кулямётам“.

Не толькі банкіры Лондана, Парыжа, Ньюёрка замацоўваюць свой адзіны фронт у супроцьвагу адзінаму пролетарскаму фронту, і ў нас у межах Совецкага саюза, у межах совецкай Беларусі ёсць людзі, якім:

> Нашае сёння варожа—
> Гатовы атрутай,
> Чорнай пакутай,
> Чорнай пакутай
> Стрыножыць!

Александровіч упэўніваюча выкрывае нацдэмаў, кулакоў і іншых класавых ворагаў у шэрагу сваіх твораў.

У вершах ранняга перыяду творчасці Александровіча яшчэ няма пукатага паказу рэальных людзей, якія руйнуюць стары свет і будуюць новае жыццё. Аўтар яшчэ ў пэўнай ступені знаходзіцца ў палоне схематызма, замяняючы інады лозунгамі і агульным паказам будаўніцтва і будаўнікоў.

Рэчаіснасць у першых творах успрымаецца, як паасобныя адарваныя з'явы і факты, слаба звязаныя з агульным працэсам. Поэт не ідзе далей таго, што кідаецца ў вочы на паверхні. Праўда, ён адчувае сілу і веліч рэволюцыі, сілу рабочага класа, але спачатку не разумее рэволюцыі, як глыбокага ўсебаковага процэсу і таму ў яго, досыць часта, машына захіляе чалавека. Рэволюцыя яму ўяўляецца і знаходзіць сваё адлюстраванне часцей як мяцежная стыхія, бунтаўніцтва якой яго захапляе.

На рэканструкцыйным перыядзе мы бачым, як паглыбляецца творчасць Александровіча. Справа ў тым, што к гэтаму часу пролетарская літаратура пад кіраўніцтвам партыі дамаглася вялізных поспехаў у змаганні з усялякімі антыпролетарскімі выступленнямі на літаратурным фронце, значна ідэёва і мастацкі вырасла.

Пры ўваходзе у рэканструкцыйны перыяд перад пролетарскім літаратурным фронтам устала ва ўвесь рост задача жорсткай барацьбы і выкрыцця ўсіх і ўсялякіх антыленінскіх тэорый у галіне літаратуры, якія ажывіліся і актывізаваліся ў сувязі з абвастрэннем класавай барацьбы ў краіне.

Першым буйным творам, з якім Андрэй Александровіч уваходзіць у рэканструкцыйны перыяд, з'яўляецца паэма „Цені на сонцы“. У ёй паэт дае разгорнуты малюнак варожай дзейнасці нацыаналдэмакратаў, пуката паказвае класавых ворагаў. Ен паказвае „цёмныя цені“ на светлым сонцы нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Для нас важна палітычная актуальнасць гэтай паэмы, насычанасць яе пачуццём класавай нянавісці да тых, хто перашкаджае нам будаваць новы соцыялістычны лад. Александровіч тут выступае, як барацьбіт, як змагар з канкрэтнымі носьбітамі зла. Ен ускрывае іх класавую сутнасць і паказвае, як гэтыя, здавалася-б

розныя людзі з розных класавых асяроддзяў, групуюцца для барацьбы адзіным фронтам супроць Совецкай Беларусі, супроць дыктатуры пролетарыата.

У гэтай паэме аўтар стыпізаваў шмат глыбокіх жыццёвых наглядванняў і замалёвак той жорсткай класавай барацьбы, якая адбывалася і адбываецца ў краіне. Для аўтара героі яго паэмы не проста паасобныя персонажы, паасобныя класавыя ворагі,— наадварот аўтар паказвае іх адзіны фронт для змагання з дыктатурай пролетарыата.

Гэта паэма з'яўляецца не толькі мастацкі ўпэўніваючым паказам шкоднікаў, яна адначасна з'яўляецца і сігналам пра небяспеку. Гэтай паэмай Александровіч завастраў пільнасць рабочага класа і яго авангарда—комуністычнай партыі на неабходнасці барацьбы з класавым ворагам.

Паэма з'яўляецца вынікам глыбокага асмыслівання аўтарам класавай барацьбы на пэўным гістарычным этапе з пункту погляду пролетарыята. Гэта пякучая сатыра жорстка бічавала носьбітаў класава-варожай ідэалогіі нацыяналдэмакратаў, канцэнтравала на іх галоўную ўвагу чытача. Аклександровіч смела сарваў з іх маскі.

Не толькі ў „Ценях на сонцы", але ў цэлым шэрагу іншых твораў, паэт смела зрывае маскі з нацдэмаў і іншых класавых ворагаў, мастацкі ўпэўніваюча паказвае іх твар. (Верш „Аукцыон").

І сваю „Паэму пра ворага" Александровіч заканчвае наступнымі радкамі:

> Маскі далоў,
> Рэволюцыі суд
> Бязлітасны і
> Канчатковы!

Барацьба з класавым ворагам адна з істотных рыс, якая прасякае ўсю творчасць паэты. Александровіч паказвае класавага ворага ў розных выглядах, пад рознымі маскамі і лозунгамі, але за гэтымі маскамі, за рэволюцыйнымі лозунгамі паэт бачыць яго і смела б'е сваім большэвіцкім словам.

Вершы апошніх год поўны таго пафасу „віхурыстай працы", якой занята краіна. Аўтар гаворыць аб брыгадах рабочых, якія ўпарта змагаюцца за выкананне і перавыкананне прамфінплана, аўтар кажа аб „краіне ў паходзе", у паходзе за прыгожую соцыялістычную будучыню.

Падзел „спрадвечных скарбаў абшараў", рост новай вёскі, якая пад кіраўніцтвам пролетарыята і яго авангарду комуністычнай партыі паспяхова змагаецца за соцыялістычную гаспадарку, вось тэматыка новых вершаў.

> Мы пачалі
> І скончыць здужым
> Краіны шлях цэментаваць.—

упэўнена заяўляе паэта.

Формула любві да рэволюцыі наогул, змяняецца формулай любві і зліцця і пролетарыятам, а значыць—бязлітаснасці да класавага ворага.

А якія гнеўныя канцэнтраваныя словы знаходзіць Александровіч, калі справа датыкаецца тых, хто вядзе змаганне супроць рэволюцыі. Тут ён з лірыка рэволюцыі зварачаецца ў паэта трыбуны, які адточаным словам моцна б'е ворага.

Калі асноўная тэма творчасці Александровіча гэта—рост новага чалавека на фоне змагання старога з новым, перамаганне новым рэштак старога, то асноўны герой Александровіча гэта—партыя, рабочы клас, які пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі паспяхова будуе соцыялізм у нашай краіне.

У творах апошніх год Александровіч шырока ставіць пытанне аб тых людзях, якія творча работаюць на пэўным участку, які даручаны ім партыяй, аб людзях, якія перамагаюць цэлы шэраг цяжкасцяй, праводзячы ў жыццё ідэю пераможнага соцыялізма.

Эпоха гучыць для яго, як цэльная сімфонія, у якой ён прымае непасрэдны ўдзел, з'яўляючыся адным з галасоў, які гучыць ва ўнісон з гулам эпохі.

У гэтых творах значна больш экспрэсіі і гарачай эмоцыянальнасці. Тут паэт ідзе па лініі найбольшага супраціўлення, змагаючыся за прастату, імкнучыся зрабіць слова лапідарным, здольным да фармулявання вялікіх ідэй, не лакіруючым рэчаіснасць, а якраз фармуючым і ўздымаючым на вялікую прынцыповую і мастацкую вышыню.

Тут мы яскрава бачым, як суб'ектыўна рэволюцыйныя адносіны да здарэнняў замяніліся адносінамі прадстаўніка класавай грамады, які з пазіцый пролетарыята ацэньвае з'явы атуляючага жыцця.

Александровіч уваходзіць у гісторыю беларускай літаратуры, як буйны пролетарскі паэт, які прайшоў досыць складаны творчы шлях. Паэта, які калісці хацеў кідацца з сонцам на нажы (верш „Лепш не суйся") вырас у моцнага паэтычнага звястуна дыктатуры пролетарыята, які здолеў у сваёй творчасці вобразна здзейсніць велізарную соцыяльную ідэю, поруч з дробязямі штодзённай рэволюцыйнай практыкі. Першы том яскрава паказвае, што асноўным дамінуючым у працэсе творчага росту Александровіча з'яўляецца з'яўленне і нарастанне ў яго творчасці рысаў, якія паказваюць глыбокае ўсведамленне задач сучаснасці, усведамленне суадносін класавых сіл у краіне.

Гэтая кніжка дае чытачу яскравае ўяўленне аб творчым шляху пісьменніка, паказвае, як у працэсе перамагання ранейшай абмежаванасці рос пролетарскі паэт Александровіч—аўтар „Хлебнай зімы", „Векапомнай восені" і інш. твораў.

*М. Аляховіч.*

## ЗМЕСТ





---

**Рэдактар М. ЛЫНЬКОЎ.**

**Рэдкалегія:** Браныштэйн, Зарэмбоўскі, Галавач, Жылуновіч, Клімковіч, Колас, Крапіва, Чорны, Глебка.

